№2 (977) 7 лютага 2018 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

Наша Ніва 16+

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

# Якубовіча і Давыдзьку зменяць Жук і Эйсмант

**Аляксандр Лукашэнка** абмаладзіў кіраўніцтва органаў дзяржпрапаганды.

Дырэктар афіцыйнага агенцтва БелТА Дзмітрый Жук стаў галоўным рэдактарам газеты «Советская Белоруссия» замест Паўла Якубовіча.

Жук некалі ўзначальваў прэсслужбу Аляксандра Лукашэнкі. Ён сын пісьменніка Алеся Жука, аўтара «Палявання на апошняга жураўля». Праўда, Жук-сын піша па-руску, а не па-беларуску.

Павел Якубовіч быў на сваёй пасадзе доўгажыхаром: 24 гады ён узначальваў газету прэзідэнцкай адміністрацыі і быў адным з абліччаў дзяржаўных СМІ.

Старшынёй Белтэлерадыёкампаніі замест Генадзя Давыдзькі прызначаны ягоны намеснік Іван Эйсмант.

Першы намеснік міністра інфармацыі Ігар Луцкі прызначаны гендырэктарам тэлеканала СТБ. Раней гэту пасаду займаў Юрый Казіятка.

Давыдзька расказаў «Нашай Ніве», што сфакусуецца на працы ў «Белай Русі». А вось Павел Якубовіч кажа, што ад актыўнай дзейнасці адыдзе – яму ўжо 71 год. Праўда, ён мае застацца ў грамадскай радзе пры Міністэрстве ўнутраных спраў, з якім ён звязаны з часоў маладосці. Акрамя таго, ён абяцае далей займацца пытаннямі мемарыяла ў Курапатах.

«Што тычыцца Давыдзькі, я думаю, яго статус трэба павышаць і разглядзець пытанне, унесці прапанову аб яго накіраванні ў Савет Рэспублікі сенатарам. Гэта ўзмоцніць яго пазіцыі. Я не выключаю, што і Павел Якубовіч зможа там працаваць», — абяцаў адстаўленым Аляксандр Лукашэнка.

«Нам вельмі патрэбныя дасведчаныя людзі. Прытым людзі, якія прайшлі гэты пераломны перыяд у нашай гісторыі — дарогу ад Савецкага Саюза да незалежнай Беларусі. Людзі, якія правільна разумеюць гэты перыяд і тыя перамены, што адбыліся», — адзначыў Лукашэнка.



**Галоўны факт пра Эйсманта, які зацямняе ўсе астатнія, — гэта тое, што ён муж Наталлі Эйсмант, прэс-сакратаркі Аляксандра Лукашэнкі.**

Хто ж такі 40-гадовы Іван Эйсмант, які ўзначаліць цэнтральнае тэлебачанне краіны?

Галоўны факт пра Эйсманта, які зацямняе ўсе астатнія, — гэта тое, што ён муж Наталлі Эйсмант, прэс-сакратаркі Аляксандра Лукашэнкі. Пабраліся шлюбам яны ў верасні 2010 года.

На той момант і Іван, і Наталля працавалі вядоўцамі на БТ. Наталля вяла «Навіны рэгіёна», а Іван — «Зону Х». Сведкай на вяселлі была актрыса Купалаўскага Валянціна Гарцуева.

Гэта быў тыповы службовы раман. У 2006 годзе Наталля прыйшла працаваць у перадачу «Дзелавое жыццё», якую вёў Іван. А праз два гады пара пачала сустракацца.

У лістападзе 2014 года Аляксандр Лукашэнка прызначыў Наталлю Эйсмант сваім прэс-сакратаром. З таго часу яе называюць адной з найбольш уплывовых жанчын у краіне.

Цікава, што абое Эйсманты ў час працы на БТ бралі сабе псеўданімы. Наталля ў дзявоцтве была Сялюн, а на БТ выступала пад прозвішчам Кірсанава. Эйсмант жа стаў Іванам Міхайлавым. Як бачым, замест адметных беларускіх прозвішчаў яны выбіралі сабе тыпова рускія нікі.

Родам Іван Эйсмант з мястэчка Луцкаўляны Гродзенскага раёна. Гэта каталіцкі рэгіён, усяго за пяць кіламетраў ад польскай мяжы. Эйсманты – стары род, карані якога губляюцца ў Вялікім Княстве Літоўскім.

У Івана ёсць яшчэ старэйшы брат, які стаў галоўным аграномам у СВК імя Дзеншчыкава, а сястра Ганна — вядучай спартыўных навін на БТ.

Бацькі Эйсманта, якія разам ужо 49 гадоў, працавалі ў калгасе. Цяпер яны пенсіянеры і стараюцца не прапускаць ніводнага эфіру, дзе працуюць іх дзеці.

Цікава, што Іван Эйсмант скончыў Акадэмію міліцыі, за 8 гадоў даслужыўся да капітана і толькі пасля перайшоў у зусім іншую сферу.

**Віталь Васількоў**

## сціісла

### Колькі беларусаў падпадзе пад абнўлены дэкрэт па дармаедстве?

Пад дзеянне дэкрэта № 1 могуць трапіць каля 250 тысяч беларусаў. Пра гэта заявіў начальнік упраўлення палітыкі занятасці Мінпрацы Алег Токун. Пад дзеянне дэкрэта трапяць тыя, хто знаходзіцца ў працаздольным узросце, але нідзе афіцыйна не працуе і пры гэтым не мае афіцыйных даходаў і не плаціць падаткаў. На думку Алега Токуна, «дэкрэт падштурхне людзей выходзіць з цяню».

### Беларускі хакеіст памёр у 25 гадоў

Былы хакеіст мінскага «Юнацтва», «Віцебска» і «Ліды» Канстанцін Грынь прайграў барацьбу з ракам.

У снежні 2016 года ў яго выявілі пухліну ў страўніку і прызначылі 6 курсаў хіміятэрапіі. Пасля трох курсаў пухліна сышла і зацягнулася шнарам, але пасля 6-га курса зноў пачала расці. Была праведзена аперацыя, у выніку якой выдалілі 2/3 страўніка. Затым прызначылі яшчэ 6 курсаў хіміятэрапіі ...

Галава ў хлопца была светлая: паступіў у Эканамічны ўніверсітэт, працаваў менеджарам.

### Расследаванне па гібелі Коржыча пайшло ўглыб

Тэрміны расследавання па справе гібелі радавога Коржыча працягнуты, паведаміў журналістам старшыня Следчага камітэта Іван Наскевіч.

«Выяўлены шэраг іншых фактаў нестатутных узаемаадносін не толькі ў гэтым вайсковым падраздзяленні, але і ў іншых часцях. Вайскоўцы пачалі даваць паказанні адносна падзей гадавой, двухгадовай даўніны, сцвярджаючы, што і яны з'яўляліся аб'ектамі гвалту з боку таварышаў па службе. Прыйшлося падоўжыць тэрміны расследавання», — цытуе старшыню Следчага камітэта агенцтва БелТА.

### «Гэта вам за пацаноў!»

З'явілася відэа, як пілот збітага расійскага Су-25, магчыма, падрывае сябе.

3 лютага ў Сірыі паўстанцы збілі расійскі самалёт Су-25, што бамбіў гарадок на тэрыторыі, занятай праціўнікамі рэжыму Асада. Неўзабаве ў інтэрнэце з'явілася відэа, на якім чалавек падрывае сябе гранатай з крыкам «Гэта вам за пацаноў!». Пакуль невядома, гэтае відэа сапраўднае ці падробнае.

Многія параўноўваюць вайну Расіі ў Сірыі з той, якую ў Афганістане вёў Савецкі Саюз.

**Сяргей Гезгала**

in memoriam

## Міхал Анемпадыстаў памёр у 53 гады

Выбітны паэт і мастак адышоў 24 студзеня, пасля раптоўнага інсульту — ён заснуў проста за камп'ютарам.

Анемпадыстаў быў адным з бацькоў беларускага рока: яго вершы сталі песнямі N.R.M., «Новага Неба», Змітра Вайцюшкевіча, IQ48. Ён быў аўтарам славутага «Народнага альбома».

Сябры ж ведалі Міхала як неймаверна высакароднага чалавека з каласальнымі ведамі пра Беларусь і мастацтва. Ён аказаў вялізны ўплыў на тысячы людзей – як асабіста, так і сваёй паэзіяй:




Простыя словы,  
простыя рэчы:  
хлеб на стале,  
полымя ў печы.

Гэта так проста,  
гэта так добра,  
як з галавою  
залезці пад коўдру...

Простыя словы,  
простыя рэчы...

Прыцемкам сінім,  
зімовай парою  
ў доме бацькоўскім  
усё так знаёма.

Ёсць чым сагрэцца,  
ёсць дзе схавацца  
ў доме бацькоўскім,  
у матчынай хаце.

Простыя словы,  
простыя рэчы...

Усё так надзейна,  
усё так грунтоўна.  
Што тут дадаць?  
Хіба што нічога.

Можна жыць далей,  
дзень прыйдзе новы.  
Дабранач, паненкі!  
Дабранач, панове!

## На 108-м годзе жыцця памёр Барыс Кіт

1 лютага ў Франкфурце-на-Майне (Нямеччына) памёр вядомы навуковец Барыс Кіт.

Пра смерць Барыса Кіта паведаміла ягоная жонка Тамара Казевіч.

Барыс Кіт знойдзе вечны спачын на праваслаўных могілках у нямецкім горадзе Вісбадэн, дзе каля 30 гадоў таму ён сам выкупіў участак.

Кіт быў патрыярхам беларусаў свету.

Барыс Кіт нарадзіўся 6 красавіка ажно 1910 года ў Санкт-Пецярбургу ў сям'і беларуса. Пасля рэвалюцыі выехаў на радзіму бацькі ў вёску Агароднікі Карэліцкага раёна, закончыў Навагрудскую беларускую гімназію, Віленскі ўніверсітэт.

Па адукацыі быў настаўнікам, працаваў дырэктарам Віленскай і Навагрудскай беларускамоўных гімназій, настаўніцкіх семінарый у Паставах і Маладзечне. У самыя змрочныя гады ён упарта змагаўся за беларускамоўную адукацыю. Ягоная адданасць школе і вучням яго ўратавала – у простым сэнсе слова.

У 1930-я яго двойчы арыштоўвалі польскія ўлады. А ў 1944 ён трапіў у камеру смяротнікаў гестапа. Ад смерці яго цудам уратавалі два былыя вучні.

Пасля вайны Кіт эміграваў у ЗША. Там ён працаваў у амерыканскай касмічнай праграме, удзельнічаў у распрацоўцы паліва для ракетных рухавікоў.

На пенсію Кіт пераехаў з ЗША ў Нямеччыну, у Франкфурт-на-Майне, каб быць бліжэй да Бацькаўшчыны.

Колькім людзям ён дапамог!



# Топ-5 самых багатых кандыдатаў у дэпутаты Мінскага гарадскога савета

На сайце Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта з'явіліся біяграфіі, а таксама даведкі аб даходах кандыдатаў у дэпутаты на мясцовых выбарах. Цікава зірнуць, хто ж з'яўляецца самым багатым з прэтэндэнтаў.

Варта адзначыць, што кандыдаты падавалі дэкларацыю за 2016 год, бо дакументы збіраліся яшчэ напрыканцы 2017 года. У дэкларацыях указваецца агульная сума гадавога даходу. У яго могуць уваходзіць заробак, пенсія і стыпендыя, даход ад продажу кватэры ці аўтамабіля, дывідэнды ад акцый. Долю кожнай з крыніц пралічыць немагчыма, мы пралічваем сярэдні даход за месяц. Варта памятаць, што кандыдаты маглі на працягу года змяняць месца працы.

**1. Ігар Русакевіч (Ахоцкая выбарчая акруга № 2)**



Даход: 9576 беларускіх рублёў, 310 000 даляраў, 500 000 расійскіх рублёў.

Самы багаты кандыдат абіраецца ў Мінгарсавет ужо не ўпершыню. У цяперашнім скліканні ён з'яўляецца старшынёй камісіі па эканамічным развіцці, фінансах і бюджэце.

Раней Русакевіч працаваў першым намеснікам у «Ітэра-Бел». Гэта расійская кампанія — адна з найбуйнейшых будаўнічых фірм краіны. Напрыклад, менавіта «Ітэра» мелася ўзводзіць «Мінск-сіці».

Цяпер Русакевіч балатуецца як сябра назіральнай рады завода «Прамбудіндустрыя». Калі палічыць сярэдні даход Русакевіча, то выходзіць больш за 27 тысяч даляраў на месяц.

Адметна, што ва ўласнасці Русакевіча няма нерухомасці.

У свой час Русакевіч пісаў сумесныя навуковыя артыкулы з цяперашнім кіраўніком Нацбанка Паўлам Калаўрам, а таксама праводзіў бізнэс-трэнінгі для прадстаўнікоў БРСМ.

На старонцы Русакевіча «Укантакце» стаіць наступны статус: «Я вельмі паважаю ворагаў, таму кожны год прыношу кветкі на іх магілы».

**2. Павел Бачарнікаў (Слабадская выбарчая акруга №28)**



Даход: 507 753 беларускія рублі і 3 845,6 еўра.

Бачарнікаў з'яўляецца дырэктарам таварыства з абмежаванай адказнасцю «Віпоінт». Што гэта такое? Прадпрыемства з'яўляецца адным з найбуйнейшых пастаўшчыкоў будаўнічай тэхнікі. Шмат прапануюць у продаж ці арэнду пад'ёмнікі. Ёсць у Бачарнікава і іншыя прадпрыемствы, у тым ліку тыя, што займаюцца пытаннямі пажарнай бяспекі.

Выходзіць, што ў сярэднім у месяц Бачарнікаў мае 22 тысячы даляраў. Таксама ў яго ва ўласнасці кватэры, дом і два зямельныя надзелы.

Варта адзначыць, што па гэтай акрузе няма стапрацэнтнага кандыдата ад улады, таму, выглядае, менавіта Бачарнікаў мае найбольшыя шанцы стаць дэпутатам. У супернікаў у яго прадстаўнік «Руху за Свабоду» Юрый Меляшкевіч.

**3. Уладзімір Хейфец (Заслаўская выбарчая акруга №40)**



Даход: 280 353 беларускія рублі.

Паводле рэйтынгу інтэрнэт-выдання *ej.by*, Хейфец займае 140-е месца сярод бізнэсоўцаў краіны. Хейфец кіруе вялізным гандлёвым цэнтрам «Галерэя Мінск» каля Нямігі. Раней бізнэсовец шмат укладваўся ў буцікі. Адметна, што ён пры гэтым не мае вышэйшай адукацыі.

У адным з інтэрв'ю Хейфец казаў, што сям'я не дужа добра паставілася да таго, што ён ідзе ў дэпутаты. Суперніцай бізнэсмена будзе экс-кандыдатка ў прэзідэнты ад «Гавары праўду» Таццяна Караткевіч. Сам Хейфец вельмі станоўча адгукаецца пра Таццяну.

**4. Святлана Яцына (Мірашнічэнкаўская выбарчая акруга № 43)**



Даход: 137 886 беларускіх рублёў.

Індывідуальны прадпрымальнік, прадстаўніца ЛДПБ. Аналізуючы дэкларацыі прадпрымальнікаў, трэба ўлічваць, што высокі даход часта суправаджаецца такімі ж вялікімі стратамі. Атрымaная сума — не чысты прыбытак.

Ва ўласнасці кандыдаткі ёсць аж чатыры кватэры, паўдома ў Мінску і палова зямельная надзела ў сталіцы, а таксама два зямельныя надзелы ў Мінскім раёне.

**5. Аляксей Пакутнік (Пляханаўская выбарчая акруга № 10)**



Даход: 103360 беларускіх рублёў.

Яшчэ адзін прадпрымальнік з ЛДПБ. З'яўляецца дырэктарам прыватнага гандлёвага ўнітарнага прадпрыемства «Глас-Лагісцік». Як вынікае з назвы, кампанія займаецца міжнародны перавозкай грузаў аўтамабільным, марскім і чыгуначным транспартам.

У сацсетках у асноўным рэпосціць допісы пошукавага атрада «Анёл». Хаця бывае, што каменцяць і «каляпалітычныя» навіны, напрыклад выдаленне Лукашэнкі на хакейным Калядным турніры. «Асудзілі, пасадзілі», — са смайлікам напісаў Пакутнік.

Дэпутатам ён стане наўрад ці: па акрузе балатуецца галоўны доктар Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Ленінскага раёна Віктар Жукоўскі.

**Зміцер Панкавец**

**«Наша Ніва» шукае SMM-менеджара**

Нам патрэбны чалавек, які будзе весці сацсеткі і мэсэнджары НН.

Калі вы любіце беларушчыну, цудоўна валодаеце пісьмовай беларускай мовай, умееце займацца SMM, добра арыентуецеся ў правілах, па якіх жывуць «Фэйсбук», «Укантакце», «Аднакласнікі», «Інстаграм», «Твітар», «Тэлеграм» і «Вайбер», знаёмыя з графічнымі рэдактарамі і самі можаце зляпіць вясёлую карцінку ці свежы мем, маеце пачуццё гумару — то мы чакаем ваша рэзюмэ на **nn@nn.by** (не забудзьце пакінуць спасылкі на асабістыя старонкі ў сацсетках).

Якія выгоды чакаюць нашаніўскага SMM-менеджара: месца пад сонцам у офісе ў цэнтры Мінска ля метро, маладая каманда, бязмежная прастора для крэатыву і творчасці, добры заробак.

Дык спрабуйце!

## 11 апавяданняў і 2 прыпавесці. Выйшла новая кніга прозы Уладзіміра Някляева

«На ўсякім свеце» — так называецца новая кніга прозы Уладзіміра Някляева. У ёй 11 апавяданняў і дзве прыпавесці. Хаця падзел на гэтыя жанры даволі ўмоўны, асабліва калі казаць пра такога літаратара, як Някляеў.

«Што б ні казалі, ні плялі, мы не ў зямлі, а на зямлі!» — напісаў Някляеў у адным з вершаў. У творах Някляева ўвогуле як бы няма памерлых, адзначыла Валянціна Аксак. Усе — жывыя. І гэта стварае асаблівы, поўны надзеі свет.

Кніга выйшла ў выдавецтве «Кнігазбор» у бібліятэчцы часопіса «Дзеяслоў».

Уладзімір Някляеў
на ўсякім свеце



## сціcла

**У Маскве забілі двух маладых беларусаў-будаўнікоў**

Па словах прараба, рамонт у адным з таўнхаўсаў рабілі трое работнікаў з Сібіры і двое з Беларусі. Сібіракоў цяпер шукаюць: яны разам з'ехалі на «Мерседэсе», што належаў загінулым.

**У Глуску п'яны міліцыянт выехаў на тратуар і збіў двух падлеткаў**

Здарэнне адбылося ўвечары 4 лютага. «Аўдзі-100» вылецела на тратуар. ДАІ паведамляла, што кіроўца быў п'яны. Пешаходы — двое 17-гадовых падлеткаў — шпіталізаваныя з траўмамі.

Вядома, што за стырном машыны быў 22-гадовы міліцыянт Дзмітрый Г. Ён мае званне лейтэнанта міліцыі, працаваў участковым. Інфармацыя пра Дзмітрыя Г. хутка знікла з сайта глускай міліцыі.

Сваякі Дзмітрыя адмовіліся каментаваць здарэнне.

## Абвесткі

**Беларускамоўныя набажэнствы ў праваслаўных храмах у лютым**

**Мінск**

Храм Святой пакутніцы Таццяны
(вуліца Русіянава, 50; мікрараён Уручча)
9.02 пятніца 9:00

Сабор Святых апосталаў Пятра і Паўла
(вуліца Ракаўская, 4, станцыя метро «Няміга»)
10.02 субота 6:30
17.02 субота 7:30
24.02 субота 7:30
(штосуботу)

Храм блажэннай Ксеніі Пецярбургскай
(вуліца Янкоўскага, 2; мікрараён Сухарава)
11.02 нядзеля 8:30

Храм свяціцеля Кірылы Тураўскага
(вуліца Зыбіцкая, 2; станцыя метро «Няміга»)
27.02 аўторак 6:30

**Мінская вобласць**

Храм у гонар прападобнай Еўфрасінні, ігуменні Полацкай (і ніжні (крыптавы) храм у гонар свяціцеля Міны, епіскапа Полацкага) у Івянцы
(г.п. Івянец, пл. Свабоды, 3)
1–2 Літургіі штомесяц — даты ўдакладняюцца

**Гродна**

Царква Святых Барыса і Глеба
(вуліца Каложа, 6)
10.02 субота 9:00
17.02 субота 9:00
24.02 субота 9:00
(штосуботу)

Царква Каложскай іконы Божай Маці
(вуліца Каложа, 10)
Кожную першую нядзелю месяца

Царква Сабора ўсіх Беларускіх Святых (верхні храм)
(праспект Янкі Купалы, 90)
18.02 нядзеля 9:00
(кожная трэцяя нядзеля месяца)

Храм блажэннай Ксеніі Пецярбургскай (прыход прападобнамучаніка Серафіма Жыровіцкага)
(вуліца Дамейкі, 7)
25.02 нядзеля 9:00
(кожная чацвёртая нядзеля месяца)

## Самае чытанае на nn.by за студзень

1. Смерць дзіцяці ў Нясвіжы: рэанімабіль ехаў чатыры гадзіны
2. Салон «Вертыкаль»: топ-7 начосаў з'езда «Белай Русі» ФОТЫ
3. У інтэрнэт трапіла шакуючае ВІДЭА семінара для беларускіх ідэолагаў
4. Студэнтку, якая ўзначаліла «Моладзь БНФ», адлічваюць з БДУ
5. Выкладчыца БДУ Падаляк пра Смілевіч: «Яна не ведала элементарных рэчаў»
6. Прафесар БДУ выстройваў студэнтак ля дошкі па памеры грудзей?
7. Настаўніца рускай мовы напісала адкрыты ліст міністру адукацыі
8. Хворага на рак мужчыну высадзілі з маршруткі пад Слуцкам
9. У Беларусі заблакаваны сайт «Хартыя'97»
10. Беларусы ва Украіне адмовіліся здымаць георгіеўскую стужку з машыны

# 57 кандыдатаў, якія будуць абраныя ў Мінгарсавет — праверце спіс пасля выбараў: прагноз «НН»

Выбары мясцовых дэпутатаў — самыя нецікавыя для насельніцтва. Нават па афіцыйных падліках, іх ігнаруюць больш за 40% мінчукоў. Аднак назіральнікі фіксуюць іншыя лічбы яўкі — добра, калі на ўчастку прыйдзе хаця б кожны чацвёрты жыхар сталіцы.

Тым не менш, некалькі сотняў ахвотнікаў вырашылі змагацца за 57 месцаў у Мінгарсавеце. Мясцовыя выбары праводзяцца па тых жа стандартах, што і ўсе іншыя. А значыцца, іх вынікі з вялікай доляй імавернасці можна прадказаць, проста зірнуўшы на спісы кандыдатаў.

Галоўнае правіла — удзельнічае «пасада», а не асоба. Варта звяртаць увагу яшчэ на спосаб вылучэння кандыдата. Лепш, калі збор подпісаў выбарцаў будзе падмацаваны вылучэннем ад працоўнага калектыву.

Падчас парламенцкай кампаніі — 2016 «Наша Ніва» адгадала 96% кандыдатаў. Які вынік атрымаецца цяпер?

Самая цікавая акруга знаходзіцца ў Малінаўцы — Слабадская №28. Патэнцыйная ўладная пераможца тут зняла сваю кандыдатуру. Сярод «непалітычных» застаўся Павел Бачарнікаў, дырэктар кампаніі «ВІП-1», якая займаецца сістэмамі бяспекі. А таксама прадстаўніца «Гавары праўду» Ала Толкач і Юрась Меляшкевіч ад БНФ. Іншыя кандыдаты — слесар-камуніст і прадстаўніца ЛДП. Цалкам магчыма, што менавіта па гэтай акрузе будзе «прызначаны» апазіцыянер.

Падобная сістэма прымянялася ў 2016 годзе падчас парламенцкіх выбараў — тады праўладная кандыдатка знялася з акругі цяперашняй старшыні Таварыства беларускай мовы Алены Анісім.

Ёсць яшчэ некалькі акруг, дзе ёсць два фаварыты, супастаўныя па сваіх пасадах. Асабліва вялікая іх канцэнтрацыя ў Ленінскім раёне.

NN.by

| Акруга | Меркаваны пераможца | Пасада | Партыя |
|---|---|---|---|
| Ангарская №1 | Павел Агер | намеснік дырэктара Мінскага завода колавых цягачоў | Камуністычная партыя |
| Ахоцкая №2 | Ігар Русакевіч* | член назіральнай рады завода «Прамбудіндустрыя» | Сацыяльна-спартыўная партыя |
| Шабаноўская №3 | Наталля Мысліўчык* | галоўны доктар 36-й паліклінікі | Сацыяльна-спартыўная партыя |
| Аўтазаводская №4 | Андрэй Заўгародні | намеснік камерцыйнага дырэктара МАЗ | |
| Васняцоўская №5 | Аляксей Меляшчэня | дырэктар Інстытута мяса-малочнай прамысловасці | |
| Галадзедаўская №6 | Віталь Якубаў | дырэктар завода аўтамабільных прычэпаў і кузаваў «МАЗ-Купава» | |
| Убарэвіцкая №7 | Мікалай Завалей | дырэктар універмага «Беларусь» | |
| Малінінская №8 | Аляксандр Рубінаў* | дырэктар Мінскага холадакамбіната №2 | |
| Лошыцкая №9 | Андрэй Бугроў | намеснік дырэктара «Цэнтраэнергамантаж» | |
| Пляханаўская №10 | Віктар Жукоўскі* | галоўны доктар Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Ленінскага раёна | |
| Ракасоўская №11 | Сяргей Жукоўскі | дырэктар школы №123 | Камуністычная партыя |
| Серабранская №12 | Сяргей Кулік* | галоўны доктар 14-й стаматалагічнай паліклінікі | |
| Купалаўская №13 | Іван Данчанка | генеральны дырэктар «Камунаркі» | Аграрная партыя |
| Маякоўская №14 | Андрэй Касцюк | дырэктар «Зялёнбуда» Ленінскага раёна | |
| Асаналіеўская №15 | Яўген Касцюкоў | намеснік дырэктара «Кераміна» | |
| Курасоўшчынская №16 | Павел Дашкевіч | начальнік мінскага аддзялення Белчыгункі | |
| Кастрычніцкая №17 | Жанна Казачонак* | галоўны доктар 11-й бальніцы | |
| Аэрафлоцкая №18 | Яўген Вайцяховіч | дырэктар Мінскага завода грамадзянскай авіяцыі №407 | Камуністычная партыя |
| Чкалаўская №19 | Дзмітрый Мелікян | дырэктар Нацыянальнага аэрапорта Мінск | |
| Чыгуначная №20 | Наталля Карчэўская | дэкан факультэта традыцыйнай беларускай культуры і сучаснага мастацтва БДУКіМ | |
| Купрыянаўская №21 | Сяргей Якубіцкі | дырэктар «Белдзяржстраха» | |
| Грушаўская №22 | Сяргей Хільман | дырэктар «Мінскрэкламы» | Камуністычная партыя |
| Дзяржынская №23 | Вольга Цесакова | культарганізатар інтэрнатаў Студэнцкага гарадка БДУ | |
| Ясенінская №24 | Яраслаў Кузняцоў | галоўны доктар 5-й паліклінікі | Камуністычная партыя |
| Рафіеўская №25 | Аляксандр Пятровіч* | дырэктар Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра | |
| Голубеўская №26 | Ірына Леўкавец | дырэктар гімназіі №61 | |
| Праўдзінская №27 | Аляксандр Набздораў* | дырэктар «Галантэі» | |
| Слабадская №28 | Павел Бачарнікаў | дырэктар «Віпойнт» | |
| Адоеўская №29 | Юрый Круглік | дырэктар школы №56 | Камуністычная партыя |
| Сухараўская №30 | Святлана Цабкала* | галоўны доктар 10-й паліклінікі | |
| Краснаборская №31 | Вольга Рунец | дырэктар Мінскага дзяржаўнага каледжа тэхналогіі і дызайну лёгкай прамысловасці | Камуністычная партыя |
| Заходняя №32 | Алена Свірыд | дырэктар Тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Фрунзенскага раёна | Аграрная партыя |
| Матусевіцкая №33 | Васіль Панасюк* | старшыня Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў | |
| Кунцаўшчынская №34 | Ірына Дрозд | дырэктар школы №41 | |
| Каменнагорская №35 | Аляксандр Хіжняк | дырэктар БелНІІП горадабудаўніцтва | Партыя працы і справядлівасці |
| Масюкоўшчынская №36 | Андрэй Шэршань | дырэктар мінскага «Энергазбыту» | |
| Жудроўская №37 | Ігар Кушнярэвіч | дырэктар «Мінскзялёнбуда» | |
| Кальварыйская №38 | Алеся Громава | намесніца дырэктара «Рамаўтадора» Фрунзенскага раёна | |
| Вяснянская №39 | Георгій Кушняроў | дырэктар гімназіі №16 | |
| Заслаўская №40 | Уладзімір Хейфец | дырэктар «Галерэя Канцэпт» | |
| Старавіленская №41 | Алена Абдольванд | намеснік галоўнага доктара 4-й паліклінікі | |
| Нававіленская №42 | Ала Марціshэвіч* | галоўны доктар 16-й паліклінікі | |
| Мірашнічэнкаўская №43 | Вольга Смірнова* | дырэктар гімназіі №6 | |
| Лагойская №44 | Уладзімір Усціновіч | загадчык гаспадаркі групы тылавога забеспячэння ГАМ УУС адміністрацыі Савецкага раёна | |
| Багдановіцкая №45 | Аляксандр Бахановіч | прарэктар БНТУ | |
| Куйбышаўская №46 | Наталля Сляпян* | дырэктар школы №53 | |
| Машэраўская №47 | Аксана Бясько | дырэктар Мінскага дзяржаўнага фінансава-эканамічнага каледжа | Партыя працы і справядлівасці |
| Акадэмічная №48 | Сяргей Казлоў* | дырэктар САК «Алімпійскі» | Сацыяльна-спартыўная партыя |
| Калінoўская №49 | Уладзімір Краўчонак* | галоўны доктар 12-й стаматалагічнай паліклінікі | |
| Карбышаўская №50 | Лілія Мінько | дырэктар гімназіі №2 | |
| Уруцкая №51 | Марына Немер | загадчыца «Санаторныя яслі-сад №498» | |
| Усходняя №52 | Іна Ясінская | дырэктар ЖЭУ №1 Першамайскага раёна | |
| Шугаеўская №53 | Ірына Зубрыцкая | дырэктар школы №45 | |
| Валгаградская №54 | Вячаслаў Кузняцоў* | намеснік дырэктара Мінскага механічнага завода | Партыя працы і справядлівасці |
| Мендзялееўская №55 | Сяргей Смольскі | дырэктар «Постгандлю» | |
| Першамайская №56 | Таццяна Янушкевіч | прарэктар Мінскага гарадскога інстытута развіцця адукацыі | |
| Трактаразаводская №57 | Алег Аўруцін | дырэктар «Мінскводаканала» | |

*зорачкамі пазначаныя дзейныя дэпутаты.

# Віцэ-прэм'ер Васіль Жарко дабудаваў катэдж на 500 м² у закрытым элітным пасёлку

**У найбліжэйшы час віцэ-прэм'ер Васіль Жарко можа запрашаць на ўлазіны. Як стала вядома «Нашай Ніве», ён нарэшце дабудаваў сабе дом у катэджным пасёлку за Нацыянальнай бібліятэкай.**

Былы міністр аховы здароўя займеў сабе чарговае элітнае жыллё. Яго жонцы ўжо належаць апартаменты ў Драздах плошчай больш за 120 м².

Месца, дзе знаходзіцца новы дом віцэ-прэм'ера, пакуль не мае асобнага назову. У базах агенцтваў нерухомасці яго апісваюць «як катэджны пасёлак на Язмінавай».

«Праект прэміум-класа, які арганічна спалучае ў сабе перавагі экалагічнага раёна і сучаснай гарадской інфраструктуры.

Размяшчэнне ў прэстыжным маляўнічым раёне Мінска, сучасныя тэхналогіі і якасныя матэрыялы, выкарыстаныя пры будаўніцтве, выдатны натуральны ландшафт — усё гэта робіць катэджны пасёлак на Язмінавай не толькі статуснай нерухомасцю, але і ідэальным месцам для ціхага сямейнага жыцця.

14 камфартабельных катэджаў праектуюцца ў адзіным стылі і ўтвараюць суцэльны архітэктурны ансамбль, які спалучаецца з прыродным ландшафтам мясцовасці. Дамы выкананы ў сучасным мінімалістычным стылі, які падмацоўваюць і каляровыя фасадныя рашэнні ў стрыманай вохрыстай і цёмна-карычневай гаме.

На ўчастках катэджнага пасёлка запланавана размяшчэнне альтанак для адпачынку, у агульных зонах запраектавана дэкаратыўнае азеляненне з ядлоўцу, самшыту, ігліцы і піхты, пешаходныя зоны выкананы з клінкернай пліткі з гранітнымі ўстаўкамі.

Прасторныя памяшканні з высокімі столямі і панарамнымі вокнамі забяспечаць цудоўны від на водны канал і лясны масіў, свабодная планіроўка катэджа дазволіць рэалізаваць усе вашы пажаданні і ўладкаваць дом такім, якім яго бачыце вы і ваша сям'я.

У катэджным пасёлку на Язмінавай праведзены цэнтральныя сеткі газа- і водазабеспячэння, абгароджаная тэрыторыя знаходзіцца пад кругласутачным відэаназіраннем», — гаворыцца на сайце будаўнічай кампаніі «Тапас».

У рэальнасці ўсе 14 дамоў, якія ўваходзяць у склад комплексу, аднеслі да спецыяльна створанай вуліцы імя кампазітара Яўгена Глебава.

Просты чалавек трапіць на вуліцу Глебава не можа: непажаданых гасцей чакае кантрольна-прапускны пункт. Такіх «закрытых» вуліц на ўсю Беларусь літаральна дзве альбо тры. Нават па Драздах, дзе жыве большасць прадстаўнікоў вышэйшай наменклатуры, можа шпацыраваць любы ахвотны.

Кампанія «Тапас», якая будавала катэджны пасёлак, вядомая перадусім дзякуючы бізнэсмену Паўлу Беламу, аднаму з топ-менеджараў. Ён — нападаючы хакейнай зборнай Аляксандра Лукашэнкі.

Дзіва што сам Белы пакінуў сабе некалькі элітных катэджаў на Глебава. Ён — непасрэдны сусед Васіля Жарко.

Віцэ-прэм'ер атрымаў зямлю пад свой дом рашэннем Мінгарвыканкама №2626/1 ад 11 лістапада 2010 года. Незразумела, ці ён будаваў катэдж сваімі сіламі, ці з дапамогай «Тапаса».

Плошча дома Жарко — больш за 500 квадратных метраў.

Колькі можа каштаваць жыллё віцэ-прэм'ера па сацыяльных пытаннях?

Астатнія 13 дамоў «Тапас» прадаваў па камерцыйных цэнах.

Напрыклад, адна з суседак топчыноўніка некалькі месяцаў таму набыла ў забудоўшчыка свой катэдж (амаль такі самы, як у Жарко) за $700 тысяч.

Каб назбіраць такія грошы, беларус з сярэднім заробкам павінен нічога не есці і не піць ды ашчаджаць 161 год.

NN.by, фота Сяргея Гудзіліна



Комплекс, дзе пабудаваў Жарко, — у верхнім куце квартала. Рэндарнае фота.

## Аляксандр Лукашэнка і Коля згулялі ў адной камандзе і перамаглі ветэранаў хакея Швейцарыі

Каманда прэзідэнта Беларусі перамагла ветэранаў хакея Швейцарыі з лікам 11:4 (4:1, 3:2, 4:1) у матчы, які прайшоў на лёдзе «Чыжоўка-Арэны», піша БелТА.

Падчас гульні на лёдзе часта адначасова аказваліся Аляксандр і Коля Лукашэнкі. Яны дапамаглі беларускай камандзе ў сярэдзіне першага перыяду рэалізаваць большасць. З іх перадачы шайбу закінуў Павел Белы.

Да перапынку хакейная каманда прэзідэнта Беларусі яшчэ тройчы адзначылася дакладнымі кідкамі. Аўтарамі галоў сталі Аляксей Цітавец і Генадзь Савілаў. Падчас чацвёртага ўзяцця варот швейцарцаў Андрэю Асташэвічу, які ўдала дзейнічаў на пятачку каля брамы апанентаў, зноў асісціравалі Коля і Аляксандр Лукашэнкі.

Швейцарцы, якімі кіраваў славуты савецкі хакеіст, двухразовы алімпійскі чэмпіён Аляксандр Якушаў, пастараліся дапускаць менш памылак у абароне і крыху скарацілі адставанне ў ліку. Аднак у заключныя 20 хвілін гульні беларуская каманда яшчэ чатыры разы засмуціла суперніқаў. Аўтарам адной з шайбаў стаў Мікалай Лукашэнка. Трэцюю дзейсную перадачу ў матчы запісаў у свой актыў Аляксандр Лукашэнка. У выніку беларусы перамаглі з лікам 11:4.

АГ



# «У мяне два пашпарты грамадзяніна СССР»: як вызвалялі рэгнумаўцаў

Прарасійскіх публіцыстаў асудзілі на пяць гадоў з адтэрміноўкай.

Тое, што фігуранты справы публіцыстаў расійскага інфармацыйнага партала «Рэгнум» не апынуцца ў турме, стала вядома яшчэ задоўга да прысуду. Гэта значыць, што іх вызваляць яшчэ ў зале суда. У такім разе зачытванне прысуду цалкам наўрад ці б нехта хацеў: усё ж страта некалькіх гадзін волі.

Выніковая частка прысуду зачытаная была літаральна за пару хвілін. Як і прасіў пракурор, кожнаму — па пяць гадоў з адтэрміноўкай на тры. Канвой адчыняе дзверы кратаў. І Дзмітрый Алімкін з Юрыем Паўлаўцом хуценька выходзяць, а вось Сяргей Шыптэнка яшчэ колькі імгненняў збірае свае рэчы. У зале разносяцца апладысменты, лёгкія, без асаблівага фанатызму. «Слава Расіі» ці «Слава КПСС» ніхто не крычыць. Міліцыя строга папярэджвае захоўваць цішыню.

Паўлавец адразу паспрабаваў сесці на лаву ў зале, але суддзя сказаў, што рана. Жонка Юрыя цягне яго за рукаво. Яшчэ пару хвілінаў яны падпісваюць дакументы. Пакуль іх чакаюць у фае, з залы вылятае прадстаўнік НОДа Уладзімір Рыжанкоў. Здаецца, ён вядзе анлайн у фэйсбуку. З ягоных вуснаў далятае пра «нацыяналістычных вырадкаў».

Важна прагульваюцца іншыя прарасейскія дзеячы: Арцём Агафонаў і Яўген Канстанцінаў. Гэта выхадцы з апазіцыі, якія сталі на пазіцыі «рускага свету». Прыйшоў падтрымаць калег гісторык-заходнерусіст Аляксандр Гронскі, ён працаваў у БДУІРы разам з Паўлаўцом. Але цяпер Гронскі працуе ў Маскве.

Адзіным, хто спыніўся паразмаўляць з прэсай, быў Сяргей Шыптэнка. Алімкін нібыта скрозь зямлю праваліўся, а Паўлаўца пацягнула за сабой жонка. Хіба паспеў сказаць, што паважліва ставіцца да беларускай мовы, а ў БНФ ніколі не быў, хаця Бухвостаў сцвярджаў адваротнае.

«Я выказваю свае погляды, сваё стаўленне да тых з'яваў, якія мы ўсе назіраем. Камусьці не падабаецца маё стаўленне да гэтых з'яваў. Але рэакцыя неадэкватная на тое, што напісана, на тое, што выказана. Я мяркую, што мы павінны зрабіць высновы з усяго гэтага і неяк палепшыць сітуацыю. Мяркую, што наш працэс стане пачаткам зменаў да лепшага», — кажа Шыптэнка.



Што арыштаваных вызваляць у зале суда, стала вядома задоўга да прысуду.

«Можа быць, камусьці давядзецца пераступіць цераз сябе і пераадолець унутраныя супярэчнасці. Я спадзяюся, што ў цэлым тыя фундаментальныя грамадзянскія правы і свабоды, якія даліся нам дарагой цаной, не будуць страчаныя. І ў выніку мы зробім правільныя высновы з таго, што адбылося».

Ці будзе аўтар надалей крытыкаваць Аляксандра Лукашэнку ў сваіх публікацыях? «Я ніколі не акцэнтаваў сваю ўвагу на нейкай персоне, я быў накіраваны на з'явы, якія адбываліся.

Я не маю намераў хаваць свае погляды, але буду больш акуратна іх выказваць. Я прынцыповага стаўлення не змяніў. Весці дыялог з турэмнай клеткі вельмі складана. Не тая пляцоўка, дзе можна абменьвацца поглядамі. Як толькі мы пачнём стасавацца цывілізавана, то тады наблізімся да вырашэння складаных праблем».

У першы дзень суда Шыптэнка заявіў, што ён грамадзянін СССР. Ці застаецца ён такім надалей? «Так, у мяне ёсць пашпарт грамадзяніна СССР, нават два. Адзін з іх — загранпашпарт».

А яшчэ ён запэўніў, што не будзе з'язджаць з Беларусі.

На вуліцы «рэгнумаўцаў» чакае група бадзёрых дзядуляў, кожнаму з якіх гадоў 75. Усе яны ў чорных кепках, нібыта нейкая ўніформа. Самы актыўны з іх называецца лідарам арганізацыі «Айчына» Васілём Зелікавым.

«Барацьба будзе працягвацца», — рашуча кажа ён у інтэрв'ю.

«Гэта для вас камера вызвалілася, што вы так смела інтэрв'ю раздаяце?» — жартуе з калегі прадстаўнік незарэгістраванай Беларускай камуністычнай партыі працоўных.

**Зміцер Панкавец**

# Міжнародная рэакцыя на блакаванне «Хартыі-97» стрыманая

Ад вечара 24 студзеня ў Беларусі рашэннем Міністэрства інфармацыі абмежаваны доступ да партала «Хартыя'97». Журналісты пратэстуюць, Расія прадказальна прамаўчала, але аналагічна павялі сябе і краіны Захаду.

Рашэнне было патлумачана артыкулам 38 закона «Аб сродках масавай інфармацыі». Якія варыянты забароненай інфармацыі ён прадугледжвае? Прэтэнзіі міністэрства маглі ўзнікнуць да інфармацыі аб дзейнасці незарэгістраваных арганізацый, прапаганды наркотыкаў, экстрэмісцкай інфармацыі, парнаграфіі ці інфармацыі, якая можа нанесці шкоду нацыянальным інтарэсам Беларусі.

Прэс-сакратар кіраўніка МЗС Літвы Раса Якілайцене сказала: «Гэта не першы раз і не першы партал, які блакуецца. Гэта не здзіўляе, аднак хвалюе. Свабода слова з'яўляецца адной з асноўных дэмакратычных свабод; яна ўмацоўвае, а не аслабляе дзяржаву і грамадства».

Віцэ-прэзідэнт Еўрапейскай народнай партыі Паўлу Ранжэл пасля наведвання Мінска сказаў: «Я шкадую аб тым, што сітуацыя ў дачыненні да рэгістрацыі палітычных партый і грамадскіх арганізацый не палепшылася, што асабліва тычыцца БХД. І таксама вельмі занепакоены цiскам на



Наталля Радзіна робіць свой сайт з Варшавы.

незалежныя сродкі масавай інфармацыі, у прыватнасці на навінавы сайт «Хартыя'97».

Шмат увагі тэме «Хартыі» аддаюць праваабаронцы. З адмысловымі заявамі выступілі праваабаронцы-вясноўцы, «Рэпарцёры без межаў».

Прадстаўнік АБСЕ ў пытаннях свабоды СМІ Гарлем Дэзір таксама не пакінуў тэму без увагі: «Паўторнае блакаванне доступу да сайтаў у Беларусі за апошнія некалькі месяцаў выклікае трывогу. Такія дзеянні наносяць шкоду ажыццяўленню асноўных правоў чалавека на атрыманне і распаўсюд інфармацыі, а таксама на свабоду СМІ».

Варта адзначыць, што пра блакаванне папулярнага сайта пішуць вядучыя сусветныя СМІ: *Washington Post*, *New York Times*, *Associated Press*, *CNN*, *BBC*, *Libération*, *France Press*. Інфармацыя з'ўлялася нават у такіх экзатычных краінах, як Малайзія.

30 студзеня Мінск наведваў еўракамісар па пытаннях пашырэння і добрасуседства Ёханэс Хан. Прынамсі публічна тэму блакавання «Хартыі» ён не ўздымаў. У той жа дзень пасольства ЗША заявіла пра намер поўнага зняцця санкцый з Беларусі. «Хартыя'97» назвала гэтую заяву «дзіўнай».

Не было пакуль ніякіх заяў аб сітуацыі ад прадстаўнікоў Польшчы, Германіі, Вялікабрытаніі і іншых краін.

Пра міжнародную рэакцыю на закрыццё папулярнага сайта мы паразмаўлялі з палітычным аналітыкам Аляксандрам Класкоўскім.

«Бачна, што самі людзі, датычныя да «Хартыі», спрабуюць прыцягнуць увагу міжнароднай супольнасці. Чуваць гучныя заявы ад Наталлі Радзінай, Андрэя Саннікава. Для іх гэта звыклыя апеляцыі.

Але можна сказаць, што Еўропа стала іншай у сваіх падыходах да беларускага рэжыму. Мы бачым візіт Ёханэса Хана, які сустракаўся з апазіцыяй, падымаў пытанні правоў чалавека на сустрэчы з Лукашэнкам. Тым не менш танальнасць Еўропы стрыманая. Выбраная болей прагматычная лінія ў дачыненнях з беларускім кіраўніцтвам. Той жа Хан казаў, што Еўропе важная стабільнасць у рэгіёне. На гэтай глебе Брусэль і Мінск знаходзяць супольную мову.

## Рэдактары «Хартыі» заклікаюць да ўвядзення супраць Беларусі санкцый

Я не выключаю, што асобныя еўрапейскія палітыкі будуць артыкуляваць гэтую праблему. Натуральна, праваабаронцы будуць, бо нядобра ў Еўропе блакаваць інтэрнэт.

Сёння не тая сітуацыя, каб у Еўропе на сур'ёзным узроўні задумаліся пра вяртанне санкцый праз інцыдэнт з «Хартыяй». Небяспечная сама тэндэнцыя. Думаю, акуратна ў кулуарах тыя ж еўрапейскія палітыкі ўсё ж будуць прагаворваць тэму, каб беларускія ўлады не перагіналі палку. І пэўнае ўздзеянне гэта можа мець. У беларускіх уладных колах таксама разумеюць, што блакаванне не дужа эфектыўнае, ёсць шмат шляхоў яго абыходжання. Нашто ўладзе страчваць нейкія пункты паразумення ў адносінах з Захадам? Цягам мінулага года мы бачылі, што ў пэўных пытаннях улады адкручвалі назад, як было з «Белым легіёнам». Не выключаю, што могуць задумацца і не працягваць гэтую кепскую тэндэнцыю.

Што тычыцца ЗША, то яны мысляць глабальнымі катэгорыямі. Амерыка мае сёння дастаткова прагматычную адміністрацыю, Трамп не выглядае на адэпта прасоўвання дэмакратыі і правоў чалавека. У ЗША няма ілюзій адносна беларускага рэжыму, але ім выгадна нармалізаваць адносіны з Мінскам, каб Беларусь не была 100%-м сатэлітам Масквы. Калі ўлічваць маштаб такога супрацьстаяння, то блакаванне аднаго асобнага сайта ў Вашынгтоне нельга разгледзець нават пад мікраскопам», — лічыць Аляксандр Класкоўскі.

**Зміцер Панкавец**

# «Покі будуць людзі»?



## Дэмаграфічная катастрофа Усходняй Еўропы

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Багатыя краіны Захаду ўсяляк стараюцца павялічыць сваё насельніцтва. У той жа час краіны Усходняй Еўропы не могуць або не хочуць гэтага рабіць. Абязлюдзенне стала сумнай рэальнасцю і галоўнай стрымкай эканамічнага росту.**

З 1989 па 2017 год насельніцтва Беларусі скарацілася з 10,2 да 9,5 мільёна чалавек. Наша краіна страціла каля 700 тысяч жыхароў (6,9%).

За той час насельніцтва ЗША вырасла з 247 да 325 мільёнаў. Насельніцтва Нямеччыны вырасла з 79 да 83 мільёнаў, Ізраіля — з 4,7 да 8,7 мільёна. Нават насельніцтва Расіі засталося на тым жа ўзроўні — 147 мільёнаў, праўда, за кошт анексіі Крыма, інакш было б зафіксаванае падзенне.

Беларусь — не адзіная краіна, якая бязлюдзее. Сітуацыя ў іншых краінах Усходняй Еўропы яшчэ горшая. Насельніцтва Малдовы скарацілася з 4,3 да 2,6 млн чалавек, Латвіі — з 2,7 да 2,0, Літвы — з 3,7 да 2,8 мільёна. Тое самае ў Румыніі, Балгарыі, Украіне...

У той жа час дэмаграфічнага правалу не здарылася ў Польшчы, Славаччыне, Чэхіі.

Цэлы шэраг краін Еўропы сутыкаецца з дэмаграфічнымі праблемамі. І калі краіны Заходняй Еўропы яшчэ могуць кампенсаваць нізкую нараджальнасць за кошт прыцягнення мігрантаў, то краіны Усходняй Еўропы аказаліся ў цяжкім становішчы. Яны не толькі мала прыцягваюць чалавечыя рэсурсы з іншых краін, але самі маюць вялікае адмоўнае сальда міграцыі.

### Краіны Балтыі

Краіны Балтыі перажываюць сапраўдную дэмаграфічную катастрофу.

З 1991 года насельніцтва Літвы скарацілася на 900 тысяч чалавек (з 3,7 да 2,8 мільёна).

Сітуацыя ў Эстоніі не такая катастрафічная, але таксама далёкая ад аптымізму — падзенне з 1,57 да 1,32 мільёна чалавек (падзенне на 250 тысяч). Эстонія, у адрозненне ад Літвы і Латвіі, мае станоўчае сальда міграцыі.

Важна тое, што працэсы дэпапуляцыі закранулі не толькі вёскі і мястэчкі краін Балтыі, але нават і адносна вялікія гарады.

Насельніцтва Рыгі за гэтыя гады скарацілася з 915 да 640 тысяч чалавек (больш чым на 30%), а Даўгаўпілса (Дзвінска) — са 130 да 85 тысяч (на 35%). Атрымліваецца, што зараз у Даўгаўпілсе людзей жыве менш, чым жыло на пачатку XX стагоддзя.

З-за скарачэння насельніцтва закрываюцца сацыяльныя аб’екты (школы, паліклінікі), якасць жыцця яшчэ больш падае. Скарачаецца колькасць збіраных падаткаў, што прымушае ўлады яшчэ больш скарачаць расходы на сацыяльныя патрэбы. Насельніцтва, якое застаецца, старэе, павялічваецца падатковая нагрузка на працаздольнае насельніцтва.

Але варта адзначыць, што, нягледзячы на апакаліптычныя прагнозы, нараджальнасць у краінах Балтыі ўсё ж пачала расці з 2000 года. Цяпер каэфіцыент нараджальнасці ў Латвіі такі ж самы, як у Беларусі — каля 1,7 дзіця на адну жанчыну. Але адмоўнае сальда міграцыі пакуль нівелюе гэтыя станоўчыя тэндэнцыі.

На сёння Балтыя з’яўляецца адным з самых маланаселеных раёнаў Еўропы. Меншая шчыльнасць насельніцтва зараз толькі ў суседняй Скандынавіі, дзе суворы клімат.

### Украіна

Паўднёвая суседка Беларусі таксама мае цяжкую дэмаграфічную сітуацыю. Цяжка нават вызначыць, колькі людзей пражывае ва Украіне, таму што гэтая дзяржава не кантралюе частку сваёй тэрыторыі. Украінская афіцыйная статыстыка даверу таксама не выклікае.

Калі Украіна стала незалежнай дзяржавай, яе насельніцтва складала каля 52 мільёнаў чалавек. На канец 2017 года Дзяржаўны камітэт статыстыкі налічыў ва Украіне 42,2 мільёна чалавек (без уліку акупаванага Крыма, дзе пражывае каля 2 мільёнаў чалавек).

Калі не ўлічваць асобныя раёны Данецкай і Луганскай абласцей, дзе жыве каля 3,8 мільёна чалавек, лічбы будуць яшчэ больш сумнымі — крыху больш за 38 мільёнаў чалавек. Але нават гэтую лічбу ставяць пад сумненне.

На сённяшні дзень ва Украіне адсутнічаюць статыстычныя дадзеныя, якія б улічвалі актыўную працоўную міграцыю насельніцтва ў Польшчу і якім можна было б давяраць.

Ёсць альтэрнатыўныя ацэнкі колькасці наяўнага насельніцтва, якія яшчэ ў большай ступені несуцяшальныя. Калі падлічыць аб’ём вытворчасці і спажывання хлеба ва Украіне, то некаторыя эксперты сцвярджаюць, што там жыве ўсяго каля 36 мільёнаў чалавек!

Дэпапуляцыя ў прамысловых рэгіёнах усходу і цэнтра Украіны адбывалася больш хуткімі тэмпамі. Прычым катастрафічнае падзенне колькасці насельніцтва на Данбасе адбывалася яшчэ задоўга да пачатку баявых дзеянняў на ўсходзе Украіны — з сярэдзіны дзевяностых.

Так, з 1993 па 2013 год адна толькі Данецкая вобласць страціла 1 мільён чалавек — яе насельніцтва паменела з 5,4 да 4,4 мільёна чалавек.

На захадзе Украіны за кошт больш высокай нараджальнасці сітуацыя не такая катастрафічная. У некаторыя гады там нават фіксуецца прырост насельніцтва (у першую чаргу на Валыні, Закарпацці і Букавіне).




Змены ў колькасці насельніцтва Беларусі з 1989 года.










Змены ў колькасці насельніцтва краін Балтыі з 1991 года.




Змены ў колькасці насельніцтва Украіны з 1993 года.

### Балканы і Малдова

Гэтая частка Еўропы таксама зведала значныя страты ў колькасці чалавечых рэсурсаў.

У Румыніі насельніцтва зменшылася з 23,2 да 19,7 мільёна чалавек. Не дапамаглі гэтай краіне нават мігранты, якія прыехалі ў вялікай колькасці з Малдовы.

У суседняй Малдове сітуацыя яшчэ горшая — падзенне з 4,3 да 3,5 мільёна. Але рэальная лічба яшчэ меншая: перапіс насельніцтва 2014 года налічыў толькі 2,9 мільёна чалавек. З іх больш чым 300 тысяч у момант перапісу знаходзіліся за мяжой. Такім чынам, у момант перапісу ў Малдове знаходзілася толькі каля 2,6 мільёна чалавек.

Няпростая сітуацыя і ў Балгарыі. З 9 мільёнаў насельніцтва зменшылася да 7,1 мільёна.

У краінах былой Югаславіі скарачэнне насельніцтва не было такім істотным, а ў Славеніі, Македоніі і Чарнагорыі насельніцтва нават крыху ўзрасло.

У большасці іншых краін Усходняй Еўропы дэмаграфічная сітуацыя не такая сумная, але назваць яе пазітыўнай таксама цяжка.

Нягледзячы на высокую працоўную міграцыю ў краіны Заходняй Еўропы, насельніцтва Польшчы амаль не скарацілася. Насельніцтва Чэхіі і Славакіі нават крыху ўзрасло.

### А што ў Заходняй Еўропе?

Дзякуючы прыцягненню замежных рэсурсаў (у тым ліку з Усходняй Еўропы), насельніцтва большасці заходнееўрапейскіх краін працягвае расці.

Вось так узрасло насельніцтва Нямеччыны, Францыі і Вялікабрытаніі з 1991 па 2016 год.

Германія: з 80 да 82,7 мільёна (+3,4%).

Францыя: з 58,6 да 66,9 мільёна (+14,2%).

Вялікабрытанія: з 57,4 да 65,6 мільёна (+14,3%).

Уступленне краін Усходняй Еўропы ў ЕС адкрыла перад імі вялікія магчымасці. Але і ў гэты ж час стварыла спрыяльныя ўмовы для вялікага адтоку насельніцтва, якое ў пошуках лепшай долі паехала на захад. Такім чынам, заможны і шчыльна населены захад Еўропы становіцца яшчэ больш заможным і густанаселеным, а дыспрапорцыі паміж Захадам і Усходам толькі працягваюць узрастаць.




**Страты насельніцтва Румыніі, Малдовы і Балгарыі.**

Каб стаць багатай, Беларусі мусова зрабіцца краем, прывабным для пражывання. Дасягнуць гэтага няпроста: трэба павысіць узровень заробкаў і адначасова павышаць камфорт жыцця. Бо проста закрыць межы, як робяць Паўночная Карэя ці Куба, у цяперашняй Еўропе немагчыма.

**Максім Маханькоў**

# Нідэрландская разведка ўзламала хакераў СВР Расіі. Офіс Cozy Bear знаходзіцца проста насупраць Крамля

Хакеры, якія працуюць на галандскую разведвальную службу AIVD, сачылі за расійскай хакерскай групоўкай *Cozy Bear* і далі ФБР інфармацыю пра ўмяшанне Расіі ў амерыканскія выбары. *The Insider* прыводзіць поўны пераклад расследавання журналістаў нідэрландскіх выданняў *de Volkskrant* і *Nieuwsuur*.

Лета 2014 года. Хакер з галандскага разведвальнага агенцтва AIVD прабраўся ў камп'ютарную сетку ўніверсітэта, размешчанага побач з Краснай плошчай у Маскве, не думаючы пра наступствы. Праз год ён і яго калегі ў штабкватэры AIVD у Зутэрмеры назіралі, як рускія хакеры пачалі атаку на Дэмакратычную партыю ЗША. Хакеры AIVD праніклі не ў нейкі там будынак. Яны апынуліся ў камп'ютарнай сетцы скандальна вядомай расійскай хакерскай групоўкі *Cozy Bear*. І яны маглі бачыць усё, застаючыся незаўважанымі.

Так, AIVD стала сведкай таго, як расійскія хакеры сачылі за лідарамі Дэмакратычнай партыі і перасылалі тысячы лістоў і дакументаў. Гэта быў не апошні раз, калі яны папярэдзілі своіх амерыканскіх калегаў. І ўсё ж прайшлі месяцы, перш чым ЗША зразумелі значэнне папярэджанняў: дзякуючы гэтым хакерскім нападам Расія ўмешвалася ў амерыканскія выбары. І гэта адбывалася на вачах хакераў AIVD.

Сведчанні нідэрландцаў даказваюць датычнасць Расіі да ўзлому Дэмакратычнай партыі. Пра гэта сцвярджаюць шэсць амерыканскіх і галандскіх крыніц, знаёмых з сітуацыяй. Гэта таксама з'яўляецца для ФБР падставай пачаць расследаванне ўплыву расійскага ўмяшання на перадвыбарчую гонку паміж Хілары Клінтан і Дональдам Трампам.

Пасля абрання Трампа ў маі 2017 года гэта расследаванне ўзяў на сябе спецыяльны пракурор Роберт Мюлер. Хоць яно таксама накіравана на раскрыццё кантактаў кампаніі Трампа з расійскім урадам, асноўная мэта ў тым, каб выявіць умяшанне Расіі ў выбары. Спробы падарваць дэмакратычны працэс і дзеянні, узмацніць напружанасць паміж дзвюма звышдзяржавамі і прывялі да шэрагу варожых дыпламатычных актаў.

Тры амерыканскія спецслужбы заяўляюць з «высокай упэўненасцю», што Крэмль стаяў за атакай на Дэмакратычную партыю. Крыніца гэтай упэўненасці — хакеры AIVD, якія гадамі мелі доступ да штаба ў цэнтры Масквы. Выпадак такі незвычайны, што кіраўнікі перадавых амерыканскіх спецслужбаў шчаслівыя прыняць галандцаў. У іх ёсць тэхнічныя доказы нападу на Дэмакратычную партыю, і відавочна, што яны ведаюць значна больш.

Тое, што хакеры змаглі атрымаць доступ да такой каштоўнай інфармацыі ў 2014 годзе, — гэта свайго роду выпадковасць. Каманда выкарыстоўвае CNA — камп'ютарныя сеткавыя атакі. Гэтым хакерам дазволеныя наступальныя аперацыі: пранікаць у варожыя сеткі і атакаваць іх. Гэта адносна невялікая каманда больш буйнога лічбавага падраздзялення з 80—100 чалавек. Усе кібераперацыі сцякаюцца сюды. Частка падраздзялення сканцэнтравана на перахопе або кіраванні крыніцамі, а іншая група займаецца абаронай камп'ютарных сетак. У сваю чаргу, гэтая каманда з'яўляецца часткай JSCU, супольнага аддзялення AIVD і галандскай вайсковай разведкі і службы бяспекі MIVD, якая налічвае каля 300 чалавек.

Невядома, да якой менавіта інфармацыі пра рускіх ёсць доступ у хакераў, але зразумела, што ў ёй змяшчаецца падказка пра месцазнаходжанне адной з самых вядомых хакерскіх груповак у свеце — *Cozy Bear*, таксама названай APT29. З 2010 года гэтая групоўка нападае на ўрады, энергетычныя карпарацыі і тэлекамунікацыйныя кампаніі па ўсім свеце, уключаючы нідэрландскія кампаніі і міністэрствы. Спецыялісты з найлепшых спецслужбаў, сярод якіх англічане, ізраільцяне і амерыканцы, ужо шмат гадоў палююць на *Cozy Bear*, як і кампаніі найбуйнейшых агенцтваў кібербяспекі.



**Будынак нідэрландскай разведслужбы AIVD. Фота aivd.nl.**

Каманда галандскіх хакераў тыднямі рыхтуецца. Затым летам 2014 года адбываецца атака, хутчэй за ўсё, перад крушэннем MH17. З некаторымі намаганнямі камандзе ўдаецца прабрацца ва ўнутраную камп'ютарную сетку. Цяпер AIVD можа сачыць за кожным крокам рускіх хакераў. Але гэта яшчэ не ўсё.

Хакеры *Cozy Bear* знаходзяцца на тэрыторыі ўніверсітэцкага будынка побач з Краснай плошчай. Склад групы змяняецца, звычайна актыўныя каля 10 чалавек.

Патрапіць унутр можна праз выгнуты калідор. Камера запісвае, хто ўваходзіць і хто выходзіць з пакоя. Хакерам AIVD удаецца атрымаць доступ да гэтай камеры. Цяпер разведка можа ўбачыць не толькі, што робяць расейцы, але і хто гэта робіць. Кожны наведнік сфатаграфаваны. У Зутэрмеры гэтыя фатаграфіі аналізуюцца і параўноўваюцца з вядомымі расійскімі шпіёнамі. Яны зноў атрымалі інфармацыю, якая пасля аказалася вельмі важнай.

Доступ галандцаў да расійскай хакерскай сеткі неўзабаве акупляецца. У лістападзе расіяне рыхтуюцца да атакі на адну са сваіх галоўных мэтаў — амерыканскі Дзярждэп. Яны ўжо атрымалі адрасы электроннай пошты і ўліковыя дадзеныя некалькіх дзяржаўных служачых. Яны здолелі трапіць праз неабароненую частку камп'ютарнай сеткі.

AIVD і іх вайсковыя калегі з MIVD інфармуюць сувязнога Агенцтва нацыянальнай бяспекі ў пасольстве ЗША ў Гаазе. Ён неадкладна апавяшчае амерыканскія спецслужбы.

Далей адбываецца бітва паміж тымі, хто спрабуе яшчэ глыбей пракрасціся ў Дзярждэп, і яго абаронцамі — камандамі ФБР і АНБ, з падказкамі і разведвесткамі галандцаў.

Расейцы вельмі агрэсіўныя, але яны не ведаюць, што за імі сочаць. Дзякуючы галандскім шпіёнам, ФБР і АНБ даюць адпор. Нідэрландскі ўдзел настолькі важны, што АНБ адкрывае наўпростаўю лінію з Зутэрмерам, каб як мага хутчэй атрымліваць інфармацыю.

Выкарыстоўваючы так званыя серверы камандавання і кіравання, лічбавыя камандныя цэнтры, расейцы спрабуюць усталяваць злучэнне са шкоднаснымі праграмамі ў Дзярждэпе, каб запытаць і перадаваць інфармацыю. Амерыканцы, якія даведаліся ад галандцаў, дзе знаходзяцца серверы, хутка адразаюць да іх доступ, але расейцы атакуюць зноў і зноў. Так адны нападаюць, а іншыя адбіваюцца на працягу 24 гадзін. Крыніцы CNN назвалі гэта «самай небяспечнай хакерскай атакай» на амерыканскі ўрад. Для павышэння ўзроўню бяспекі Дэпартаменту даводзіцца на ўвесь уікэнд закрыць доступ да электроннай пошты.

У сакавіку 2017 года намеснік дырэктара АНБ Рычард Леджэт заяўляе на форуме ў Аспене, што АНБ па шчаслівай выпадковасці ўдалося высветліць тактыку і сродкі нападнікаў: «Мы маглі бачыць, як яны мяняюць свае метады. Гэтая інфармацыя была вельмі карыснай». Амерыканскія СМІ, спасылаючыся на высокапастаўленага супрацоўніка спецслужбаў, напішуць, што гэта ўдалося дзякуючы «заходняму саюзніку».

Урэшце амерыканцам удаецца «выгнаць» расейцаў з Дзярждэпа, але перад гэтым хакеры паспяваюць выкарыстаць доступ, каб адправіць ліст чалавеку ў Белым доме. Ён мяркуе, што атрымаў ліст з Дзярждэпартамента — адрас электроннай пошты падобны, — і націскае на спасылку ў паведамленні. Па спасылцы адкрываецца вэб-сайт, для ўваходу супрацоўнік Белага дома ўводзіць свае ўліковыя дадзеныя, якія цяпер у хакераў. Так расейцы пранікаюць у Белы дом.

Яны падключаюцца да паштовых сервераў, якія змяшчаюць адпраўленыя і атрыманыя электронныя лісты прэзідэнта Барака Абамы, але не пранікаюць на серверы, якія кантралююць трафік паведамленняў яго асабістага *BlackBerry*, які захоўвае дзяржаўныя сакрэты, паведамляюць крыніцы *New York Times*. Хакерам удаецца атрымаць доступ да электроннай перапіскі з пасольствамі і дыпламатамі, раскладаў, паправак да законаў. І пра гэта амерыканцаў зноў апавяшчаюць галандскія спецслужбы.

Доступ да *Cozy Bear* аказваецца залатой жылай для галандскіх хакераў. На працягу некалькіх гадоў ён забяспечвае іх каштоўнымі разведдадзенымі аб мэтах, метадах і інтарэсах вышэйшых службовых асоб ФСБ. Па фатаграфіях наведвальнікаў AIVD прыходзіць да высновы, што групу хакераў курыруе Служба замежнай разведкі Расіі.

Каментары журналістам у AIVD даваць адмовіліся.

theins.ru

# Успышка адру: як украінская медыцына дэградавала да ўзроўню Нігерыі і Самалі

Трывожныя навіны прыходзяць з Украіны: у нашых паўднёвых суседзяў зафіксаваная ўспышка адру. За год колькасць хворых вырасла больш чым у 61 раз — з 78 выпадкаў у 2016 годзе да 4782 выпадкаў у 2017-м. У новым, 2018, годзе хвароба працягвае распаўсюджвацца. Самая трывожная сітуацыя — у Івана-Франкоўскай, Львоўскай, Адэскай, Закарпацкай і Запарожскай абласцях. Хварэюць пераважна дзеці. Прычына такой успышкі відавочная — нізкі ўзровень прышчэпленасці ва Украіне, параўнальны з узроўнем краін Экватарыяльнай Афрыкі.

### Што такое адзёр?

Адзёр — сур'ёзная інфекцыйная хвароба. Сусветная арганізацыя аховы здароўя лічыць, што адзёр — асноўная прычына смяротнасці ў дзяцей. Хварэюць пераважна дзеці ад 2 да 5 гадоў.

Галоўнымі сімптомамі хваробы з'яўляюцца высокая тэмпература, агульная інтаксікацыя, кан'юнктывіт, запаленне слізістай абалонкі верхніх дыхальных шляхоў, боязь святла. Як і звычайны грып, перадаецца паветрана-кроплевым шляхам: вірус выдзяляецца ў асяроддзе хворым чалавекам са сліззю падчас кашлю і чхання. Заразіцца можна таксама праз прадметы быту. Але трэба памятаць, што першыя сімптомы могуць наступаць толькі праз 8—14 дзён. Характэрны сып з'яўляецца толькі на 4—5 дзень працякання хваробы.

### Чаму ва Украіне ўспышка адру?

Успышкі інфекцыйных захворванняў цыклічныя і могуць адбывацца нават у тых краінах, дзе высокі ахоп вакцынацыі насельніцтва. Ва Украіне ж сітуацыя далёкая ад нармальнай. На пачатак 2015 года толькі 27% украінскіх дзяцей былі прышчэпленыя ад адру, што значна менш за мінімальна дапушчальнае значэнне ў 95%. У 2016 годзе толькі ў 8 краінах ААН зафіксавала ўзровень вакцынацыі, ніжэйшы за 50%. Акрамя Украіны, туды трапілі Цэнтральна-Афрыканская Рэспубліка, Чад, Экватарыяльная Гвінея, Нігерыя, Самалі, Паўднёвы Судан і Сірыя.

Менавіта прышчэпкі дазваляюць уратаваць вялікую колькасць чалавек ад смерці і не даюць эпідэміям разгарнуцца. Калі ў 1980 годзе, перад пачаткам масавай вакцынацыі, ва ўсім свеце ад адру памерлі 2,6 мільёна чалавек, пераважна дзяцей, у 1990 колькасць смяротных выпадкаў скарацілася да 545 тысяч, то ўжо ў 2014 годзе ад адру памерлі 73 тысячы чалавек.

Да з'яўлення антыбіётыкаў і вакцыны на адзёр хварэлі амаль усе людзі ў дзяцінстве. Ад гэтай хваробы памірала прыкладна адно дзіця са ста. Хвароба была дзіцячай, дарослыя на яе не хварэлі, бо атрымлівалі імунітэт пасля хваробы ў дзяцінстве.

Ва Украіне сітуацыя складаная, бо частка насельніцтва прышчэпленая, а частка — не. Гэта прыводзіць да таго, што людзі хварэюць у меншай колькасці, чым пры поўнай адсутнасці прышчэпак, але адначасова з гэтым пачынаюць хварэць дарослыя, якія не хварэлі ў дзяцінстве і непрышчэпленыя. А ў дарослых адзёр — гэта больш сур'ёзная хвароба, з большай колькасцю ўскладненняў і смяротнасцю.

У ідэале краіна альбо прышчапляецца цалкам (95—98% насельніцтва), альбо не прышчапляецца ўвогуле (каб кожны перахварэў у дзяцінстве). Сітуацыя ва Украіне, дзе палова насельніцтва прышчэпленая, а палова не, — вельмі небяспечная. Такім чынам, Украіна па ўзроўні вакцынацыі аказалася на адным узроўні з Нігерыяй і Самалі.

Таксама спецыялісты звяртаюць увагу, што ва Украіне адсутнічае дакладная статыстыка па колькасці хворых і памерлых. Большая частка выпадкаў проста не трапляе ў інфармацыйнае поле.

### Як Украіна дайшла да такога?

Доўгі час ва Украіне існавала праблема з дастаўкай самых галоўных вакцын. Нават тыя вакцыны, якія існавалі ў доступе, не заўсёды былі добрай якасці.



Цяпер вакцыны з'явіліся ў доступе (у тым ліку супраць адру), але дзяржаўная сістэма аховы здароўя Украіны настолькі дыскрэдытавала сябе, што існуе істотная праблема даверу. Людзі проста не хочуць прышчапляць сваіх дзяцей, таму што баяцца магчымых ускладненняў ад прышчэпак і не ўлічваюць, што ад адру ўскладненні яшчэ больш частыя і сур'ёзныя. Антывакцынальныя настроі распаўсюджаныя ў грамадстве як з-за нізкай інфармаванасці насельніцтва, так і з-за нізкага прафесійнага ўзроўню медыкаў. Даходзіць да таго, што ў шматлікіх выпадках медыкі самі адгаворваюць людзей рабіць дзецям прышчэпкі, таму што падзяляюць антынавуковыя і шарлатанскія погляды пра іх нібыта вялікую небяспеку.

### Што будзе далей?

Далей будзе толькі горш. Спецыялісты папярэджваюць, што акрамя адру ва Украіну могуць прыйсці больш сур'ёзныя хваробы, такія як дыфтэрыя. Калі прышчапіць ад адру адносна проста (дастаткова дзвюх прышчэпак у дзяцінстве), то рабіць прышчэпку ад дыфтэрыі трэба і дарослым кожныя 10 гадоў. Таму распаўсюджвацца дыфтэрыя будзе яшчэ хутчэй. А гэта больш небяспечная хвароба, чым адзёр — без сыроваткі і лячэння памірае каля 50% хворых.

Перад паездкай у краіны з вялікай колькасцю інфікаваных упэўніцеся, што ў вас і вашых дзяцей ёсць усе неабходныя прышчэпкі. Калі прышчэпак няма, зрабіце іх не пазней за месяц да паездкі. Калі пасля паездкі ў небяспечныя краіны вы адчуваеце сябе кепска, звярніцеся да доктара і паведамце, з якой краіны вярнуліся.

**Максім Маханькоў**

# Дачка Пуціна разышлася з мужам. Але ён за час шлюбу паспеў стаць мільярдэрам



Член праўлення кампаніі «Сібур» Кірыл Шамалаў расстаўся з кіраўніком фонду «Нацыянальнае інтэлектуальнае развіццё» Кацярынай Ціханавай (якую называюць дачкой Пуціна), паведамілі крыніцы *Bloomberg*.

*Bloomberg* паведамляе пра гэта са спасылкай на чатыры крыніцы, знаёмыя з сітуацыяй. Падрабязнасці, у тым ліку ці ідзе гаворка пра афіцыйны развод, агенцтва не прыводзіць. У базах судоў Масквы і Пецярбурга адпаведная інфармацыя адсутнічае.

Пра вяселле Шамалава і Ціханавай раней паведамлялі крыніцы агенцтва *Reuters*. Афіцыйнага пацвярджэння гэтая інфармацыя не атрымлівала.

Прадстаўнік «Сібура» адмовіўся ад каментароў. РБК накіраваў запыт у фонд «Інопрактика», які кіруе Ціханава.

Шамалаў у 2016 годзе ўвайшоў у рэйтынг *Forbes*, стаўшы самым маладым расійскім мільярдэрам (на той момант яму было 34 гады). Ён заняў 64-е месца з $ 1,2 млрд. У гэтым годзе бізнэсмен заняў 74-ы радок, часопіс ацаніў яго капітал у $ 1,3 млрд.

**rbc.ru**

# Хворага на рак мужчыну высадзілі з маршруткі пад Слуцкам

66-гадовага жыхара Слуцка Міхаіла, інваліда 2 групы, кіроўца маршруткі Бараўляны — Слуцк высадзіў з машыны, калі той у дарозе захацеў выйсці па «малой патрэбе». Вадзіцель, аднак, сцвярджае, што мужчына, наадварот, не хацеў пакідаць салон, пераконваючы, што дацерпіць да Слуцка, і патрабаваў у яго ехаць 120 км/г. У іншым выпадку пасажыр абяцаў справіць патрэбу адразу ў салоне, паведамляе «Інфа-Кур'ер».

### Што распавёў Міхаіл, пацярпелы пасажыр

«У Бараўляны я паехаў раніцай 12 студзеня, прайшоў абследаванне і прыйшоў на прыпынак, спяшаўся, каб паспець на дзве гадзіны. У маршрутцы былі яшчэ вольныя месцы, і мяне ўзялі. Я сядзеў на пярэднім сядзенні разам з кіроўцам.

Усё адбылося, не даязджаючы да Грэска.

Пры абследаванні я выпіў шмат вадкасці, еду, адчуваю, што не дацярплю да Слуцка. Стаў прасіць кіроўцу спыніць. Кіроўца, смуглы мужчына, гадоў 35–40, абурыўся, стаў лаяцца матам. Я кажу: «Што мне рабіць, нас...ць у цябе проста тут?»

Кіроўца спыніў машыну, выйшаў з кабіны, абышоў, адкрыў мае дзверцы, схапіў мяне за куртку і пацягнуў. Я баяўся, што ён парве куртку, і вылез. Ён зачыніў дзверцы з майго боку, сеў у кабіну і паехаў».

### Аповед Аляксандра, кіроўцы і ўладальніка маршруткі

Аляксандр пацвердзіў «Кур'еру», што такі выпадак быў, але ў яго аповедзе ён выглядаў паіншаму: «Мужчына сеў на прыпынку ў Бараўлянах, — распавёў Аляксандр. — Спакойны і адэкватны, як мне падалося. Увесь час маўчаў.

Калі праехалі больш за палову шляху, ён раптам спытаў, з якой хуткасцю я еду. Я адказаў, што «сто», а ён сказаў, што тут можна і сто дваццаць, і папрасіў ехаць хутчэй.

Я спытаў у яго, што здарылася. Не адразу, але пасажыр сказаў, што яму трэба ў туалет. Разы два я яму прапаноўваў спыніцца, каб ён справіў патрэбу, але той адмаўляўся, лаяўся, каб я ехаў хутчэй, казаў, што дацерпіць.

Мне надакучыла гэтая лаянка. Мне што — трэба, каб ён тут нарабіў? Я высадзіў яго на прыпынку «Ленькі» і з'ехаў. Грошай за паездку не браў.

Я разумею, што ваджу па такім маршруце шмат хворых людзей, бацькоў з дзецьмі. Таму, калі просяць, заўсёды спыняю машыну».

# Пад Баранавічамі казакі павесілі антыўніяцкую шыльду. Улады яе знялі



Ля вёсачкі Колбавічы Баранавіцкага раёна актывісты арганізацыі «Казацкі Спас» паставілі два крыжы. На адным дубовым крыжы выкананы надпіс «Адрынутыя гвалтам (1596)», «Уз'яднаныя любоўю (1839)».

Даты даюць адсылку да падзей, звязаных з уніяцтвам. 1596 — год падпісання Брэсцкай уніі. 1839 — год скасавання уніі ў Расійскай Імперыі. З апошнім надпісам выпускаўся медаль у Расійскай Імперыі.

Пазней стала вядома, што крыжы былі ўсталяваныя самавольна, без дазволу баранавіцкіх уладаў. 2 лютага ў Баранавіцкім райвыканкаме прайшла нарада адносна гэтых крыжоў.

У аддзеле ідэалогіі райвыканкама «НН» паведамілі, што адзін з крыжоў быў усё ж усталяваны законна. Ён пастаўлены на месцы старога, які ўжо падгніў, а мясцовыя людзі даўно прасілі яго замяніць. На тым крыжы няма ніякіх шыльдаў, а проста невялічкая іконка.

Што тычыцца другога крыжа, то ў райвыканкаме вырашылі, што шыльда павінна быць зьнятая, але сам крыж будзе ўзаконены.

«Што тычыцца сувязяў з казацтвам, то гэта ўсё дудкі. Мы звязваліся з баранавіцкім казацтвам, нам сказалі, што гэта не яны. Святар, які асвяціў гэты крыж, не ведае, хто гэта рабіў», — сказалі ў аддзеле ідэалогіі.

Побач з Колбавічамі на ўзбярэжжы Шчары пабудаваны турыстычны комплекс. Будавалі яго з удзелам расійскага капіталу. Найперш на гэтым месцы была ўзведзеная капліčка ў гонар Маці Божай «Жываносная крыніца».

**Зміцер Панкавец**

З пошты Рэдакцыі

# «У вас нічего не получітся». Як мінчанку не хацелі запісваць у беларускамоўную групу садка

Зварот Марыі, маці Сымона.

— У вас нічего не получітся.

Я паўтараю:

— Калі ласка, запішыце нас у садок № 66, у беларускамоўную групу.

— Девушка, я вам об'ясняю, что у вас нічего не получітся.

— Калі ласка, запішыце нас у садок № 66, у беларускамоўную групу, — цярпліва паўтараю я.

— Я запішу, но у вас все равно нічего не получітся.

Кароткія гудкі.

На тым канцы дроту зрабілі ўсё, каб запэўніць мяне, што я адна такая дурная на ўвесь Першамайскі раён. Але я ведаю, што нас з Дашай такіх дурных прынамсі дзве.

Яшчэ нельга зрабіць так, каб вось ты выйшаў на ганак, а ў садку побач з домам — беларускамоўная група. Але я ўпэўненая, што ўжо можна арганізаваць такія групкі, адну на некалькі кварталаў, каб вазіць дзіця ў садок усяго пару прыпынкаў, а не праз увесь горад.

Я падрыхтавала абвестку. Буду ўдзячная, калі вы скапіюеце тэкст, прыведзены ніжэй, і разашляце зацікаўленым мамам і татам у Першамайскім раёне. І самі далучайцеся. Я перакананая, што, кажучы іх мовай, у нас «все получітся».

**Мамы і таты Першамайскага раёна!**

Ёсць магчымасць аддаць дзіця ў ясельную групу з беларускай мовай у садку №66 (праспект Незалежнасці, 102а, у дварах каля «Беларусьфільма», за 50 метраў ад станцыі метро «Маскоўская»). Пры дастатковай колькасці ахвотных туды прымуць дзетак, якім на 1 верасня 2018 года будзе ад 2 да 3 гадоў (2 гады і 1 месяц, 2 гады і 11 месяцаў — так; 1 год і 9 дзевяць месяцаў, 3 гады і 1 месяц — не).

Заявіць пра сваё жаданне могуць усе, хто стаіць на ўліку ў Першамайскім раёне. Для гэтага трэба патэлефанаваць па нумары, пазначаным на паперцы, якую вам выдадуць у «Адным акне» на Кузьмы Чорнага, 6, і сказаць даслоўна наступнае: «Калі ласка, запішыце нас у садок № 66, у беларускамоўную групу».

**Настасся Роўда**

# Топ-5 самых купляных выданняў у «Акадэмкнізе» за студзень 2018

**1. Яўгенія Янішчыц: творы, жыццяпіс, каментарыі. Том 2**

Змест 2-га тома чатырохтомнага выдання складаюць вершы са зборніка «Каліна зімы», шэсць паэм (адна з іх — «Завеі снежаньскай пялёсткі» — упершыню друкуецца ў кніжным выданні) і 21 празаічны твор (5 публікуюцца ўпершыню).

У дадатках — бібліяграфічны паказальнік прац пра Янішчыц, прысвечаныя паэтцы вершы (136 вершаў 95 аўтараў), паэма, зномы, п'еса, аповесць; успаміны пра яе (34 аўтары)...

**2. Кастусь Цвірка. Зорка філаматаў**

200 гадоў назад, восенню 1817 года, студэнты-беларусы Віленскага ўніверсітэта стварылі знакамітае Таварыства філаматаў, якое дало пачатак новай беларускай літаратуры. У кнігу ўвайшлі нарысы і эсэ пра Адама Міцкевіча, Тамаша Зана, Яна Чачота, Ануфрыя Петрашкевіча, Ігната Дамейку, а таксама іх папярэднікаў і паслядоўнікаў.

**3. Гісторыя Сапегаў: жыццяпісы, маёнткі, фундацыі. Уклаў Яўстах Сапега.**

Гэта своеасаблівая энцыклапедыя роду Сапегаў, які пакінуў значны след у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Публікуюцца 85 жыццяпісаў найбольш выдатных прадстаўнікоў роду, сярод якіх канцлер Леў, гетман Казімір Ян, генерал артылерыі і ўдзельнік паўстання Касцюшкі Францішак... Чытачу прапануюцца таксама апісанні 72 сапегаўскіх маёнткаў і фундацый.

**4. Аляксандр Сержпутоўскі. Палешукі-беларусы. Этнаграфічны нарыс**

Гэта першае беларускае выданне рукапісу Сержпутоўскага (1864—1940), створанага ў 1908 г. для Расійскага этнаграфічнага музея, дзе ён захоўваецца да цяперашняга часу. Выданне ўтрымлівае малюнкі, чарцяжы і падборку аўтарскіх фота 1910 г. з экспедыцыі ў Цэнтральнае Палессе.

**5. Аляксей Ненадавец. Легенды старых млыноў**

Кніга прысвечана гісторыі ўзнікнення і развіцця млынарства ў Беларусі. Падкрэсліваецца, што ў народным асяроддзі млынары, хоць рабілі толькі добрую справу, часта лічыліся варажбітамі, чорнымі знахарамі. Аўтар цытуе мноства вуснапаэтычных і літаратурных твораў пра гэта.

Гэтыя і іншыя выданні можна адшукаць у кнігарні «Акадэмічная кніга» (Мінск, пр.Незалежнасці, 72).

## Працягласць жыцця ў Беларусі вырасла да 74,3 года

Пра гэта паведаміў журналістам міністр аховы здароўя Валерый Малашка перад выніковай калегіяй Міністэрства аховы здароўя, піша БелТА.

«Самым галоўным вынікам з'яўляецца тое, што мы сталі жыць даўжэй. За апошнія 20 гадоў чаканая працягласць жыцця павялічылася на пяць з паловай гадоў і дасягнула ў 2017 годзе свайго максімуму — 74,3 года. На агульнаеўрапейскім малюнку мы выглядаем няўдрэнна», — сказаў Валерый Малашка.

Скарачаецца разрыў чаканай працягласці жыцця мужчын і жанчын.

## Узбекістан і Кітай просяць адкрыць у сябе кафедры беларускай мовы

Замежныя ВНУ хочуць ствараць у сябе кафедры беларускай мовы, паведаміў на прэс-канферэнцыі прарэктар па вучэбнай рабоце і інтэрнацыяналізацыі адукацыі БДУ Сяргей Ходзін, паведамляе «Мінск-Навіны».

У БДУ звярталіся з аднаго з узбекскіх універсітэтаў з просьбай дапамагчы адкрыць кафедру беларускай мовы. Такая ж просьба паступіла і з Пекінскага ўніверсітэта замежных моў.

БДУ аказвае падтрымку Цэнтрам беларускай мовы і культуры ва ўкраінскіх, азербайджанскіх і казахстанскіх універсітэтах. А ў Латвіі, Польшчы і Літве працуюць беларускамоўныя школы.

# Чаргінец выступіў за вуліцу і помнік Васілю Быкаву ў Мінску

Кіраўнік праўладнага Саюза пісьменнікаў Беларусі прапанаваў назваць імем Васіля Быкава мінскую вуліцу Фрунзэ, дзе стаіць Дом літаратара, а непадалёк паставіць помнік Быкаву — каля кінатэатра «Мір», паведамляе Радыё Свабода.

Чаргінец запэўніў, што вуліца Васіля Быкава ў Мінску будзе, але калі — сказаць не змог. Таксама ён выказаўся за тое, каб у Мінску былі і вуліцы народных паэтаў Беларусі Рыгора Барадуліна і Ніла Гілевіча.

Кіраўнік праўладнага Саюза пісьменнікаў заявіў, што Аляксандар Лукашэнка падтрымаў ідэю адкрыцця ў музеях Мінска і Гродна аддзелаў, прысвечаных Быкаву.

«У тым, што дагэтуль у беларускай сталіцы няма вуліцы Быкава, вінаваты іншы літаратар — Уладзімер Някляеў», — сказаў Чаргінец.

Чаргінец паскардзіўся, што называць вуліцы імёнамі нават народных пісьменнікаў не так лёгка. Вырашаюцца пытанні на сесіях гарсавета, а там чэргі агромністыя.



# Мінскія чыноўнікі: На сёння аб перайменаванні вуліцы ў гонар Быкава гаворкі не ідзе

Кіраўнік Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец прапанаваў перайменаваць сталічную вуліцу Фрунзэ ў вуліцу Быкава. Аднак у Мінгарвыканкаме *tut.by* растлумачылі, што сёння аб перайменаванні гаворкі не ідзе, але вуліца Быкава ў Мінску ўсё ж такі можа з'явіцца.

Сталічныя чыноўнікі паведамілі, што да іх паступае шмат зваротаў з прапановай перайменаваць якую-небудзь з мінскіх вуліц у вуліцу Быкава ці назваць у гонар класіка беларускай літаратуры новую магістраль.

Пры гэтым у Мінгарвыканкаме звяртаюць увагу на закон «Аб назвах геаграфічных аб'ектаў»:

— У законе выразна напісана, што такое перайменаванне неабходна ўзгадняць з людзьмі, якія пражываюць на гэтай вуліцы. Гэта вельмі вялікая праблема, людзям трэба пераафармляць усе дакументы. У тым ліку таму камісія па перайменаванні і Мінскі гарадскі савет дэпутатаў не падтрымліваюць такія ініцыятывы. Сёння аб перайменаванні гаворкі не ідзе.

Зрэшты, ва ўпраўленні падкрэсліваюць, што імёны выдатных дзеячаў беларускай культуры і гісторыі можна прысвоіць новым вуліцам.

**Tut.by**

# Зарэзаў у калоніі педафіла, а на судзе папрасіў расстрэл — што вядома пра новага смяротніка

Першы намеснік старшыні Вярхоўнага суда Валеры Калінковіч агучыў імя сёмага «смяротніка». Да расстрэлу прысуджаны Віктар Лётаў, якога ў верасні 2017 года пакаралі за забойства сукамерніка ў глыбоцкай калоніі №13.

«Наша Ніва» высветліла, хто такі Лётаў і што здарылася ў калоніі.

Вядома, што 30-гадовы мужчына родам з Гродна. Ён не паспеў ані адвучыцца, ані ажаніцца, ані завесці дзяцей, бо фактычна ўсё жыццё правёў за кратамі — агулам Лётаў меў 4 судзімасці. Тры з іх — за забойствы сукамернікаў.

Першы раз яго асудзілі яшчэ падлеткам за цэлы шэраг злачынстваў: некалькі крадзяжоў, у тым ліку аўтамабіляў... Ён атрымаў 3 гады ў выхаваўчай калоніі.

Пасля адседкі Лётаў не змяніўся — ізноў крадзяжы, рабаўніцтва. Яго знайшлі, затрымалі, судзілі. На гэты раз Віктару прысудзілі 7 гадоў калоніі, сядзеў у Оршы.

У аршанскай калоніі мужчына забіў сукамерніка. Быў суд, Віктар атрымаў 13 гадоў.

Але пасля гродзенец забіў яшчэ аднаго сукамерніка. На гэты раз яму прысудзілі 21 год зняволення.

Аднак і гэтае забойства не стала апошнім. У 2017 годзе ўжо ў Глыбокім, у выпраўленчай калоніі №13, Лётаў яшчэ раз забіў чалавека. Ахвярай ізноў стаў зняволены — яны працавалі разам.

Вядома, што Лётаў працаваў у калоніі, у цэху, дзе чысцілі кабелі, аддзялялі ізаляцыю ад дратоў. Падчас працы зняволеныя выкарыстоўвалі невялікія металічныя пласціны, даўжынёй сантыметраў пяць.

Лётаў скраў адну пласціну і схаваў. Калі разам з іншым зняволеным вывозіў смецце, ён спыніў «калегу» ў месцы, дзе нікога больш не было, і нанёс ахвяры мноства ўдараў металічнай пласцінай.

Мужчына сканаў.

Затым Віктар адправіўся да аховы і паведаміў, што зарэзаў зняволенага. Матывы Лётаў асабліва не тлумачыў: сказаў, што даўно адчуваў да ахвяры асабістую непрыязнасць і гідлівасць.

Крыніцы «Нашай Нівы» паведамляюць, што гэта звязана з тым, што забіты належаў да так званай касты «апушчаных». Мужчына, які стаў ахвярай, быў двойчы асуджаны за сэксуальныя дзеянні ў дачыненні да непаўналетніх. Апошні раз яму прысудзілі 14 гадоў зняволення.

На судзе Лётаў прызнаў віну, пацвердзіў, што забойства планаваў загадзя. Ён сам папрасіў для сябе расстрэл, таму і не абскарджваў пасля прысуд.

**Улад Швядовіч**



# Пяцярым жыхарам Альшан пагражае па 6 гадоў турмы: яны адбівалі ў міліцыі бяспраўніка, які збіў дзяўчынку

Гісторыя адбылася яшчэ ўлетку 2017-га года: 20-гадовы хлопец без правоў катаўся на матацыкле. У яго не было шлема — гэта прыцягнула ўвагу даішніка. Але хлопец вырашыў не спыняцца, а ўцячы. Пачалася пагоня. У выніку матацыкліст збіў 13-гадовую дзяўчынку, якая перабягала дарогу побач з пешаходным пераходам.

Далей пачалася тыповая для Альшан гісторыя. На вуліцы сабраўся натоўп мясцовых жыхароў, якія патрабавалі не затрымліваць аднавяскоўца: маўляў, ДТЗ адбылося, бо яго матацыкл нібыта штурхнулі машынай даішнікі.

«Вяскоўцы сваімі дзеяннямі перашкаджалі працы міліцыянтаў. У адказ на законныя патрабаванні супрацоўнікаў міліцыі — пакінуць месца здарэння — 42-гадовы мужчына ўжыў да іх гвалт», — паведамляе пракуратура Брэсцкай вобласці.

У выніку даішнікі закрыліся ў машыне і не выходзілі, паведамляў падрабязнасці *tut.by*. А яшчэ чацвёра мясцовых (дваім з іх не было яшчэ 18 гадоў) пачалі біць па міліцэйскім аўто. На месца тэрмінова прыехаў нават міліцэйскі начальнік са Століна.

Гісторыя скончылася тым, што дзяўчынку шпіталізавалі, з парушальнікам разабраліся. А «абаронцаў» цяпер будуць судзіць.

Мужчыну, які пачаў канфлікт, затрымалі. Цяпер будуць судзіць за гвалт у дачыненні да міліцыі (а гэта — да 6 гадоў пазбаўлення волі).

Шкоду, нанесеную аўтамабілю ДАІ, ацанілі ў 1100 рублёў. Тых, хто яе нанёс, вінаваціць у злосным хуліганстве. Паўналетнія абвінавачаныя пад вартай, непаўналетнія — на волі, пад падпіскай.

Адказнасць за злоснае хуліганства — таксама да 6 гадоў зняволення.

Дарэчы, сам матацыкліст-бяспраўнік, які збіў дзяўчынку, быў пакараны хатняй хіміяй.

**УШ**

# Як склаўся лёс віцэ-мэра Асіповічаў, які нападпітку «мініраваў» мясцовыя КДБ і міліцыю?

Летась, напрыканцы красавіка, у Асіповічах адбылася выключная па сваёй абсурднасці гісторыя: намеснік старшыні райвыканкама па ідэалогіі Аляксандр Шаўлюга, быўшы нападпітку, пазваніў у міліцыю з паведамленнем, што мясцовыя КДБ і міліцыя замінаваныя.

Вядома, ніякіх бомбаў там не было, але РУУС эвакуявалі ў поўным складзе. Асобу жартаўніка вылічылі хутка, завялі крымінальную справу па артыкуле «Заведама хлуслівае паведамленне аб небяспецы».

Але як лёс чыноўніка склаўся далей?

Як стала вядома «Нашай Ніве», крымінальная справа да суду не дайшла — яе спыніў бабруйскі раённы пракурор (ён разглядаў гэтую справу, бо так заведзена: справы на «вертыкальшчыкаў» перадаюць у суседнія, непадведамныя ім раёны).

«Справа была спыненая ў сувязі з прыцягненнем да адміністрацыйнай адказнасці — яму далі 30 базавых», — паведамілі «Нашай Ніве» ў прэс-службе пракуратуры Магілёўскай вобласці.



Аляксандр Шаўлюга (злева).

Праўда, з работы ў выканкаме Шаўлюгу давялося сысці — цяпер ён працуе доктарам у мясцовай паліклініцы.

«Гэты чалавек мае медыцынскую адукацыю, таму скончыў курсы перападрыхтоўкі і цяпер працуе ў нас, робіць УГД. З камплектаваннем медыцынскімі кадрамі ў нас не вельмі добра, адмаўляцца не выпадае», — расказаў калега Шаўлюгі.

**Арцём Гарбацэвіч**

# «Гэта быў мой першы апраўдальны прысуд па забойстве». Якую справу Лукашэнка раскрыў за суткі

Забойства жыхаркі Магілёва адбылося яшчэ ў 2009 годзе, у 2010-м Магілёўскі абласны суд вынес па гэтай справе апраўдальны прысуд. Але пасля таго, як умяшаўся кіраўнік дзяржавы, справу аднавілі, бо раскрыліся новыя абставіны. 31 студзеня яе накіравалі ў Вярхоўны суд.

Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы са старшынёй Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз Андрэем Шведам распавёў, як дапамог раскрыць злачынства, якое адбылося ў Магілёўскай вобласці. Па дапамогу да прэзідэнта звярнуўся бацька забітай.

— Прыйшоў і кажа: «Аляксандр Рыгоравіч, ну не можа быць, каб было так, як суд прыняў рашэнне, і так, як следства правялі». (...) Я сеў і сам за суткі вывучыў яе. І даў каманду пракурору і старшыні КДБ, чаго б ні каштавала, расследаваць гэтую крымінальную справу. Нягодніка знайшлі ў Расіі, прывезлі ў Мінск, распачалі зноў крымінальную справу, пачалі расследаваць. Прытым я кантраляваў увесь гэты працэс. І аказалася, што ён — забойца. А яго фактычна апраўдалі.

Як высветліў **tut.by**, гаворка ідзе пра забойства жанчыны, якое адбылося ў 2009 годзе. Тады абвінавачванне было прад'яўлена беларусу, які рэгулярна ездзіў на заробкі ў Расію. Праз год — у лютым 2010 года — Магілёўскі абласны суд вынес апраўдальны прысуд. Суддзя, якая разглядала гэтую справу, на пенсіі ўжо некалькі гадоў. Пра тое, што апраўданаму зноў выстаўленае абвінавачванне, яна даведалася з інтэрнэту. У размове з журналістам жанчына адмовілася абмяркоўваць гісторыю 2009 года.

— Гэта было 8 гадоў таму, праваахоўныя органы разбяруцца, хто мае рацыю, хто вінаваты. Мой прысуд быў разгледжаны ва ўсіх інстанцыях, пакінуты ў сіле, рэспубліканская пракуратура падтрымала, — кажа былая суддзя. — Я памятаю яе... Сапраўды, апраўдальныя прысуды выносяцца нячаста, для мяне гэта быў першы апраўдальны прысуд па гэтым артыкуле [заўв. **tut.by**. — арт. 139 КК «Забойства»]. Я працавала якасна, таму прысуды заставаліся ў сіле. У маёй 30-гадовай практыцы суддзёй было ўсякае: па пяць разоў маглі адмяняць і зноў да вытворчасці прымаць. Таму загадзя рабіць высновы, даваць каментары — гэта няправільна. Тым больш што я не ведаю, з якой прычыны адмянілі прысуд, у нас падставаў для адмены шмат.

— Кажуць, крымінальную справу распачалі ў сувязі з новымі абставінамі.

— Тады гэта зусім іншая справа. Калі адмяняюць за няздбалае стаўленне, гэта, вядома, спыненне паўнамоцтваў для суддзі. А новыя акалічнасці могуць і праз 20 гадоў з'явіцца, і праз 30. Як любы суддзя, я за тое, каб перамагла ісціна. Калі гэтыя акалічнасці дапамогуць знайсці злачынцу і асудзіць — гэта будзе правільна.

Восем гадоў таму сваякі пацярпелай былі не згодныя з апраўдальным прысудам і абскардзілі яго ў Вярхоўным судзе, які пакінуў прысуд у сіле. Пасля таго, як злачынствам зацікавіўся прэзідэнт, у 2017 годзе год была распачатая крымінальная справа па ч. 2 п. 6 арт. 139 КК «Забойства з асаблівай жорсткасцю».

Днямі матэрыялы справы былі накіраваныя ў Вярхоўны суд. Хутка абвінавачаны зноў паўстане перад судом. Санкцыя артыкула прадугледжвае пакаранне: ад 8 да 25 гадоў пазбаўлення волі, ці пажыццёвае пакаранне, ці смяротнае пакаранне.

**Кацярына Барысевіч, tut.by**

# Мінчанка будзе весці новы сезон тэлешоу «Арол і рэшка»

Вядоўцай папулярнага ўкраінскага шоу пра вандроўкі стане мінчанка Вольга Анціпава.

Мікалай Картозія, генеральны дырэктар тэлеканала «Пятніца» (які таксама паказвае шоу), напісаў, што Вольга скарыла яго сваёй непасрэднасцю. Нягледзячы на адсутнасць досведу, ён абраў менавіта яе.

«У Вольгі няма ніякага досведу вядоўцы. Яна нарадзілася ў Абакане, працавала настаўніцай па гітары. З сыходам Лесі Нікіцюк з «Арла і рэшкі» знікла святая непасрэднасць рэакцый. Калі я праглядаў гэтыя шэсць з нечым тысяч відэаролікаў, я ў тым ліку шукаў дзяўчыну... Не, не падобную на Лесю, але з той жа ступенню ўнутранай свабоды і прастатой, якая падкупляе. І я яе знайшоў. Вольга была абраная мной на вочны кастынг і паспяхова яго прайшла. У найбліжэйшы час яна пройдзе навучанне і дэбютуе ў якасці вядоўцы ў фінале новага сезону «Арол і рэшка. Расія», — напісаў у інстаграме генеральны дырэктар тэлеканала «Пятніца».

Вользе 23 гады, сябе яна называе «непрызнанай актрысай».

На кастынг дзяўчына зняла ажно чатыры відэа, каб ужо дакладна ўзялі.

**Настасся Роўда**



## Збілі свае ж, бо не пайшоў на працу — што вядома пра беларуса, якога знайшлі мёртвым у пецярбургскім хостэле

27 студзеня ў хостэле «Нэльсан», які месціцца ў Санкт-Пецярбургу, знайшлі цела беларуса. У мужчыны былі гематомы і сінякі на твары і руках.

Высветлілася, што 41-гадовы Сяргей Мартынаў па п'янцы пабіўся з суайчыннікамі.

Сямёра беларусаў прыехалі ў «Нэльсан» 20 студзеня. Увогуле, той «Нэльсан», хутчэй, не хостэл, а танны інтэрнат для рабочых, якія прыязджаюць у Пецярбург на працу.

«Не ведаю, дзе яны працавалі, але амаль тыдзень усё было добра. Хадзілі на працу, паводзілі сябе ціха і прыстойна, — распавяла «Нашай Ніве» адміністратарка «Нэльсана». — Але ў пятніцу, 26 студзеня, большасць чамусьці на працу не пайшла, засталіся ў нас. Пачалі піць, пілі ўвесь дзень. І пасля на Сяргея наехалі свае ж: маўляў, чаму ён так п'е, што на працу не пайшоў.

Пасварыліся, Сяргей падышоў да мяне — у яго нос быў разбіты, але ён не скардзіўся».

Тады адміністратарка «перасяліла» Мартынава ў іншы пакойчык, да расейцаў. Але, кажа, ён працягнуў піць і там, пасля ў той пакой падцягнуліся і беларусы.

«Затым, здаецца, беларусы яго забралі да сябе, бо Мартынаў быў вельмі п'яны і ў яго хтосьці нібыта хацеў па кішэнях палазіць, абкрасці, — кажа адміністратарка. — Ну і ўсё. А раніцай знайшлі цела».

Выклікалі паліцыю, праваахоўнікі затрымалі ўсіх 6 беларусаў.

6 лютага Сяргею Мартынаву споўнілася б 42 гады.

**Улад Швядовіч**

# 73-гадовы экс-канцлер Германіі Шродэр бярэ пяты шлюб. Цяпер — з карэянкай

Былы канцлер ФРГ Герхард Шродэр плануе ажаніцца ў пяты раз. Абранніцай 73-гадовага палітыка стала 48-гадовая Кім Со Ён з Паўднёвай Карэі.

Яго нарачоная, у сваю чаргу, пацвердзіла намеры пары ў інтэрв'ю агенцтву *Yonhap*.

— Плануем згуляць вяселле восенню, — прыводзіць агенцтва словы палітыка. Паводле яго слоў, месца і дакладная дата вяселля будуць вызначаны пазней.

Шродэр і Кім Со Ён, якая працуе прадстаўніком нямецкай карпарацыі па развіцці прадпрымальніцтва, ужо некалькі гадоў жывуць на дзве краіны — у Паўднёвай Карэі і Германіі.



# У Літве паставілі помнік Сталіну. Але з пятаком, як у чорта




Уладальнікі літоўскай закусачнай амерыканскай кухні *Keulė Rūkė* паставілі «помнік» Сталіну перад сваім грыль-барам у Каўнасе, які аформлены ў стылістыцы раманаў Джорджа Оруэла «1984» і «Ферма».

Калектыў бургернай праславіла графіці «Пацалунак Пуціна і Трампа» ў Вільні каля вакзала.

Бюст «правадыру народаў» у Каўнасе адкрыты на фоне дыскусій пра забаронены ў Расіі фільм брытанскага рэжысёра Арманда Ianучы «Смерць Сталіна».

«У незалежнай краіне ў людзей ёсць права свабодна выказваць сваё меркаванне, у тым ліку высмейваючы крывавы рэжым. Важна не баяцца закранаць нязручныя тэмы, і ні ў якім разе нельга ігнараваць сваё мінулае», — адзначыў адзін з арганізатараў праекта Дамінікас Чэчкаўскас.

**Delfi.lt**

## Чалавецтва перажыло падзенне гіганцкай каметы

Навукоўцы Чыкагскага ўніверсітэта лічаць, што каля 13 тысяч гадоў таму на Зямлю ўпала камета дыяметрам больш за 100 кіламетраў. Касмічнае цела разбілася на фрагменты, якія «бамбардзіравалі» Паўночную і Паўднёвую Амерыку, захад Еўропы і Азіі. Гэта выклікала «астэроідную зіму», масавае выміранне фаўны і вялікія лясныя пажары, паведамляе *The Journal of Geology*.

У пласце лёду, які ўтварыўся ў познім дрыясе (завяршальны этап апошняга абледзянення), выяўленыя анамальная колькасць плаціны, што паказвае на тое, што гэты элемент быў выкінуты ў атмасферу Зямлі ў выніку катастрафічнай падзеі. У той жа час адбыўся рост канцэнтрацыі солі і пылу, што сведчыць пра ўзмацненне вятроў з-за глабальнага змянення клімату.

Таксама ў адкладах лёду выявілі прыкметы глабальных лясных пажараў. Было выяўлена павелічэнне колькасці прадуктаў гарэння біямасы — амонію, аксіду азоту і ацэтату. Плошча знішчанай агнём расліннасці ацэньваецца ў 10 мільёнаў квадратных кіламетраў (9 адсоткаў усёй біямасы Зямлі). У прыватнасці, выгарала большая частка хваёвых лясоў, на месцы якіх выраслі тапалі.

# На Кубе скончыў жыццё самагубствам старэйшы сын Фідэля Кастра

Старэйшы сын Фідэля Кастра, 68-гадовы Фідэль Анхель Кастра Дыяс-Баларт, скончыў жыццё самагубствам. Па дадзеных СМІ, апошнія месяцы медыкі аказвалі Кастра дапамогу ў сувязі з глыбокай дэпрэсіяй.

Спачатку ён знаходзіўся ў шпіталі, а затым быў пераведзены на амбулаторнае лячэнне.

Дыяс-Баларт, якога на Кубе называлі Фідэліта, нарадзіўся ў 1949 годзе ў Гаване.

У 1968 годзе ён паступіў у Варонежскі дзяржаўны ўніверсітэт, пасля двух гадоў навучання перавёўся ў Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт.

Ён скончыў універсітэт па спецыяльнасці «ядзерная фізіка», пасля чаго вучыўся ў аспірантуры Інстытута атамнай энергіі ў падмаскоўнай Дубне.

У апошні час Фідэль займаў пасады дарадцы па навуцы Дзяржрады Кубы, а таксама быў намеснікам прэзідэнта Кубінскай акадэміі навук.

# «Я лепш звольнюся, чым апрану такую куртку» — жанчынам-кантралёрам не спадабалася іх новая форма



З 23 студзеня кантралёры «Мінсктранса» правяраюць аплату за праезд ва ўсіх відах грамадскага транспарту без спецыяльных камізэлек, піша «Транспартнік сталіцы».

Цяпер для працы кантралёры атрымалі сінія, зялёныя і шэрыя зімовыя форменныя курткі, выробленыя на швейным участку рамонтна-механічнага завода.

Сярод мужчын незадаволеных формай практычна няма: курткі падышлі па памеры і паспяхова прайшлі выпрабаванне марозам. Хіба што ёсць адзінкавыя скаргі на якасць: зламаўся замок, адляцела кнопка, парвалася кішэня.

Але ў жанчын-кантралёраў прэтэнзій хапае. Пашытыя па мужчынскіх лекалах, на жаночых фігурах курткі не сядзяць, візуальна павялічваюць плечы і дадаюць аб'ёму.

«Я лепш звольнюся, чым апрану такую куртку», — ледзь не плакала кантралёр на дыспетчарскай станцыі «Малінаўка-4», калі паказвала ў тэлефоне здымкі сваіх няўдала апранутых калег.

Некаторыя паспрабавалі «падагнаць» форму пад сябе. Хтосьці ўшыў у рукавы і ніз курткі гумкі, хтосьці нашыў на капюшон футра.

**НР**

# Былы міністр адукацыі Пятро Брыгадзін: Стваральнікам БНР трэба сказаць дзякуй

**Пятро Брыгадзін з 2001 да 2003 быў міністрам адукацыі. З таго часу працуе дырэктарам Дзяржаўнага інстытута кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ.**



**Пятро Брыгадзін**
Нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Моладава Іванаўскага раёна. Скончыў гістфак БДУ (1971). Выкладаў у БДУ. Рэктар Акадэміі кіравання пры прэзідэнце (2000—2001). Міністр адукацыі (2001—2003). Ад 2003 — дырэктар Дзяржаўнага інстытута кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ.

Пятро Брыгадзін — прафесійны гісторык, які займаецца пачаткам XX стагоддзя. Ён аўтар кніг «На пераломе эпох: станаўленне беларускай дзяржаўнасці (1917—1920)» і «Паміж Усходам і Захадам: станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917—1939)», сумесна з Уладзімірам Ладысевым.

100-годдзе абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі — цудоўная нагода паразмаўляць пра тыя падзеі, як яны бачацца сёння.

**«НН»: Пятро Іванавіч, 25 сакавіка будзе 100 гадоў ад моманту абвяшчэння незалежнасці БНР. Што значыла тая падзея для нашай гісторыі?**

**Пятро Брыгадзін:** Гэта быў працэс дзяржаўнага самавызначэння, які пачаўся ў 1917 годзе, яшчэ да рэвалюцыі. Нічога не здараецца ў адзін момант. Гэты працэс ішоў на працягу ўсяго 1917 года, 1918 года, і больш-менш ён акрэсліўся толькі ў 1920 годзе, пасля другога абвяшчэння БССР. Адна падзея неразрыўна звязаная з іншай.

Была і спроба паразумецца з Часовым урадам. Беларуская дэлегацыя, напрыклад, ездзіла ў Петраград, каб дамовіцца аб аўтаноміі краю. І нават такая вельмі абмежаваная ідэя аўтаноміі мела шмат праціўнікаў. Многія не разумелі, што адбываецца, а такія ж працэсы ішлі ў краінах Балтыі, ва Украіне, у Аўстра-Венгерскай Імперыі.

Галоўная складанасць была ў тым, што нас не прызнавалі за асобны этнас. І праз гэта рух не быў такі афармлены, як на іншых тэрыторыях. На беларускіх землях гэты працэс меў мноства праціўнікаў. Існавалі шматлікія расійскія партыі, а нацыянальныя партыі, як Беларуская сацыялістычная грамада, былі слабыя. Бежанства скінула велізарную колькасць беларусаў у Расіі. На невялічкай тэрыторыі, якая была акупаваная нямецкімі войскамі, нацыянальныя рухі мелі шмат абмежаванняў.

І тое, што пасля разгону Усебеларускага з’езда 1917 года прэзідыум працягнуў ягоную справу па падрыхтоўцы Устаноўчага сходу, мела значнасць. На такім раздарожжы, калі немцы адышлі, а бальшавікі яшчэ не прыйшлі, з’явілася магчымасць для нацыянальнага самавызначэння.

**«НН»: Як увогуле ў беларусаў у тыя часы саспела ідэя аб уласнай аўтаномнасці ці нават незалежнасці?**

**ПБ:** Нацыянальная ідэя ў часы крызісаў вымалёўваецца найбольш выразна. На памежжы этнас пачынае востра адчуваць сябе этнасам.

Калі бежанцы раскінуліся на ўсёй тэрыторыі Расіі, то зразумелі, што яны не зусім рускія. Ім казалі, што яны «рускія», але іх проста не разумела сталае насельніцтва тэрыторыі, дзе яны апынуліся.

Таму бежанскія арганізацыі вельмі актыўна ўключыліся ў нацыянальнае адраджэнне. Беларускія арганізацыі стваралія ў Петраградзе, Маскве, Варонежы, Арле, Адэсе...

Тыя, хто ўдзельнічаў на франтах, стварalі нацыянальныя адзінкі: украінскія, літоўскія. І беларусы таксама. Гэтыя працэсы падштурхнулі да арганізацыйнага афармлення. Калі сябры вайсковай рады выйшлі з турмы, куды іх пасадзілі бальшавікі, яны адразу заявілі, што ствараюць свой сакратарыят. Вось гэтыя члены прэзідыума Усебеларускага з’езда, дэлегаты палітычных партый і абвесцілі аб стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі. Яны скарысталіся тым невялікім часавым прамежкам, які мелі.

Абвесцілі аб стварэнні БНР, але немцы праз чатыры дні разагналі сакратарыят, сказаўшы, што беларусы занадта многа на сябе ўзялі. Потым былі другая, трэцяя ўстаўныя граматы.

Але галоўнае, што было зроблена, — заяўлена, што беларусы маюць намер стварыць сваю дзяржаўнасць.

І гэта вельмі важны фактар. Чаму? Мы не кажам, што ў нас сёння ёсць нейкія канфлікты з суседзямі, не, іх няма, але пра гэта трэба казаць. Бо на гэтую зямлю заявілі свае прэтэнзіі і палякі, і літоўцы, і ўкраінцы. УНР стварыла свае цэнтры кіравання ў Брэсце, Гомелі ды Мазыры і лічыла, што Палессе — іхняе.

Так здарылася, што мы знаходзімся на памежжы. Малому народу складана выжываць на памежжы без падтрымкі, а падтрымкі не было. Калі не будзе міжнароднага прызнання, то нічога не будзе.

**«НН»: А хто на той момант мог даць тую падтрымку?**

**ПБ:** Балтыйскія краіны і ўкраінцы звярталіся да немцаў: «Пад нямецкай уладай мы здабудзем сваю волю». І Літва, Эстонія, Латвія пад патранажам Вільгельма стварылі сваю дзяржаўнасць. А беларусаў ніхто не падтрымаў, ніхто! Таму і кідаліся ў розныя бакі. Хацелі звярнуцца да палякаў, але Скірмунт сказаў: «Не, толькі да немцаў». Ён там вучыўся, добра мову ведаў, ездзіў да іх як прэм’ер-міністр. Была і вядомая тэлеграма кайзеру.

**«НН»: А вы лічыце памылкай тую тэлеграму?**

**ПБ:** Ды якая памылка?! Не! Тыя падзеі варта разглядаць не з глядзішча нашага разумення. А трэба паставіць сябе на месца чалавека таго часу, які шукаў выйсця. Людзі бачылі, што суседзі зрабілі вось так, яны ўжо накіравалі тэлеграмы кайзеру, маўляў, мы пад вашай уладай. А чаму нам не зрабіць так?

А ў той жа час польскі корпус генерала Доўбар-Мусніцкага ўжо захапіў палову Мінска. І што тут рабіць? Трэба шукаць нейкае выйсце і паратунак. Гэта была суперскладаная задача. А яшчэ і Пілсудскі абвесціў пра стварэнне II Рэчы Паспалітай. А Пілсудскі родам з гэтых мясцінаў, называў сябе беларусам. Я сам знаходзіў у архіве ў Маскве, што Пілсудскі пры арышце ў анкеце запісаўся беларусам.

Сёння трэба разглядаць тую тэлеграму як спробу знайсці выхад. Але гэта раскалола Раду. Бо была прарасійская група, прапольская. Шмат хто лічыў, што падтрымку трэба шукаць на ўсходзе, бо там рэвалюцыя, сацыяльная справядлівасць. На Расію спадзявалася цэлая група. Тая ж Бадунова, якая была родам з Гомеля, была рускамоўнай. Дэлегацыя ездзіла ў Маскву на перамовы. Шмат хто не разумеў, як увогуле можна жыць без Расіі.

**«НН»: 25 сакавіка 1918 — гэта быў адчайны крок групы рамантыкаў займець уласную дзяржаву ці нешта большае?**

**ПБ:** Прыйшлі да разумення, што абвяшчэнне незалежнасці неабходнае. Першы крок жа быў ужо зроблены, другі зроблены. Застаецца толькі арганізацыйна абвесціць, што мы ствараем незалежную дзяржаву. Гэта ўсё было лагічна, а ніякі не крык адчаю.

Немцы ставіліся да ўсяго гэтага неяк абыякава: ну, займайцеся культурна-асветніцкімі справамі, нечым яшчэ. Ва ўрада БНР былі абмежаваныя паўнамоцтвы. Але яны накіроўвалі прадстаўнікоў на перамовы за мяжу, адкрывалі консульствы. Яны спрабавалі зачапіцца любымі шляхамі. Калі чытаеш дакументы, то разумееш усю складанасць. Разумелі яе і тыя людзі, якія гэта рабілі.

Яны больш за ўсё баяліся, што краіна будзе падзеленая. Гэта быў самы вялікі страх.

Была складанасць па Віленшчыне, бо беларускія дзеячы лічылі яе толькі сваёй тэрыторыяй. Тым больш беларусаў па перапісе ў Вільні было значна болей, чым літоўцаў. Польшча таксама заявіла свае інтарэсы на Віленшчыну. І літоўцы, Тарыба, больш прыязна ставіліся да беларусаў, як хаўруснікаў у супрацьстаянні палякам.

**«НН»: А што стала галоўнай прычынай, што пераўтварыцца ў паўнавартасную дзяржаву БНР так і не змагла?**

**ПБ:** Адсутнасць падтрымкі. Толькі гэта! Таму нашы прадстаўнікі і ездзілі на міжнародныя канферэнцыі ў Парыж, Берлін, спрабавалі дагрукацца, каб нас пачулі. Балты ўтрымаліся да Другой сусветнай, бо дапамаглі немцы. Немцы лічылі гэта Прусіяй, землямі Курляндыі, таму і сталі дапамагаць. Краіны Балтыі заўсёды былі бліжэйшымі да Захаду. А тыя працэсы, што адбываліся ў нас у XIX стагоддзі, вельмі паўплывалі на гісторыю. Мы страцілі тады занадта шмат сваёй інтэлігенцыі.

**«НН»: Якія пазітыўныя моманты прынесла абвяшчэнне незалежнасці БНР?**

**ПБ:** Гэта крышачку пазней падштурхнула савецкія ўлады да стварэння БССР. Гэта быў значны козыр у перамовах! Што такія працэсы самавызначэння адбываліся і на тэрыторыі Беларусі. І Ленін, калі абмяркоўваў стварэнне БССР, то пісаў у лістах, што яна патрэбная найперш як буферная тэрыторыя. Калі б не было Усебеларускага з’езда, усіх гэтых рухаў, то нічога б не было.

Трэба разумець, што БНР утваралася як часовая ўлада. Далей мусіў быць Устаноўчы сход, які павінен вызначыць уладу. І БНР была часовым інструментам перад Устаноўчым сходам, дзе і павінны былі абмяркоўвацца пытанні дзяржаўнага будаўніцтва.

Магчымасці былі вельмі абмежаваныя. Не было грошай, шукалі, дзе іх можна знайсці, а багатыя людзі ўжо часткова з’ехалі, нехта згубіў фінансы. Не ўсе тыя мецэнаты, хто фінансаваў рух у 1917 годзе, маглі рабіць так далей. Быў і крэдыт ад УНР. І шукалі магчымасць атрымаць крэдыт ад расійскай улады. Грошай не было, а як без грошай? Гэта цэлая тэма. Магчыма, з’явяцца гісторыкі, якія будуць вывучаць фінансаванне нацыянальнага руху ў 1917—1918 гадах. Бо вельмі цікава! А гэтая тэма амаль зусім нераспрацаваная. Некаторыя грошы згубіліся, некаторыя не дайшлі.

**«НН»: А каго персанальна са стваральнікаў БНР вы маглі б вылучыць?**

**ПБ:** Усю каманду, якая пасля разгону Усебеларускага з’езда не пабаялася. Многія ж адразу адышлі. А гэтыя людзі, каля 15 чалавек, гэты арганізацыйны камітэт, вартыя ўвагі: Язэп Варонка, Палута Бадунова, Макар Касцевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Тамаш Грыб, Алесь Прушынскі (Гарун), Леанард Заяц, Іван Серада, Язэп Дыла, Іосіф Лагун. Потым далучыўся мецэнат Раман Скірмунт. Яны засталіся ў ліку тых першых, хто ствараў уладу БНР. Гэта як Часовы ўрад, які быў створаны з дэпутатаў Думы, але дэпутатаў шмат, а часовы ўрад невялічкі. Гэта тыя, хто сказаў, што мы пойдзем далей.

**«НН»: Гэта вельмі смелыя людзі?**

**ПБ:** Канечне ж! І тыя, што ўваходзілі ў Вайсковую раду, спрабавалі стварыць беларускую армію, як Сымон Рак-Міхайлоўскі, і Кастусь Езавітаў, і Ігнат Дварчанін.

Рак-Міхайлоўскі меў больш магчымасцяў, ён служыў, быў дэлегатам на Усебеларускім з’ездзе ад арміі. Разумелі, што без арміі нельга абараніцца і весці размовы аб самавызначэнні.

**«НН»: А сярод названых асобаў галоўнага рухавіка вызначыць можна?**

**ПБ:** Не. Можа быць, Варонка, які і ўзначаліў Раду. Тамаш Грыб — вельмі разумны чалавек, адукаваны, сімпатычны. У яго была закаханая Бадунова, усё жыццё да яго цягнулася, але была значна старэйшая. Тамаш памёр хоць сваёй смерцю, а Палута... [расстраляная ў 1938. — **Рэд.**]

**«НН»: Вы яшчэ станоўча ацэньваеце персону Рамана Скірмунта.**

**ПБ:** Я проста ведаю, што ён рабіў. Сваім жыццём даказаў, што застаўся патрыётам.

Я родам з яго мясцінаў. Бацька Скірмунта пахаваны ў маёй вёсцы. І мой бацька, мой дзед, мама расказвалі пра Марыю, пра Генрыка, пра Рамана Скірмунтаў. Яны сустракаліся! Ён быў такі паляшук, гаварыў на паляшуцкай мове. Каля Скірмунта круціліся ўсе, цягнулі яго да сябе. Ён не правы быў, ён быў «краёўцам», уваходзіў у краёвую апазіцыю ў Дзяржаўнай Думе. Уся ягоная радня ўдзельнічала ў паўстанні 1863 года, пайшлі па этапе ў Сібір. Бацька Рамана быў найбагацейшым чалавекам на тэрыторыі Беларусі таго часу. Скірмунт разумеў, што ён з гэтай зямлі, быў патрыётам да апошняга. Тыя людзі, якія арганізоўвалі тут нешта, заслугоўваюць толькі павагі і нашай добрай памяці.

**«НН»: Іх памяць трэба ўшаноўваць?**

**ПБ:** Варта вельмі станоўча ацэньваць гэтыя імёны. Лёс у іх быў розны, але гэта будзе потым. Мы ж абмяркоўваем, што яны рабілі ў 1917—1918 гадах для беларускай дзяржаўнасці, і за гэта ім трэба сказаць дзякуй. Нашым дзядам і прадзедам, што яны тут нешта рабілі, каб мы стварылі незалежную дзяржаву. Гэтыя падзеі 1918 года ўжо вярнуліся ў нашую памяць, і гэта выдатна.

**Гутарыў Зміцер Панкавец,**
**фота Волі Афіцэравай**

# Як мабільная сувязь уплывае на пчол і чаму вуллі з пенаполістыролу выцясняюць драўляныя

Як мы ўяўляем сабе пчаляра? Добры дзядуля, які няспешна абыходзіць пасеку, пакурваючы дымаром. Але наўрад ці такое апісанне пасуе сучаснаму пчаляру-бізнэсоўцу. Сур'ёзны пчаляр — гэта качэўнік, дыпламат, асілак… Вобраз моцна змяніўся з мінулых часоў. Але што ж было ў тыя мінулыя часы?






ВКЛ на Carta Marina Олафа Магнуса — адной з самых ранніх картаў Паўночнай Еўропы (1539). Справа можна бачыць выяву мядзведзяў: адзін ласуецца мёдам, другі лезе на бортнае дрэва з падвешанай да яго доўбняй, якая мусіла ахоўваць мёд ад такіх няпрошаных гасцей.

### Смерць за мёд

Борці, Бортнікі, Бортнавічы — вёскі з такімі назвамі сустракаюцца ў розных рэгіёнах краіны. Падгляд пчол, здабыццё мёду і воску — гэта спрадвечныя заняткі беларусаў. Мёдам і воскам нашы продкі сотні год плацілі падаткі князям і дзяржаве, каштоўныя пчаліныя прадукты былі важным артыкулам экспарту. Першая дакументальная згадка пра беларускае бортніцтва адносіцца да канца XIII стагоддзя: жыхары Берасця мусілі плаціць валынскаму князю даніну мёдам.

У законах — ад «Рускай праўды» Яраслава Мудрага, што грунтавалася на даўнім звычаёвым праве славянаў, да Статутаў Вялікага Княства Літоўскага — рэгламентавалася дзейнасць бортнікаў, вызначалася строгае пакаранне тых, хто падымае руку на чужых пчолаў. У XVI—XVII стагоддзях, нават у часе вайны, салдатаў, якія ссеклі дрэва з борцю, каралі смерцю.

### Мільён борцяў

Пчолы, хутчэй за ўсё, нават не разумеюць, што іх нехта разводзіць. Але як чалавек навучыўся пчалярству? Спачатку ён проста трапляў на пчаліныя гнёзды, вандруючы па пушчах. Пасля пачаў шукаць іх спецыяльна. Гэта не так цяжка: калі пакласці на зямлю кавалачак сотаў з мёдам, ён, як магнітам, прыцягне пчол. Пераносячы мёд сабе ў дупло, пчолы прыводзілі да яго і паляўнічага... З часам людзі навучыліся рабіць для пчол штучныя дуплы — борці. Іх высякалі ў тоўстым дрэве і заваблівалі туды малады рой.

Пра маштаб такіх лясных «пасек» у мінулыя часы можа сведчыць тое, што адзінкай падаткаабкладання ў ВКЛ быў «бор» — 60 бортных дрэваў. Гісторыкі, грунтуючыся на мытных і падаткковых дакументах XVI стагоддзя, падлічылі, што ў Беларусі тады было каля мільёна борцяў.

Пушчы высякаліся, і з часам знайсці прыдатнае па таўшчыні дрэва для новай борці, якое расло б у патрэбным месцы, рабілася ўсё складаней. Тады чалавек перайшоў на калоды: гэта тая самая борць, толькі зробленая з кавалка ствала паваленага дрэва. Намнога зручней: калоды — можна рабіць ва ўласным двары, не рызыкуючы зваліцца з высокага дрэва, і ставіць там, дзе трэба бортніку.

Праўда, спосаб здабычы мёду заставаўся той самы: соты выразалі праз вузкую шчыліну.

Часта мёд забіралі ўвесь, а пчол знішчалі.

### Рамкі, навузы, медагонка

Рэвалюцыйным у пчалярстве стала XIX стагоддзе, калі ўкраінец Пятро Пракаповіч стварыў рамкавы вулей. Незалежна ад яго на іншым краі свету падобнае вынаходніцтва зрабілі амерыканцы Шарль Дадан і Амос Рут.

Сэнс працы пчаляра ў тым, каб даць пчолам магчымасць сабраць як мага больш «лішняга» мёду — звыш таго, які ім самім трэба на зіму. А чым лепшы за калоду рамкавы вулей? У ім можна дадаваць і мяняць рамкі, зручна сачыць, што робіцца ў пчалінай сям'і. Пасля з'явіліся медагонка і штучныя соты — навузы, якія спрасцілі работу і пчолам, і чалавеку.

Падрабязную інструкцыю з чарцяжамі, як рабіць рамкавыя вуллі, друкавала ў 1910 годзе першая беларуская газета «Наша Ніва».

У 1920-я ў Вільні выходзіў па-беларуску нават часопіс «Беларуская борць», рэдактарам якога была Людвіка Сівіцкая (Зоська Верас) — грамадская і культурная дзеячка, выдатная спецыялістка па батаніцы. Дзякуючы пчолам ці не — але яна пражыла 99 год і пакінула неацэнныя ўспаміны пра сваю эпоху...

### Пашкадуйце спіну пчаляра

Па сутнасці, за сто гадоў, што мінулі ад таго часу, мала што змянілася, кажуць сучасныя пчаляры, якія чыталі «Беларускую борць». Нават памеры вулляў, якія даюцца ў «НН» 1910 года, цяпер амаль такія ж. Але тэхнічны прагрэс ёсць: змяняюцца матэрыялы. Напрыклад, з'явіліся вуллі з пенапалістыролу.

Каб пчолы зімой не вымерзлі, вулей мае быць цёплым. Раней у вуллях рабілі падвойныя сценкі, засыпалі між іх кастру, пілавінне, нават попел. Такія вуллі непад'ёмныя. Рэдка сустрэнеш пчаляра, у якога спіна не сарваная ад перацягвання вулляў.

Пенапалістыролавы вулей лёгкі і цяпло трымае, як тэрмас. Апроч таго, гэта трансформер.

Ён складаецца з узаемазамяняльных дэталяў, яго можна нарошчваць, змяняць, у залежнасці ад патрэбаў пчалінай сям'і. Ці не шкодны пенапалістырол пчолам? Не, ён нейтральны. Калі б быў шкодны, пчолы б у ім не жылі. Яны ж не дурныя.

### Прамысловае пчалярства — качавое

Пчалярства сёння падзяляецца на аматарскае і прамысловае. Аматар хоча забяспечыць сям'ю мёдам, прамысловец — зарабіць на ім. Прамысловец можа мець сто і больш вулляў. А сусветныя нормы — ад 500. Таму даводзіцца пастаянна пераязджаць на новыя палі. Закідаюць 20—30 вулляў у грузавік — і на новае месца. Там пастаялі, пакуль цвіце меданос, — і далей. У Беларусі часам за 100 кіламетраў ездзяць. У Расіі пчаляры катаюцца ўвесь сезон: пачынаюць ад горнага Дагестана, дзе самыя першыя кветкі з'яўляюцца, і аж да Курскай вобласці.

Разумныя сельгасвытворцы зацікаўленыя ў пчалярах, якія прывозяць вуллі на палі, бо, дзякуючы апыленню, атрымаюць большыя ўраджаі. У некаторых краінах нават пчол трымаюць спецыяльна для апылення. У нас пчаляр мусіць быць дыпламатам, увайсці ў давер да агранома, каб дазволіў паставіць вуллі на полі і не труціў пчол хімікатамі...

Еўропа мільёны даляраў укладае ў селекцыю пчол, там ідзе барацьба за захаванне мясцовых парод, сапраўдныя «пчаліныя войны». У Беларусі няма ярка выяўленых уласных парод. Самыя пашыраныя — карпацкая, яшчэ з часоў СССР, карніка, бакфаст — апошняе нават не парода, а лінія, сумесь. Каб змяніць пчаліную пароду, трэба проста матку памяняць — і ўсе наступныя пчолы будуць ужо новай пароды. У інтэрнэце ёсць цэлыя сайты маткаводаў. Селекцыя пчол адбываецца на астравах, дзе ніякі залётны трутень не з'явіцца.

### Пчаліныя адносіны

Ёсць стэрэатып, што ў пчалінай сям'і ўсім кіруе матка. Але гэта не так: у пчол калектыўны розум. Іх дзеянні абумоўленыя інтарэсамі пчалінай сям'і. Добры пчаляр мусіць разумець іх логіку, умець падстройвацца, ствараць умовы, даваць фронт работ. Але тут няма стандартных рашэнняў. Калі з буйной рагатай жывёлай людзі навучыліся працаваць, дык у пчол — штогод новыя фокусы. Нібыта і робіш усё як летась, а рэакцыя пчол цалкам працілеглая.

Яшчэ адзін стэрэатып — што працягам роду матка займаецца ў вуллі. Насамрэч гэты інтымны працэс адбываецца ў палёце. Матка робіць аблёт — да 15 кіламетраў можа ляцець. Найдужэйшы трутень даганяе яе і апладняе. Гэта адбываецца на хуткасці 60 кіламетраў у гадзіну. Матка спраўляецца так з 8—9 трутнямі, якія пасля гэтага паміраюць. А матка вяртаецца ў вулей і адкладае яйкі. Але падчас вылету і матка можа згубіцца — заблукаць, птушка як можа схапіць ці шэршань. Маткі жывуць гадоў пяць, але ў прамысловым пчалярстве — год-два.

Біч апошняга часу — гэта клешч вароа. Раней яго не было. Ён заводзіцца ў вуллях і харчуецца гемалімфай пчол, якая ў іх замест крыві. У адрозненне ад крыві, гемалімфа не згусае — параненая пчала гіне.

Якасць мёду ад пчаліных хвароб не горшае, проста сям'я робіцца слабейшай. А слабая пчаліная сям'я — гэта як прадпрыемства на дзярждатацыі: на сябе не напрацоўвае, трэба падкормліваць, многа марокі з ёй.

### Ці ўплываюць на пчол мабільнікі

На сёння няма дакладных даследаванняў нават пра тое, ці шкодзяць мабільнікі людзям. Не кажучы пра пчол. Але, кажуць пчаляры, не можа не ўплываць. Па ўсім свеце назіраюцца выпадкі злёту пчол — калі ўся сям'я проста падымаецца і знікае невядома куды. Раней такога не бывала. Што гэта? Вірус? Клешч? Мабільнікі? Невядома.

Але на якасць мёду мабільная сувязь не ўплывае ніяк.

### Які мёд самы смачны

Тут усё на аматара. І ад моды залежыць. У Расійскай Імперыі цаніўся зацукраваны мёд з буйнымі крупкамі. Ён ужываўся як аналаг цукру. Цяпер на другім месцы па продажах рапсавы крэм-мёд. Тэхналогія яго вырабу прыйшла да нас з Канады — мёд насычаецца паветрам, робіцца мяккі.

Лічыцца таксама, што, калі мёд не цукруецца, значыць, ён з нейкімі ненатуральнымі дадаткамі. Але ёсць гатункі, якія цукруюцца слабей — напрыклад, акацыевы, падзевы (апошні пчолы робяць не з нектару, а з салодкай вады, малачка тлі). У Беларусі акацыя рэдкая, акацыевы мёд больш характэрны для Украіны.

Апроч мёду, пчолы і пракапаліс даюць, і пчаліны хлеб, якія дапамагаюць ад многіх хвароб.

Пчаляр, які пачынае, павінен разумець, навошта гэта яму: ці забяспечыць сям'ю мёдам, ці зарабіць. Ад гэтага залежыць памер інвестыцый. Цяпер на спецыялізаваных сайтах можна купіць усё неабходнае. Не спяшайцеся, назірайце за пчоламі, чытайце сур'ёзныя кнігі — і будзеце мець духмяны мёд і сабе, і людзям.

СМ



Борць са стаўбура паваленага дрэва можна рабіць ва ўласным двары і ставіць там, дзе трэба бортніку.



Сучасныя вуллі лёгкія і трымаюць цяпло, як тэрмас.

# Правілы жыцця плюс-сайз мадэлі з Магілёва: «Магу і ўдарыць!»

**Ганна Сякацкая — адна з найбольш запатрабаваных мадэляў плюс-сайз у Беларусі. Яна актыўна здымаецца для айчынных каталогаў адзення, паспела папрацаваць у Турцыі і Індыі, а нядаўна прайшла жорсткія кастынгі і трапіла на ўкраінскае шоу «Мадэль XL». Ганна абышла тысячу іншых прэтэндэнтак і стала адной з дзесяці ўдзельніц праекта, першы сезон якога скончыўся ў снежні. Мы звязаліся з гэтай пазітыўнай і ўпэўненай у сабе дзяўчынай, фотаздымкі якой вы маглі сустракаць у сваім горадзе, каб распытаць пра мадэльны бізнэс у Беларусі, працу над сабой і планы на жыццё.**



Ганна Сякацкая.



«Я заўсёды была мажнай дзяўчынкай. Але з-за гэтага ў мяне амаль ніколі не было праблем. Аднакласнікі і аднагрупнікі з мяне не здзекаваліся: можа, мне пашанцавала з людзьмі навокал, а можа, проста зарэкамендавала сябе чалавекам, які не даруе такіх рэчаў. Калі ты дазваляеш абыходзіцца з сабой непрыгожа, людзі будуць працягваць гэта рабіць.

Я жыву па прынцыпе «маё цела — мая справа». Хочаш — працуй над кубікамі, хочаш — не. Але нікому не навязвай свой стыль жыцця як адзіны правільны.

З непрыемных успамінаў дзяцінства — тое, што мяне не ўзялі на танцы праз маю вагу. Хоць я магла сесці на шпагат і «хадзіла» колам. Гэтага не ўмелі худыя дзяўчаты. У гімназіі з маімі памерамі было складана набыць прыгожую школьную форму. Добра, што сёння такога няма: рынак адзення багаты на розныя мадэлі і фасоны, які б памер ты ні насіў. Абы грошы былі.

Фатаграфаваць я любіла заўсёды. Памятаю, калі стваравўся школьны альбом, мы з сяброўкамі крэатывілі больш за іншых: амаль аднолькава апрануліся дзеля здымак, прыдумалі ўключыць у кадр мыльныя бурбалкі і пену ад шампанскага.

Першыя сур'ёзныя здымкі з прафесійным макіяжам адбыліся ў мяне падчас студэнцтва ў Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі, дзе вучылася на менеджара-эканаміста. Я ўвогуле пагаджалася на ўсе прапановы ад фатографаў-пачаткоўцаў, нават калі разумела, што яны здымаюць дрэнна. Мне трэба было вучыцца працаваць перад камерай.

Камерцыйную прапанову атрымала дзесьці праз год пасля першых здымак. Для працы над складанием каталога з адзеннем патрабаваліся дзяўчаты 42 і 52 памераў. У мяне — 48, але вырашыла адгукнуцца на аб'яву ў інтэрнэце. І я спадабалася кліентам. Расплаціліся тады са мной адзеннем — ваўкашапкай.

Мадэллю плюс-сайз мяне ўпершыню назвалі падчас здымак у Індыі. Сярод іншых дзяўчат я была адзінай з формамі і, як на злосць, мяне запрашалі на меншую колькасць кастынгаў. Тады ў мяне ўпершыню пачаліся загоны і думкі: можа, трэба скінуць вагу? Але потым я супакоілася.

Сама сябе я не адчуваю плюс-сайз. Гэта азначэнне падкрэслівае, што «ты не такая, як іншыя». Я — звычайная мадэль. Проста хтосьці аднойчы прыдумаў, што ніз, шырэйшы за 92 сантыметры, ужо не стандарт. Так можна большасць жанчын на планеце аднесці ў катэгорыю плюс-сайз. Мне падабаецца, калі нас называюць жанчынамі з формамі: калі ёсць талія, ягадзіцы і грудзі.

Разам са мной у Горках вучылася досыць «аб'ёмная» дзяўчына, яшчэ і ростам 180. Але яна была настолькі модная, спявала і так добра ўмела сябе падаць — проста свяцілася знутры, што хлопцы за ёй бегалі калонамі. Калі ты шэрая мышка, замкнёная ў сабе, то і з 40 кілаграмамі можаш быць адзінокай і нецікавай. Вагу можна скінуць, але тое, што ўнутры, — не.

Не трэба думаць, што мадэлі плюс-сайз ядуць усё, што захочуць, і зусім не сябруюць са спортам. Канечне, я не адмаўляю сабе ні ў папкорне, ні ў сушы, калі душа патрабуе. Але нават плюс-сайз дзяўчаты павінны трымаць сябе ў форме. Як кажа мая сяброўка, у кожнага ёсць свой ліміт тлустасці, з якім ты будзеш выглядаць належна. Я камфортна адчуваю сябе ў 48-м памеры. Калі набіраю вагу пасля святаў, пакутую. Я маю абанемент у трэнажорную залу і летам намотваю шмат кіламетраў па горадзе на ровары. Я не зацыклена на спорце, але ён мае месца ў маім жыцці.

Беларускія вытворцы адзення ўсё часцей асэнсоўваюць, што вопратку трэба рэкламаваць не толькі на худых мадэлях. Калі беларуска з 50-м памерам заходзіць на нейкі сайт, каб выбраць сабе новую сукенку, яна хоча бачыць, як гэта сядзіць на дзяўчыне яе памераў, бо на худзенькай і мяшок будзе прывабным.

Я шмат здымаюся для каталогаў з брэсцкім трыкатажам. І мае замоўцы маюць вялікую патрэбу ў новых тварах, заўсёды просяць параіць каго-небудзь для здымак. Запыт на плюс-сайз мадэляў ёсць, але знайсці такіх, якія б умелі працаваць перад камерай, цяжка. Я ўпэўненая, што яны існуюць, але недзе сядзяць і хаваюцца, бо ўсё яшчэ саромеюцца сябе.

Я ніколі не сутыкалася з нейкім гвалтам ці непрыемным фліртам на працы, але каляжанкі расказвалі, што такое было. Асабліва шмат непрыемных водгукаў пра кантрактную працу ў Турцыі. Мяне такія рэчы абміналі, бо, думаю, адчуваецца, што я магу і ўдарыць замоўцу, не буду глядзець на яго статус.

У мяне хапае дрэнных звычак, я ў гэтым плане звычайны чалавек. Магу выціскаць сабе і малодшаму брату прышчы, каваманка, люблю шампанскае. А яшчэ — інтэрнэт- і тэлефоназалежная.

На ўкраінскае шоу «Мадэль XL» я трапіла дзякуючы журналістам з канала «1+1», якія знайшлі мой профіль у інстаграме. Яны запрасілі мяне на першы кастынг, мне прыйшлося адмяніць усе свае здымкі тут і паехаць у Кіеў. Я не думала, што прайду нават першы адбор, але ў выніку трапіла ў дзясятку найлепшых канкурсантак. Асобны дзякуй тут трэба сказаць маім бацькам. Яны таксама адклалі ўсе справы і павезлі мяне ў Кіеў на машыне, бо квіткоў на той момант было ўжо не дастаць. Маці і тата заўсёды падтрымлівалі мяне ва ўсім. Памятаю, у школе я сказала, што мне вельмі падабаецца шыць на ўроках працы — яны з бабуляй хутка падарылі мне швейную машынку. Падабаецца — развівайся ў гэтай справе.

З дзяўчатамі на шоу ў нас былі добрыя адносіны, мы працягваем камунікаваць і цяпер. Праўда, здараліся выпадкі, калі нехта мог не пракаментаваць табе ў твар, але рабіў гэта на камеру. Потым ты бачыў праўдзівае стаўленне да сябе ў эфіры.

На жаль, пакуль што ў Беларусі немагчыма пражыць толькі на грошы, што зарабляе мадэль плюс-сайз. Можа, гэта стане рэальнасцю праз які дзясятак гадоў, калі больш вытворцаў і кампаній зразумеюць, што адзенне трэба не толькі худым.

Я планую развівацца ў гэтай галіне, але хацелася б выйсці за межы пазіравання. Канечне, у катэгорыі плюс-сайз узроставыя межы больш расплывістыя, чым у «звычайных» мадэляў. Але нішто не вечна. Таму ў будучыні я б хацела запусціць уласную лінейку бялізны для дзяўчат з нестандартнымі формамі. А яшчэ — адкрыць першае агенцтва для такіх мадэляў, як я».



Ганна і іншыя ўдзельніцы шоу «Мадэль XL».

Гутарыла Кацярына Карпіцкая

# Найбагацейшы народ свету: гісторыя індзейскага племені асейджаў, якое наймала белых у якасці прыслугі

Яны куплялі катэджы, лімузіны, выпраўлялі дзяцей вучыцца ў Еўропу. Яны наймалі белых у якасці абслугі. Іх прыбыткі складалі пад 600 тысяч даляраў у год.

У гэтай гісторыі сплялося ўсё: мудрасць, хцівасць, крымінал, ФБР...

### Найвышэйшыя на кантыненце

На пачатку XIX ст. асейджы лічыліся наймацнейшым індзейскім племенем у ЗША. Нават сама іх назва паходзіць з французскай мовы і значыць «ваяўнічы». Мужчыны-асейджы лічыліся найвышэйшымі на кантыненце — іх сярэдні рост складаў 1,9—2,1 м, гэта і цяпер нямала, не кажучы пра 200-гадовую даўніну.

У 1803 годзе прэзідэнт ЗША Томас Джэферсан купіў у Францыі тэрыторыю сённяшняга штата Луізіяна, на абшарах якога знаходзіліся землі асейджаў. Улады ЗША хацелі змусіць індзейцаў аддаць тэрыторыю белым каланістам. Урэшце ў 1870 здзелка адбылася. Асейджы пагадзіліся сысці са сваіх земляў, а ўрад плаціў ім 1,25 даляра за кожны акр (0,4 га). Гэтых грошай было дастаткова, каб набыць зямлю ў любым іншым месцы ЗША. Нямногім індзейскім плямёнам так шанцавала.

Увагу асейджаў прыцягнулі 1,5 млн акраў у штаце Канзас. Тэрыторыя была незаселеная і складалася галоўным чынам з камяністых пустак, непрыдатных для земляробства. Правадыр асейджаў Ва-Ці-Ан-Ка сказаў тады: «Мой народ будзе шчаслівы тут. Белы чалавек не зможа ўкласці жалеза ў гэтую зямлю. Тут многа ўзгоркаў, а белы чалавек не любіць узгоркаў і не прыйдзе сюды».

Асейджы купілі зямлю па 70 цэнтаў за акр і пераехалі. На той момант іх было каля трох тысяч — утрая меней, чым 70 гадоў назад. Столькі людзей было страчана з-за перасяленняў і хвароб, прынесеных белымі людзьмі.


Правадыр асейджаў Ва-Ці-Ан-Ка.


Молі Буркхарт з сёстрамі.

### Вялікая мудрасць Вялікага Сэрца

Тым часам амерыканскі ўрад хацеў сілайператварыць індзейцаў у фермераў, каб іх стыль жыцця быў такі самы, як у белых каланістаў. У 1906 асейджы змушаныя былі падпісаць дамову, згодна з якой, іх тэрыторыя, якая раней належала цэламу племені, была падзеленая на 2229 участкаў, па колькасці асейджаў.

Урад хацеў стварыць і заканадаўчую магчымасць для выкупу зямлі ў індзейцаў белымі каланістамі. Дамову падпісваў правадыр, якога белыя каланісты называлі Джэймсам Бігхартам (*Big Heart* — вялікае сэрца).

Бігхарт ведаў сем моваў, між іншым англійскую, французскую, мову сіу і лаціну, а на сустрэчу з белымі адзяваў касцюм.

Яму ўдалося ўставіць у дамову непрыкметны пункт, на які ніхто да пары не зважаў.

А менавіта: радовішчы газу, нафты, іншых карысных выкапняў, якія могуць знайсціся на землях асейджаў, будуць належаць цэламу племені.

Правадыр ведаў, што рабіў, бо яго супляменнікі ўжо знаходзілі невялікія крынічкі нафты на сваёй зямлі.

Калі правы на зямлю можна было прадаваць, дык правы на карысныя выкапні, дзякуючы Бігхарту, не прадаваліся. Іх можна было толькі перадаць у спадчыну. Але ўрадоўцы не адчулі тут падвоху.

Сітуацыя змянілася ў 1917, калі зямля асейджаў пачала выстрэльваць фантанамі нафты.

Гаспадары ўчасткаў зараблялі тысячы даляраў за дзень. Толькі ў 1925 годзе асейджы атрымалі 30 млн даляраў (на сучасныя грошы — каля 400 млн).

Прыбыткі дзялілі на ўсіх членаў племені, і на кожную сям'ю прыходзілася каля 600 тыс. штогод. Менавіта тады асейджаў абвясцілі найбагацейшым народам свету, а памерлага ў 1908 г. Бігхарта называлі «індзейскім Майсеем».



Джэймс Бігхарт на сустрэчу з белымі адзяваў касцюм.

### Белыя зладзеі

Асейджы пачалі карыстацца багаццем: куплялі дамы, лімузіны, выпраўлялі дзяцей вучыцца ў Еўропу. Наймалі прыслугу — часта белых.

Газеты пісалі пра рэальныя і выдуманыя экстравагантныя выдаткі індзейскіх мільянераў. Яны мелі, напрыклад, звычку выкідаць новыя машыны, прабіўшы кола.

«Яны робяцца такімі багатымі, што з гэтым трэба нешта рабіць», — пісалі газеты.

І ў 1921 г. Кангрэс ухваліў пастанову, згодна з якой, кожная асоба, што мела прынамсі палову індзейскай крыві, мусіла мець белага фінансавага прадстаўніка.

Афіцыйна гэта мусіла абараніць індзейцаў ад іх саміх, каб яны не марнавалі багацце бяздумна. На практыцы куратары проста абкрадалі індзейцаў — напрыклад, куплялі ім тавары па завышаных цэнах, пакідаючы розніцу сабе. Так, адзін куратар купіў аўто за 250 даляраў, а індзейцу аддаў за 1250. Часам «прадстаўнікі» куплялі за індзейскія грошы цэлыя дамы, нібыта для індзейцаў, але жылі ў іх самі. Здараліся і звычайныя крадзяжы. Толькі за 1925 год у асейджаў скралі 8 млн даляраў.

Але белыя па-ранейшаму не маглі атрымаць правы на здабычу нафты, бо такое права можна было толькі ўспадкаваць. Адзіны спосаб — увайсці ў індзейскую сям'ю. І жанчыны з племені асейджаў цешыліся надзвычайнай увагай з боку мясцовых белых. Бывалі і трагедыі, як у сям'і заможнай індыянкі Молі, жанатай з белым Эрнстам Буркхартам.

У кароткі час дзве яе родныя сястры і два стрыечныя браты былі знойдзеныя са смяротнымі агнястрэльнымі ранамі, маці памерла ад раптоўнай хваробы, а апошняя з жывых сёстраў Молі загінула ад выбуху бомбы. Забойцаў не знайшлі.

Усяго ад 1921 да 1925 г. пры нявысветленых абставінах загінула каля 60 індзейцаў-асейджаў і белых, якія спрабавалі іх бараніць.

Стаў ахвярай нявысветленых забойцаў нават адвакат Вільям Воган, юрыст Джорджа Бігхарта, пляменніка славутага правадыра. Адвакат ехаў да шэрыфа з дакументамі аб прыцясненнях індзейцаў, папярэдне сказаўшы таму па тэлефоне, што ведае імёны забойцаў. Яго цела знайшлі назаўтра з паламаным каркам каля чыгуначнага насыпу. Дакументы зніклі.

### За справу бярэцца ФБР

Злачынствы супраць асейджаў зацікавілі Эдгара Гувера, тады малавядомага кіраўніка Следчага бюро, з якога пазней вырасце ФБР. Але на той час агенты яшчэ нават не мелі права насіць зброю і праводзіць арышты. Гувер даручыў следства Тому Уайту, былому тэхаскаму рэйнджару.

Два гады следчая група збірала інфармацыю. Напрыклад, Уайт высветліў, што ў выніку серыі забойстваў сваякоў Молі Буркхарт яна стала спадкаемцай вялікіх радовішчаў нафты. Але, як індыянка, не магла сама распараджацца маёмасцю, а яе куратарам быў муж, Эрнэст Буркхарт.

На першы погляд ён падаваўся ўзорным клапатлівым мужам. Калі пачалі загадкава паміраць сваякі жонкі, многа зрабіў для таго, каб знайсці забойцаў.

Аднак калі следчыя прыціснулі яго, ён прызнаўся, што забойствы арганізоўваў яго дзядзька, уплывовы трымальнік ранча Біл Хэйл.

Эрнст прызнаўся таксама, што памалу падтручваў жонку, даючы атруту замест лекаў. Пасля яе смерці ён успадкаваў бы радовішчы і перадаў бы іх дзядзьку. Эрнста не стрымлівала нават тое, што ў іх з Молі былі дзеці. Хоць мозгам і арганізатарам злачынства быў усё ж дзядзька, віна Эрнста ў тым, што бязвольна выконваў усе яго загады.

Суд цягнуўся ад 1926 да 1929. Рэгулярна паведамлялася пра спробы подкупу прысяжных, запалохвання сведкаў. Буркхарта і яго дзядзьку асудзілі на пажыццёвае зняволенне. Але яны выйшлі датэрмінова.

### Нафта скончылася, але ёсць казіно

Іх удалося асудзіць толькі таму, што справа была распачатая ў федэральным судзе. Мясцовыя суды не захацелі б звязвацца з уплывовым абшарнікам Хэйлам, якога яшчэ называлі «каралём асейджскіх раўнінаў».

Молі Буркхарт развялася з Эрнстам, як толькі стала зразумелая яго роля ў той гісторыі. Яна выйшла замуж яшчэ раз, а памерла ў веку 50 год ад прычын, не звязаных з ранейшым падтручваннем.

У апошнія гады жыцця яна магла цешыцца сваёй удачай. У 1931 годзе Кангрэс ЗША скасаваў інстытут белых куратараў для індзейцаў. Праўда, і нафтавы струмень пачаў слабець... Нафта дагэтуль здабываецца на землях асейджаў, але ў сімвалічных аб'ёмах.

Унучка Молі Буркхарт атрымлівае за сваю нафту пару тысяч даляраў штогод — прыемны дадатак да сямейнага бюджэту, але лімузінаў не накупляеш.

Але асейджы нармальна пачуваюцца: у якасці кампенсацыі за прыцясненні з боку белых і амерыканскага ўраду улада ЗША дазволіла індзейцам трымаць у рэзервацыях казіно. А гэта бізнэс, яшчэ лепшы за нафтаздабычу, бо радовішча тут невычэрпнае.

Але асейджы не былі б самі сабой, каб не прыцягнулі ўладу да суду за шматгадовы прыгнёт. У 2011 годзе, пасля 11-гадовага працэсу, індзейцы спагналі 380 тысяч даляраў кампенсацыі. Гэта была найбольшая ў гісторыі выплата ўрада ЗША індзейскаму племені.

Паводле Zakazana historia

# Як у савецкім Мінску арганізавалі палітычнае забойства па загадзе Сталіна

## Заадно з рэжысёрам Міхоэлсам задушылі і ўласнага агента, прыстаўленага, каб за ім сачыць

Сёлета споўнілася 70 гадоў аднаму з самых вядомых палітычных забойстваў у гісторыі Савецкага Саюза. І адбылося яно ў Мінску.

Увечары 12 студзеня 1948 года ў нумары мінскага гатэля «Беларусь» зазваніў тэлефон. Пастаялец, тэатральны крытык Уладзімір Голубаў, зняў слухаўку. У гатэль дазваніўся былы сакурснік Голубава — інжынер Сяргееў, які запрашаў старога таварыша на сваё вяселле. Але Сяргееў вельмі прасіў Голубава ўзяць з сабой і сталічную зорку (вядома было, што той прыехаў у Мінск разам з маскоўскім тэатральным акцёрам і рэжысёрам Саламонам Міхоэлсам), распавёў Голубаў рэжысёру Віктару Галаўчынеру, які таксама быў у нумары. У тым, што Міхоэлс дасць згоду, сумневаў амаль не было: ён ніколі не быў супраць добрай гулянкі.

Так і адбылося. Голубаў зайшоў у нумар Міхоэлса, распавёў пра запрашэнне. Той пагадзіўся.

Каля дзевяці гадзін вечара яны сустрэліся з тым самым інжынерам Сяргеевым. Селі ў машыну і паехалі на лецішча ў Сцяпянку.

Жыць абодвум заставалася каля гадзіны.

* * *

Мінулы 1947 год выдаўся няпростым для міністра дзяржаўнай бяспекі СССР Віктара Абакумава. На пасадзе міністра ён прабыў зусім няшмат, з мая 1946 года, але за гэты час паспеў абзавесціся ўплывовымі ворагамі. Да ворагаў Абакумаў прывык і не баяўся. Чалавека, які працаваў операм у ГУЛАГу, а пасля ўзначальваў СМЕРШ, напужаць цяжка. Прэтэнзіі кіраўнікоў МУС і нават Молатава не турбавалі міністра, пакуль ён быў на добрым рахунку ў Сталіна. Але ў 1947-м у генерал-палкоўніка Абакумава з'явіўся найбольш небяспечны і моцны праціўнік — сам Лаўрэнці Берыя.

Абакумава не любілі многія і даўно. Сын чорнарабочага, ён і сам ніколі не цураўся цяжкай працы, і няважна, у што трэба было запэцкаць рукі: у бруд ці кроў. Работнікам Абакумаў быў старанным, жорсткім і бязлітасным, але чалавекам заставаўся ўпартым і свавольным. Дзе такое відна, каб члена кампартыі разжалавалі ў кандыдаты за нежаданне пазбаўляцца ад палітычнай непісьменнасці? А менавіта так і адбылося з Абакумавым яшчэ ў 1933 годзе. А ў 1934 высветлілася, што ўпаўнаважаны эканамічнага аддзела НКВД Абакумаў нярэдка бавіць час на канспіратыўных кватэрах з жанчынамі. За гэта яго адправілі аператыўнікам у ГУЛАГ, але праз пару гадоў усё ж вярнулі ў сталіцу. Ішоў 1937 год, і Абакумаў, які ніколі не шкадаваў «здраднікаў», хутка зрабіў сабе добрую кар'еру. У канцы 1938 года 30-гадовы Віктар Абакумаў узначальвае ўпраўленне НКВД па Растоўскай вобласці, а ў 1941 становіцца намеснікам самога Берыі.

Затым вайна, СМЕРШ, расстрэлы незадаволеных Сталіным, удзел у дэпартацыі народаў Каўказа ў 1944-м, рэпрэсіі і дэпартацыі на тэрыторыях, вызваленых ад фашыстаў, Перамога і, як вынік, міністэрскае крэсла. І праз кароткі час — нянавісць былога патрона Берыі. Таго раздражняе, што Абакумаў перастае яго слухаць, замяняе людзей Берыі ў МДБ сваімі і ўвогуле адчувае сілу і дазваляе сабе зашмат.

Але Віктар Абакумаў, пра якога казалі, што ён славалюбны і ўладны, як Берыя, толькі не такі разумны, дурнем усё ж не быў. Ён разумеў, што з пасады міністра сыходзяць ці ў лагер, ці ў магілу, а каб затрымацца на пасадзе, патрэбная гучная гісторыя. У выніку з'яўляецца нібыта накіраваная супраць самога Сталіна «сіяніцкая змова».

* * *

Саламон Воўсі нарадзіўся ў 1890 годзе ў Дзвінску Віцебскай губерні (сёння гэта латвійскі Даўгаўпілс). Рос у патрыярхальнай габрэйскай сям'і, вучыўся ў хедэры, а расейскую мову вывучыў толькі ў 15 год.

Тэатр заўсёды цікавіў Саламона, але ён паспеў пабыць студэнтам рэальнай вучэльні ў Рызе, камерцыйнага інстытута ў Кіеве, трохі павучыўся на юрыста ў Пецярбургу.

Але ж пасля рэвалюцыі Саламон Воўсі паступае ў яўрэйскую тэатральную студыю ў Пецярбургу і ў 1919 годзе бярэ псеўданім Міхоэлс. Грае, сам піша п'есы.

Праз два гады Саламон перабіраецца ў Маскву, у Дзяржаўны



Так выглядаў гатэль «Беларусь», цяпер ён называецца «Краўн-плаза».

габрэйскі тэатр, які і ўзначальвае ў 1929 годзе — калі падчас замежных гастроляў былы кіраўнік Грaноўскі вырашае не вяртацца ў Савецкі Саюз.

Здавалася б, кар'ера ідзе толькі ўгору. Калі пачынаецца вайна, Міхоэлс плённа працуе ў Яўрэйскім антыфашысцкім камітэце, нават едзе ў сямімесячны тур па Паўночнай Амерыцы і Вялікабрытаніі. Ён быў знаёмы з Эйнштэйнам, Чарлі Чаплінам, шырока вядомы ў тэатральных колах не толькі СССР, але і Еўропы.

Яўрэйскі антыфашысцкі камітэт — прапагандысцкая арганізацыя, створаная Лубянкай у 1941 годзе. ЯАК складаўся з яўрэйскіх інтэлігентаў, якія фактычна прасілі дапамогі ў габрэяў свету: збіралі грошы, машыны, абсталяванне для Чырвонай Арміі падчас Вялікай Айчыннай вайны. У гэты час ЯАК набывае за мяжой вядомасць і аўтарытэт. Пасля вайны, у 1946 годзе, яго старшыня Саламон Міхоэлс атрымлівае Сталінскую прэмію другой ступені.

Але Сталінская прэмія не выратавала Міхоэлса ад лютасці самога Сталіна. А поспехі ЯАК не толькі не аддалілі яго кіраўніка ад смерці, а наадварот — наблізілі канец.

* * *

Дакладна не вядома, чаму ахвярамі Абакумаў «прызначыў» габрэяў. Але, хутчэй за ўсё, ён вырашыў забіць адразу двух зайцаў. Кіраўніцтву СССР даўно мазоліў вочы Яўрэйскі антыфашысцкі камітэт. ЯАК быў накіраваны на замежнікаў і працаваў паспяхова (толькі з ЗША «браты-яўрэі» накіравалі ў СССР 16 мільёнаў даляраў), але пасля вайны пачаліся пытанні. ЯАК стаў цікавіцца дыскрымінацыяй яўрэяў у Саюзе, узніклі пытанні аб стварэнні яўрэйскай аўтаноміі, што не падабалася Сталіну.

Акрамя таго, Абакумаў ведаў, што Сталін вельмі не любіць Алілуевых, сваякоў ягонай былой жонкі (Надзея Алілуева скончыла жыццё самагубствам яшчэ ў 1932 годзе). А Саламон Міхоэлс — выпадкова ці не — сустракаўся ў тэатры з Яўгеніяй Алілуевай, сястрой Надзеі. Кажуць, што да Міхоэлса дайшлі чуткі пра будучую зачыстку ЯАК, і ён хацеў пагаварыць са сваячкай кіраўніка краіны.

Праўда гэта ці не — няважна. Бо 9 снежня 1947 года Абакумаў перадае Сталіну паперы пра Міхоэлса. У іх рэжысёр пададзены агентам, які збірае інфармацыю пра Сталіна праз яго сваякоў.

Таксама паведамлялася, што Ісаак Гальдштэйн, знаёмы Святланы, дачкі Сталіна, таксама працуе на Міхоэлса. Ноччу ў Сталіна адбываецца жорсткая размова з дачкой. На наступны дзень арыштоўваюць Яўгенію Алілуеву. 19 снежня арыштоўваюць Гальдштэйна, 27 снежня — члена ЯАК гісторыка Грынберга. Іх жорстка дапытваюць і 9 студзеня 1948 года пратаколы допытаў перадаюць Сталіну. У пратаколах Грынберг і Гальдштэйн пагаджаюцца з версіяй спецслужбаў: Міхоэлс — здраднік.

Але лёс Саламона Міхоэлса ўжо і так быў вырашаны. Як пазней будзе казаць Абакумаў, Сталін асабіста даў яму каманду ліквідаваць Міхоэлса яшчэ ў канцы снежня 1947 года. А ў пачатку студзеня па тэлефоне загадаў падаць забойства як няшчасны выпадак.

* * *

7 студзеня 1948 года Саламон Міхоэлс разам са сваім знаёмым і калегам Уладзімірам Голубавым сядаюць у цягнік Масква — Мінск. Яны едуць глядзець дзве пастаноўкі, якія прэтэндуюць на Сталінскую прэмію. Міхоэлс узначальваў тэатральную секцыю Камітэта па прэміі ад дня заснавання, а Голубаў не толькі тэатральны крытык, а яшчэ і сакратар камітэта.

У Мінск прыязджаюць 8 студзеня. Засяляюцца ў гатэль «Беларусь» — цяпер гэта «Краўн-плаза». У той жа вечар у гатэлі адбываецца банкет у гонар слаўтага Міхоэлса — яго ладзіць адміністрацыя мінскага драматычнага тэатра.

Увогуле, Мінск сустракае сталічных багемных гасцей адпа-



Саламон Міхоэлс быў геніяльным рэжысёрам.



Віктар Абакумаў быў служака верны.

ведна. Кожны дзень яны наведваюць тэатры, а пасля спектакляў бавяць час у рэстаранах са знаёмымі акцёрамі.

На наступны дзень Міхоэлс з Голубавым ідуць у тэатр (глядзяць «Тэўе-малочнік» Шалом-Алейхэма). Пасля да чатырох раніцы балююць з трупай у рэстаране «Світанак».

10 студзеня маскоўскія госці — ужо як члены камісіі па Сталінскіх прэміях — ідуць на прагляд спектакля «Канстанцін Заслонаў», але ўвечары — ізноў банкет, у тэатральнага акцёра Глебава. На наступны дзень — абед у знаёмых акцёраў, вечаровы прагляд яшчэ аднаго патэнцыйнага лаўрэата прэміі, оперы «Алесі». Затым — вячэра ў актрыс.

Працягваецца гэта і 12 студзеня. Разам са знаёмымі Міхоэлс абедае ў рэстаране, пасля ідзе на некалькі гадзін у гатэль. Але ўвечары іх з Голубавым запрасілі на вяселле інжынера Сяргеева. Інжынер са сваім знаёмым сустракае гасцей на машыне. Міхоэлс і Голубаў сядаюць у аўто.

Раніцай 13 студзеня на недабудаванай трамвайнай лініі па вуліцы Ульянаўскай знаходзяць два целы. Іх апазнаюць проста: у кішэнях ляжаць дакументы. Загінулыя — 57-гадовы Саламон Міхоэлс і 39-гадовы Уладзімір Голубаў.

* * *

Ужо на наступны дзень міністр унутраных спраў БССР Лаўрэнцій Цанава дакладвае Сталіну, што маскоўскія госці загінулі ад наезду грузавога аўтамабіля. У іх пераламаны рэбры, у Міхоэлса зламаны хрыбет. Пра смерць Міхоэлса пад коламі машыны абвяшчаюць па радыё, у газетах з'яўляюцца некралогі. Целы вязуць у Маскву, дзе праходзяць пачэсныя пахаванні.

Маскоўскаму яўрэйскаму тэатру нават прысвойваюць імя Міхоэлса. Праўда, таблічку здымуць ужо ў 1949 годзе. А ў пятую гадавіну смерці рэжысёра — 13 студзеня 1953 года — у газеце «Праўда» Міхоэлса ўпершыню публічна назавуць удзельнікам «змовы сіяністаў». Праз некалькі месяцаў, калі памрэ Сталін, тая ж «Праўда» гэта абвергне, але падрабязнасці смерці — а дакладней, забойства — Саламона Міхоэлса стануць вядомыя нашмат пазней.

* * *

Падрыхтоўка да забойства Саламона Міхоэлса пачалася адразу пасля каманды Сталіна. Планавалася выканаць загад у Маскве, за Міхоэлсам сачылі, але рэжысёр амаль не выходзіў з дому, а калі выходзіў, то заспець яго аднаго было праблематычна. Кватэра Міхоэлса знаходзілася ў будынку тэатра, вывозіць яго адтуль сілай было рызыкоўна, бо ліквідацыя мусіла прайсці ціха і без сведкаў.

Таму дзейнічаць вырашылі ў Мінску. Правядзенне аперацыі Абакумаў даручыў сваёму намесніку Агальцову, начальніку аддзела другога галоўнага ўпраўлення (унутранай выведкі) МГБ СССР Шубнякову і міністру дзяржбяспекі БССР Лаўрэнцію Цанаве.

Разам з Міхоэлсам у БССР адмыслова адправілі Уладзіміра Голубава, які быў інфарматарам спецслужбаў. Акрамя таго, у тым жа вагоне ехалі яшчэ два супрацоўнікі МДБ — на ўсякі выпадак.

У Мінску за Міхоэлсам не сачылі: па-першае, побач з ім амаль увесь час быў Голубаў, а па-другое, хацелі, каб рэжысёр адчуваў сябе ў бяспецы.

Раніцай 11 студзеня Шубнякоў і Агальцоў на машыне прыехалі з Масквы ў Мінск. Сустрэліся з Голубавым, з Цанавам.

Абакумаў настойваў, каб аперацыя была завершана максімальна хутка, таму вырашылі дзейнічаць на наступны дзень.



Вуліца Ульянаўская ў Мінску, 1951 год.

12 студзеня адзін з супрацоўнікаў спецслужбаў пад выглядам «інжынера Сяргеева» пазваніў Голубаву — пра гэта была дамоўленасць загадзя. Але пра тое, што плануецца ліквідацыя Міхоэлса, сексот Голубаў не ведаў. Разам з Міхоэлсам яны пайшлі «на вяселле». У машыне, якая заехала па іх, былі спецслужбісты — старшы лейтэнант Круглоў і той самы Шубнякоў. Апошні і назваўся «Сяргеевым».

Затым паехалі на лецішча Цанавы, у Сцяпянку. Калі прыехалі, перад варотамі Міхоэлса і Голубава прыдушылі, каб яны страцілі прытомнасць. Затым праз Абакумава звязаліся са Сталіным — той пацвердзіў загад на ліквідацыю.



Труну з целам Міхоэлса на Беларускім вакзале Масквы сустракаў натоўп.




Лаўрэнцій Цанава — беларускі Берыя.

Паказальна, што бязлітасна ліквідавалі не толькі Міхоэлса, але і свайго агента.

«Усе члены групы стаялі за некалькі метраў ад цел. Шубнякоў сцвярджаў, што ніколі не прысутнічаў і не хацеў прысутнічаць пры падобным, таму ён павярнуўся, каб сысці ў свой пакой на лецішчы. Але Агальцоў загадаў: «Усім стаяць, як стаялі!» Супрацоўнік дзяржбяспекі цяжкай дубінкай ударыў Міхоэлса і Голубава па галаве. Усё было скончана — кіраўнікі групы сышлі ў дом», — распавядзе пазней падрабязнасці «Коммерсант» са слоў Шубнякова.

Пасля целы перавезлі грузавіком, і адвезлі ў Мінск, дзе выкінулі на вуліцы. Усе ўдзельнікі забойства (акрамя Цанавы) у тую ж ноч вярнуліся ў Маскву.

Цікава, што машыну, якая пераехала целы, спраўная мінская міліцыя знайшла — яна стаяла ў гаражы Міністэрства дзяржаўнай бяспекі, піша гісторык Генадзь Кастырчанка. Але беларускай міліцыі далі зразумець, як трэба расследаваць гэтую справу. У выніку працы па пошуку забойцаў было зроблена нямала — але ўся яна была пустой.

* * *

Забойцы Саламона Міхоэлса ўвосень 1948 года атрымалі за ліквідацыю баявыя ўзнагароды. Цанава — ордэн Чырвонага Сцяга. Палкоўнікі Шубнякоў, Лебедзеў і старшы лейтэнант Круглоў — баявыя ордэны Айчыннай вайны 1-й ступені. Маёры Косыраў і Поўзун — ордэны Чырвонай Зоркі.

Пасля забойства Міхоэлса фактычна і пачалася «Справа Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта». Увосені 1948-га ЯАК распусцілі, але першыя арышты пачаліся яшчэ да роспуску. Афіцыйна пра арышты не паведамлялася — проста знікалі некаторыя людзі яўрэйскага паходжання. Арыштаваных вінавацілі ў здрадзе радзіме, працы на амерыканскую выведку, стварэнні антысавецкага падполля і «буржуазным яўрэйскім нацыяналізме».

Пераслед працягваўся ад 1948 года да 1952. Рэпрэсіі закранулі 125 чалавек. Шасцёра памерлі падчас следства, 23 былі расстраляныя.

Але «Справа ЯАК» перамалола і свайго стваральніка — Віктара Абакумава. У 1951 годзе яго абвінавацілі ў зацягванні следства, сабатажы расследавання «сіяністцкага пытання». Арыштавалі амаль усіх яўрэяў з МДБ — некаторыя падчас катавання паведамілі, што былі з Абакумавым у «сіяністцкай змове». 11 ліпеня 1951 года Віктар Абакумаў быў арыштаваны. Некалькі гадоў яго катавалі, трымалі ў жорсткіх умовах. Пасля смерці Сталіна справа аб сіяністах у МДБ спынілася, але Абакумаў працягваў знаходзіцца за кратамі.

Толькі ў снежні 1954 года адбыўся суд. Але цяпер Абакумава абвінавацілі ў незаконных рэпрэсіях як члена «банды Берыі» і прысудзілі найвышэйшую меру пакарання.

* * *

19 снежня 1954 года Віктара Абакумава расстралялі. Яму было 46 гадоў.

Забойства Саламона Міхоэлса так і не было расследавана. За яго не пакаралі нікога з удзельнікаў. Пасля смерці Сталіна спробу прыцягнуць увагу да забойства зрабіў Лаўрэнцій Берыя, але пасля яго арышту вінаватых не шукалі.

Фёдар Шубнякоў быў арыштаваны па «справе Абакумава», але пасля рэабілітаваны. Працаваў у КДБ, дажыў да 1996 года.

Лаўрэнцій Цанава быў арыштаваны ў 1953 годзе пасля смерці Сталіна, прычым загад на арышт аддаў Берыя — ён абвінаваціў Цанаву ў смерці Міхоэлса. Па іроніі лёсу, пасля арышту Берыі справа змянілася: Цанаву вінавацілі ў тым, што ён быў чалавекам Берыі. Падчас следства ў 1955 годзе Лаўрэнцій Цанава сканаў у Бутырскай турме. Ягоныя слёзныя прашэнні аб памілаванні засталіся без увагі.

Сяргей Агальцоў таксама быў арыштаваны ў сувязі са справай Міхоэлса ў 1953 годзе. Пасля арышту Берыі яго адпусцілі. У 1958 годзе яго выключылі з партыі, пазней пазбавілі звання генерал-лейтэнанта. Памёр Агальцоў у 1976 годзе.

Астатніх удзельнікаў забойства пазбавілі атрыманых у 1948 годзе ўзнагарод.

І ўсё.



Альберт Эйнштэйн і Саламон Міхоэлс.

**Улад Швядовіч**

Піша гісторык
**Зміцер Дрозд.**

# Зніклая казна

## Дэтэктыўная гісторыя з удзелам Суворава, Міцкевіча, Дуніна-Марцінкевіча і яшчэ сіх-тых невядомых

4 лютага споўнілася 210 год ад нараджэння Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Да гэтай даты хочацца расказаць пра штосьці невядомае і незвычайнае з яго біяграфіі. На шчасце, яна далёкая ад канчатковай вывучанасці. А калі падключыць сюды яшчэ і яго сваякоў...

Яны ў Марцінкевіча былі прыкметныя ў маштабах нават еўрапейскіх падзей.

Сярод іх і князь Дзмітрый Кантэмір — апошні нашчадак малдаўскага трона, абвешчаны вар'ятам і зняволены ў Рэвельскай крэпасці, і мітрапаліт Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч — каб яго жыццё апісаць, цэлай кнігі будзе мала.

Сёння ж мы раскажам гісторыю пра стрыечнага дзеда нашага класіка, постаць якога пакуль знаходзіцца ў цені. Хоць падзеі, у якіх ён удзельнічаў, і ролі, якія яму прыпісваліся, у свой час нарабілі шуму.

### Выбары ў акупаванай краіне

Пачнём з падзей і месцаў, якія ніколі не звязваліся з Марцінкевічам — з Барскай канфедэрацыі і яе апошняга бою з расійскімі акупантамі каля мястэчка Сталовічы.

Барская канфедэрацыя стала апошняй сур'ёзнай спробай супрацьстаяць гаспадаранню ў Рэчы Паспалітай расійскіх стаўленікаў. Вяршыняй было прызначэнне на польскі пасад былога каханка Кацярыны II Станіслава Панятоўскага (іх раман адбыўся яшчэ да таго, як яна стала расійскай імператрыцай). Элекцыя (выбары караля) Станіслава Аўгуста праходзіла пад ціскам расійскіх войскаў. Для дэманстрацыі «свабоды выбараў» асноўныя атрады адышлі на тры мілі ад Варшавы, пакінуўшы некалькі тысяч салдат для назірання за парадкам. Калі параўноўваць з сучаснымі падзеямі, то гэта было накшталт крымскага «рэферэндуму».

У такіх умовах, хоць большасць шляхты ненавідзела Панятоўскага, ён быў абраны 5584 галасамі.

Барская канфедэрацыя была абвешчаная ў 1768-м. Канфедэраты стаялі за незалежнасць дзяржавы і вывад з яе тэрыторыі замежных войскаў. Як часта бывае ў падобных рухах, многія кіраўнікі пераследвалі свае мэты, у тым ліку спрабавалі рэалізаваць уласныя прэтэнзіі на трон. Адным з такіх кандыдатаў быў вялікі гетман Вялікага Княства Літоўскага князь Міхаіл Казімір Агінскі.

У ноч на 30 жніўня 1771 года Агінскі раптоўна напаў на Пецярбургскі легіён палкоўніка Албычава, разбіў яго і ўзяў у палон некалькі сотняў рускіх салдат. Канфедэратам даводзілася змагацца і супраць каралеўскіх войскаў, і супраць расійскай арміі. І вырашальная бітва адбылася менавіта пад Сталовічамі.



**Зміцер Дрозд**
Гісторык-архівіст, грамадскі дзеяч, публіцыст, аўтар генеалагічных, гістарычных і мемуарыстычных прац, даследчык біяграфіі Дуніна-Марцінкевіча.

### «Вялікая бітва»

Увечары 11 верасня 1771 года расійскі генерал-маёр Аляксандр Суворaў са сваім атрадам выйшаў з Крошына ў Нясвіж. Аднак па дарозе ён атрымаў паведамленне, што гетман Агінскі позняй ноччу са сваім войскам у 3–4 тысячы чалавек выступіў з Міра ў кірунку Сталовічаў [цяпер — аграгарадок у Баранавіцкім раёне]. Войскі сталі на адлегласці дзвюх міль. Але падобна, што выведка Суворава працавала лепш, Агінскі нават не ведаў пра такую небяспечную блізкасць.

Глыбокай ноччу атрад Суворава прыбыў да мястэчка і пашыхтаваўся ў баявыя парадкі. Рускім не ўдалося падысці таемна: калі яны перапраўляліся па вузкай доўгай гаці праз балота перад Сталовічамі, з мястэчка па іх ударылі гарматы і ружжы канфедэратаў.

Але руськія ўварваліся ў мястэчка з двух бакоў, завалодалі гарматамі. Канфедэраты беглі са Сталовічаў у поле, дзе быў лагер кавалерыі. Там і пяхота, і кавалерыя хутка пашыхтаваліся ў баявыя парадкі.



Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, апошні кароль Рэчы Паспалітай.

У полі адбылося галоўнае сутыкненне. Руския кінуліся ў атаку. Паводле некаторых апісанняў, атрад канфедэратаў з 200–400 чалавек быў абстраляны артылерыяй і гераічна атакаваны 70 рускімі егерамі. Гэтага нібыта аказалася дастаткова, каб войскі Агінскага кінуліся ўцякаць.

«З непрыяцельскага боку ўрон вельмі знатны, — пісаў Суворaў адразу пасля бітвы, — у палон узята: штаб- і обер-афіцэраў 15, лекар адзін, падлекар 1, ксёндз-каплан 1, ніжніх чыноў 273 чалавекі, артылеры з усімі снарадамі — 10 медных гармат вялікіх і малых..., стрэльбаў розных калібраў 327, літаўраў дзве пары, барабанаў 12, пораху 74 пуды 15 фунтаў, свінцу 28 пудоў 10 фунтаў, буздыхан вызалачаны 1.

У палон узятых гетманам Агінскім адбіты легіённага корпусу ніжніх чыноў 435 чалавек, пабіта і на месцы, і наўздагон палкоўніка Албычава, а таксама штаб- і обер-афіцэраў: падпалкоўнік Бітаў, а аб іншых чынах невядома, а ніжніх чыноў ад 400 да 500 чалавек... З нашага боку з... 822 чалавек забіта ніжніх чыноў 8 чалавек, гасударавых коней 31, паранена паноў афіцэраў: ротмістр 1, паручнікаў 2, ніжніх чыноў 35 чалавек».

У гэтым жа рапарце Суворaў пісаў, што гетман Агінскі з'ехаў за мяжу. Цікава, адкуль ледзь не ў дзень завяршэння бітвы ў яго былі гэтыя звесткі? Няўжо былі інфарматары ў найбліжэйшым атачэнні Агінскага?

З кожным новым рапартам значнасць перамогі расла. Ужо 14 верасня Суворaў пісаў М. Н. Крэчэтнікаву з Нясвіжа: «Разбілі гетмана Агінскага, у пяць разоў мацнейшага за нас... Страціў ён усю сваю артылерыю і абозы, сотні з тры ў палоне, куды болей за тое забіта... Гетман рэціраваўся на чужым кані ў жупане, без ботаў, кажуць так!»

Як вынікае з далейшых рапартаў, Агінскі не толькі ганебна збег (па некаторых крыніцах, ён выскачыў з ложка палюбоўніцы, якая засталася пераможцам як трафей), але і кінуў сімвал сваёй улады — гетманскую булаву.

Падобна, што менавіта яна называецца ў пераліку «буздыхан вызалачаны». Булава была камусьці прададзеная, яна прапала. Суворaў адправіў загад адшукаць яе, «бо такія рэчы не інакш належаць, як толькі яго каралеўскай вялікасці польскай — не менш». Польскі ж кароль быў расійскім саюзнікам. Але булаву так і не знайшлі.

### У вялікай бітве загінула... 53 чалавекі

Як піша даследчык Петрушэўскі, 1000 коннікаў канфедэрацкай кавалерыі пад камандаваннем Белякова наогул не ўдзельнічала ў бітве, а з'явілася пазней: «Вялікая частка рускай конніцы кінулася ў праследаванне, сышла далёка наперад, калі раптам з'явіўся канфедэрацкі генерал Белякоў з двума уланскімі палкамі сілаю ў 1000 чалавек, які прыйшоў на дапамогу Агінскаму. Ён змяў кавалерыю, але падаспелі казакі, аднавілі бой, і Белякоў вымушаны быў адступіць».

Напэўна, бітва 70 егераў супраць 1000 уланаў павінна была б выглядаць не менш эпічна за бітву 300 спартанцаў. «Сталовіцкая справа ў падрабязнасцях і лічбах некалькі раздзьмутая пісьменнікамі», — робіць выснову даследчык.

Але бітва мела катастрафічнае значэнне для Барскай канфедэрацыі. Спыніўся прыток новых сілаў, баявыя дзеянні ў ВКЛ скончыліся. 22 студзеня 1772 года паўстанцы зрабілі апошнюю гераічную спробу ўратаваць дзяржаву — занялі Кракаўскі замак. Аднак ад штурму Суворaў, які хацеў перамогі з мінімальнымі стратамі, адмовіўся. Канфедэраты былі заблакаваныя і 12 красавіка 1772 года капітулявалі.

Сталовіцкая бітва практычна адкрыла шлях да першага падзелу Рэчы Паспалітай.

За гэтую перамогу Суворaў быў узнагароджаны ордэнам св. Аляксандра Неўскага. Але неўзабаве да яго ўзніклі пытанні, і ў першую чаргу ад непасрэднага начальніка, камандуючага войскамі Ганса Генрыха Веймарна:

«Вы запэўніваеце, што непрыяцеляў ад 400 да 500 на месцы пабіта... пробашч м. Сталовічы запэўнівае, што ўсяго ім пахавана было 53 чалавекі, у тым ліку 8 з нашага боку».

Заўважым, што звесткі пра страты расійскага боку супадаюць з рапартам самога Суворава, пра які ксёндз наўрад ці мог ведаць. Выходзіць, што насамрэч у «вялікай бітве» пад Сталовічамі загінула 45 канфедэратаў і 8 рускіх, пры вялікім ліку параненых і палонных (да рапарту быў дададзены іменны спіс на 290 палонных, і тут было складана нешта перабольшваць), што выглядае цалкам магчымым.

Большая частка бітвы адбывалася ўпоцемку, гэта значыць, што стральба нават з гармат вялася проста па нейкіх гуках або агнях. Бо ў самім мястэчку мелі характар бязладнай перастрэлкі ў цемры, хаосе і неразбярысе, калі складана адрозніць сваіх ад чужых...

Веймарн папракаў Суворава і тым, што ён не паведаміў яму пра ўсю здабычу. Камандуючага цікавілі не порах, барабаны і амуніцыя, апісаныя Суворавым, а казна Агінскага. Суворaў быў вымушаны апраўдвацца: «Ці былі грошы і колькі, і ім, гетманам, альбо іншым кім... захопленыя і вывезеныя — невядома».

Ці не той самы сталовіцкі ксёндз паведаміў Веймарну пра знікненне казны? Галоўнакамандуючаму не ўдалося давесці справу да суда, бо, як вядома, «пераможцаў не судзяць». Ды і якраз у гэты час Веймарна змяніў больш лагодна настроены да Суворава камандзір — генерал-паручнік Бібікаў.

### 175 кг золата

Пасля перамогі пад Сталовічамі Суворaў з захопленым абозам, палоннымі і параненымі адправіўся ў Нясвіж, а адтуль у Пінск. Там адбылася фантастычная гісторыя, якую падам у пераказе Петрушэўскага:

«У Пінску знаходзіўся галоўны штаб і світа Агінскага, якімі Суворaў і авалодаў... Сустрэўшы на дарозе да Пінска канфедэрацкага афіцэра, які вёз палкавую казну, ён не кранyў грошай і даў яшчэ




Канфедэраты. Карціна Юзафа Хелмоньскага.

**Барская канфедэрацыя**

(1768–1772) — вайскова-палітычная канфедэрацыя Рэчы Паспалітай. Абвешчаная ў мястэчку Бар дзеля абароны ад расійскай агрэсіі. Канфедэраты выступалі супраць караля Панятоўскага, выбранага пад ціскам Расіі. Іх мэтай было аднаўленне незалежнасці дзяржавы, адначасова яны выступалі за захаванне шляхецкай "залатой вольнасці", вяршэнства каталіцкай царквы. Здабылі некалькі вайсковых перамог, але пасля бітвы пад Сталовічамі прыток свежых сіл у канфедэрацыю спыніўся. Апошняй спробай быў захоп Кракаўскага замка. Здаліся пасля месячнай аблогі.

# гетмана Агінскага

афіцэру пропуск для яго і казны да месца прызначэння».

Суворaў цягне з сабой захопленыя канфедэрацкі абоз, ён падлічыў нават варожыя барабаны і ўважыў пораx. А тут, сустрэўшы казну свайго ворага, міласціва дазваляе ёй ехаць далей па прызначэнні? Ці не для таго, каб Агінскі і далей змог плаціць салдатам, купляць зброю, працягваць барацьбу з Расіяй? За такую высакародніасць ва ўсе часы можна было б «загрымець пад трыбунал»!

Ці не гэтай здабычай цікавіўся Ганс Веймарн, не паверыўшы ў гісторыю пра «адпусціў»?

Петрушэўскі, разумеючы ўсю фантастычнасць гісторыі са зніклай казной, абараняе Суворава, спасылаючыся на яго неверагодную сумленнасць: «...асабіста на Суворава падазрэння дапусціць немагчыма, бо ён на сваю долю са здабычы ніколі нічога не браў, ні ў гэтую вайну, ні ва ўсе наступныя». Аднак і яму давялося дадаць: «Лёгка быць можа, што ў адносінах да здабычы ўкраліся тут нейкія злоўжыванні».

А вось далей самае цікавае для нас: «Некаторыя гісторыкі згадваюць яшчэ пра гетманскую казну ў 50 000 чырвонных; аб страчанай казне піша і сам Агінскі, але Суворaў пра яе нічога не ведаў».

Чырвонны злоты — гэта не той, якім разлічваліся ў побыце. Гэта залатая манета, напрыклад дукат. Прыблізная яе вага — каля 3,5 грама чыстага золата. 50 000 чырвонных злотых — гэта 175 кілаграмаў золата. З разліку 30 даляраў за грам — гэта 5 250 000 даляраў на цяперашні курс. У пераводзе ж на тагачасны курс да звычайнага злотага (1 да 18, а пасля і больш) — гэта каля мільёна злотых.

І вось такія грошы бясследна зніклі недзе пад Сталовічамі!

Які ж быў лёс казны вялікага гетмана ВКЛ Міхала Казіміра Агінскага?

Самая пашыраная версія — што яна ўсё ж такі трапіла да рускіх. Напрыклад, пра гэта пісаў ад'ютант Суворава Фукс. Праўда, насуперак сваёй схільнасці да перабольшвання, ён скараціў яе амаль удвая: «Усе коні іх драгунаў дасталіся нашым, так як і многія сцягі, экіпажы і казна з трыццаццю тысячамі чырвонных. Салдаты дзялілі паміж сабою мноства золата і срэбра...» Ён жа паўтарае гісторыю пра сустрэчу з афіцэрам канфедэратаў на пінскай дарозе, які вёз другую частку казны і быў адпушчаны Суворавым.

Хоць гэтая версія не грунтуецца на галоўнай крыніцы — падрабязных рапартах самога Суворава. Яна гэтымі рапартамі якраз абвяргаецца, як мы маглі бачыць вышэй.

Гэтай версіі пярэчыць і такі аўтарытэтны даследчык біяграфіі Суворава, як Петрушэўскі. На пытанне, куды ж прапала казна, ён прапануе свой адказ: «Ці не была гэта тая самая каса, якая нейкі час пазней была знойдзеная ў аднаго капелана разам з паперамі Агінскага і ад яго адабраная?» На жаль, аўтар не пакінуў спасылкі, каб мы маглі зразумець, якую гісторыю ён мае на ўвазе.

Ёсць і трэцяя версія. І выклалі яе... даследчыкі творчасці Адама Міцкевіча.



**Аляксандр Суворaў**

(1730–1800). Расійскі палкаводзец, фельдмаршал. Выйграў вырашальную для лёсу Рэчы Паспалітай бітву пад Сталовічамі. Удзельнічаў у руска-турэцкіх войнах, антыфранцузскіх паходах у Італію і Швейцарыю, разбіў паўстанца Пугачова. За здушэнне паўстання Касцюшкі атрымаў Кобрын і сем тысяч беларускіх прыгонных.

### Чаму Міцкевіча не хрысцілі ў Сталовіцкім касцёле?

Даследчык Адольф Кабылінскі яшчэ мог размаўляць з людзьмі, якія памяталі абставіны нараджэння і хрышчэння нашага класіка. Ён асабіста апытваў у 1838 годзе старога ксяндза Грынашкевіча, які быў пробашчам Задзвейскім і дэканам Сталовіцкім. На пытанне, чаму Адама, які нарадзіўся ў фальварку Завоссе, хрысцілі не ў парафіяльным сталовіцкім касцёле, а павезлі аж у Навагрудак, ён адказаў:

«Тады [у 1798 годзе] святаром у Сталовічах быў айцец Дзюрдзевіч — вельмі непапулярны не толькі ў сваіх вернікаў, але і ва ўсёй акрузе, быў ён вялікім суцяжнікам, судзіўся з усімі. А яшчэ тады была пашыраная чутка, што гетман Агінскі перад бітвай пры Сталовічах пакінуў яму на дэпазіт сваю скрыначку з каштоўнасцямі і золатам. Калі ён прайграў бітву, калі яму прыйшлося бегчы за мяжу, шкатулка гэтая ўжо ніколі не ўбачыла свайго ўладальніка...»

Храмы і манастыры часта выконвалі функцыі банкаў, захоўванне ў іх грошай на дэпазіце было звычайнай з'явай. Вядома, шкатулка (можа, і куфар) — гэта не казна, але не будзем скідаць з рахункаў і гэтую версію. Тым больш, што яна падводзіць да яшчэ аднаго важнага пытання: можа, гэта здрада?

### Ці была здрада?

У сваіх рапартах Суворaў неаднаразова піша: «даставерна апавясціўся», «пачуў раптам найпэўнейшае паведамленне»... — гэта значыць, хтосьці ўвесь час накіроўваў яго і паведамляе аб прасоўванні войскаў Агінскага. Цікава, што войскі канфедэратаў, якія перамяшчаліся па роднай тэрыторыі, нічога не ведалі пра імклівы манеўр Суворава.

Петрушэўскі, які вывучыў дзясяткі крыніц, піша: «У поўнай цішыні набліжаліся рускія да Сталовічаў. Неба было закрытае хмарамі, ноч стаяла чорная; маяком для войскаў служыў агонь пад лесам на манастырскай вежы паблізу Сталовічаў».

І вось гэты маяк на вежы вядомага Сталовіцкага касцёла — што гэта? Для чаго? Ці не знак гэта, спецыяльна запалены здраднікам? І хто мог так свабодна запаліць агонь на вежы касцёла? Успомнім і тое, што ў рапартах Веймарна пастаянна фігуруе нейкі сталовіцкі пробашч — а ім мог быць толькі Валяр'ян Дзюрдзевіч.



Гетман Міхал Казімір Агінскі. Ці не тая самая булава ў яго ў руках?

**Міхал Казімір Агінскі**

(1730–1800). Дзяржаўны і культурны дзеяч ВКЛ, дзядзька Міхала Клеафаса Агінскага. Займаючы пасаду вялікага гетмана ВКЛ, далучыўся да Барскай канфедэрацыі. У 1771 разбіў Пецярбургскі легіён расійскіх войскаў, узяўшы ў палон 500 чалавек. Пасля паразы пад Сталовічамі эміграваў. Пасля амністыі жыў у Слоніме, Вільні, Варшаве. Быў шчодрым мецэнатам, таленавітым кампазітарам і мастаком.

Падазрэнні вакол Дзюрдзевіча, як і чуткі пра яго незлічоныя скарбы, хадзілі ў ваколіцах яшчэ доўга пасля смерці пробашча. Гэта пацвярджае і Грынашкевіч: «Гэтага святара таксама падазравалі, што, атрымаўшы ў свае рукі такі каштоўны дэпазіт, ён таемна паведаміў камандзіру варожага войска пра пазіцыю Агінскага».

Паэт і даследчык творчасці Міцкевіча Леанард Падгародскі-Аколаў, аналізуючы тэкст «Пана Тадэвуша», у 9-й частцы «Бітва» знаходзіць апісанне начнога сутыкнення, калі рускія войскі ўзялі ў палон спячых канфедэратаў. Ён лічыць, што апісанне ўзыходзіць да вядомых Міцкевічу з дзяцінства гісторый пра бітву ў Сталовічах. Прачынаючыся ўжо звязанымі, героі паэмы крычаць:

«Тут здрада!» — роў, і ўслед за ім тым самым складам
Узнялі крык другія: «Здрада! Гвалт! Тут здрада!»…
Хто змог прывесці з вёсак батальён салдатаў?
І хто так хутка засцянкоўцаў тых раскратаў?
Асэсар? Янкель, можа? Розна гаварылі,
Аднак не ведае ніхто да гэтай хвілі…

Апраўдваючы сябе, Агінскі пісаў, што прычынай яго паразы была здрада.

Чаму ж пад падазрэнне трапіў ксёндз Дзюрдзевіч? Ды проста, згодна з вядомым сёння кожнаму следчаму прынцыпам «ідзі па следзе грошай», ксёндз быў неверагодна, невытлумачальна, непрапарцыйна свайму сціпламу становішчу багаты.

### Спадкаемцы

Ксёндз Грынашкевіч паведаміў Кабылінскаму і вельмі важную для нас дэталь: «Што ж тычыцца ксяндза Дзюрдзевіча... дык пры маленькім фундушы, які мела столовіцкая плябанія, ён пакінуў сваім нашчадкам 800 000 злотых».

Удакладню, што свае незлічоныя скарбы Дзюрдзевіч адпісаў на розныя добрыя справы: школы, касцёлы, кляштары — некалькі дзясяткаў падрабязных пунктаў. Але нават у гэтым бачылі яшчэ адзін доказ яго віны — маўляў, спрабуе замаліць перад смерцю грэх! У завяшчанні ён пералічвае дзясяткі сваіх даўжнікоў, якія вінныя былі яму дзясяткі тысяч злотых. Называе ён там і сваякоў.

І ўсё ж такі, прычым тут Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч?

Адказ на гэтае пытанне знаходзіцца ў метрычным запісе аб хрышчэнні ў Слонімскім касцёле Ігната Марцінкевіча — сына Мікалая і Настассі з Дзюрдзевічаў Марцінкевічаў у 1758 годзе.

Так, ксёндз Валяр'ян Дзюрдзевіч канонік Інфлянцкі, протанатарый апостальскі, Сталовіцкі пробашч быў родным братам Настассі Марцінкевіч — дзядзькам Яна, Ігната і Антона Марцінкевічаў. Ян жа быў бацькам класіка нашай літаратуры Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

І менавіта ў багатага дзядзькі Ігнат, якога Дзюрдзевіч у сваім тэстаменце называе наўдзячным, пазычыў у 1793-м годзе на арэнду Старчыцаў 1100 чырвонных злотых, а ў 1795-м узяў яшчэ 600 чырвонных на арэнду маёнтка Новы Двор (усяго 34 000 злотых, і грошы

**Працяг на старонцы 20.**



**Сталовічы**

Аграгарадок у Баранавіцкім раёне. Мястэчка, вядомае з XIV ст. Ад 1609 тут існавала адзіная ў Беларусі камандорыя Мальтыйскага ордэна. У 1643 збудаваны мураваны касцёл, які захаваўся да сёння як праваслаўная царква Св. Аляксандра Неўскага. У 1771 пад Сталовічамі адбылася бітва войскаў Барскай канфедэрацыі пад загадам гетмана Агінскага супраць расійскіх войскаў Суворава. У памяць той бітвы ў Сталовічах стаіць мемарыяльны знак.

# Як дачка партызана змагаецца за правы людзей на Случчыне

**Зінаідзе Цімошак 62 гады. Былую настаўніцу на Случчыне ведаюць сотні людзей. «Каб не Зіна, нічога б не было», — дзякуюць ёй людзі.**

Пасля рэферэндуму 1996 года з цалкам апалітычнага чалавека Зінаіда ператварылася ў грамадскую актывістку. З таго часу яна дапамагла разруліць сотні мясцовых праблем. Навошта яна ўвязалася ў гэтую справу, чаму церпіць рыкашэты ў выглядзе штрафаў і наколькі складана ў адзіночку супрацьстаяць несправядлівасці — у нашым нарысе.



Зінаіда Цімошак.

ВОЛЯ АФІЦЭРАВА

### «Марыла быць марачкай»

Калі была маленькай, марыла стаць марачкай і жыць на беразе мора. У мяне былі хлапчуковыя цікаўнасці: хакей, футбол. Лазіла з аднагодкамі цераз плот. Лялькі з пачаткаў кукурузы таксама былі, але куды радзей за фізічную актыўнасць.

Мой бацька Вячаслаў Іванавіч падчас вайны быў партызанам. У пасляваенныя гады шмат хварэў. Але маці паставіла нас на ногі: гадамі хадзіла ў адной кофце, усё заробленае несла ў дом. Яна — гераіня, дзякуючы якой мы ўпяцёх атрымалі вышэйшую адукацыю і сталі людзьмі.

### «Гаспадыня кватэры ставілася да мяне як да ўласнага дзіцяці»

Пасля размеркавання мяне накіравалі ў вёску Веска Салігорскага раёна. Месца было глухім, з запляваным клубам... Амаль кожны жыхар гнаў самагонку. Але там жылі вельмі добрыя людзі, якія паважалі настаўнікаў. Гаспадыня кватэры ставілася да мяне як да ўласнага дзіцяці. Я, у сваю чаргу, старалася дапамагчы ёй выкапаць бульбу, сабраць яблыкі.

Пасля мы разам з дачкой і мужам [на той момант Зінаіда ўжо выйшла замуж — **Рэд.**] пераехалі ў вёску Гацук, дзе ён працаваў. Пазней па той жа прычыне апынуліся ў пасёлку Вежы Слуцкага раёна, там якраз пабудавалі новыя дамы для чарнобыльскіх перасяленцаў. Прыязджалі дзеці з розным узроўнем ведаў, таму настаўнікі былі запатрабаванымі. Прырода ў гэтых мясцінах вельмі прыгожая, вакол — лес. Мне ў Вежах вельмі падабалася, я б, можа, і працягвала там выкладаць, жыць, каб не прэсінг, што пачаўся з боку мясцовых уладаў.

### «Пасля рэферэндуму 1996 года я не магла заставацца апалітычным чалавекам»

Да 1996 года я была цалкам апалітычнай. У 1994-м у першым туры прагаласавала за Зянона Пазняка. У другім — за Лукашэнку, паколькі тады ў вачах многіх простых людзей ён быў сімвалам перамен. Мы страшэнна памыліліся...

Падчас рэферэндуму 1996 года, як гісторык, я ўжо разумела, што ў выніку галасавання, калі прэзідэнт сапраўды набудзе дадатковыя паўнамоцтвы, мы пераскочым ад рэспублікі да аўтарытарнай сістэмы кіравання. Я не пайшла галасаваць і заклікала рабіць тое ж адна-

# Зніклая казна гетмана Агінскага

Працяг са старонкі 19.

гэтыя амаль усе вярнуў!). Менавіта ў Сталовічах ксёндз Дзюрдзевіч 29 верасня 1792 года пахаваў сваю сястру Настассю Марцінкевіч, памерлую ў веку 95 гадоў, — бабулю Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

Сам Валяр'ян Дзюрдзевіч памёр у веку 89 гадоў 9 лістапада 1798 года і быў пахаваны ў капліцы пад алтаром у Сталовіцкім касцёле, якому ён аддаў больш за 30 гадоў жыцця. Калісці гэта была адзіная ў Беларусі рэзідэнцыя Мальтыйскага ордэна, а цяпер — звычайная праваслаўная царква.

Не ведаю, ці захавалася там магіла ксяндза — наўрад ці. Сам Дзюрдзевіч быў цалкам забыты, і выдаткаваныя ім на дабрачыннасць сотні тысяч злотых не дапамаглі яму здабыць вечнага добрага імя ў нашчадкаў.

### Спроба атрымаць спадчыну

Яшчэ у 1824-м годзе маёр расійскіх войскаў Станіслаў Сестранцэвіч, былы прэзідэнт Бабруйскага земскага суда Каспер Кельчэўскі і адвакат таго ж суда Каспар Клецкі, прызначаныя апекунамі над малалетнімі Вінцэнтам і Аленай Марцінкевічамі, працягвалі шукаць спадчыну, якая засталася дзецям ад Валяр'яна Дзюрдзевіча. На той момант іх доля складала ўсяго 110 чырвонных злотых.

Але скарбы Дзюрдзевіча сапраўды існавалі, і нават больш: яны ўсплылі чароўным чынам ужо ў XX стагоддзі.

21 лютага 1912 года газета «Кур'ер Варшаўскі» пісала ў артыкуле «Нявыкарыстаны фундуш»: «Памерлы ў Віленскай дыяцэзіі ксёндз Валяр'ян Валянцін Дзюрдзевіч у сваім запавеце, датаваным 18 лістапада 1798 года, запісаў між іншымі 40 000 польскіх злотых (6 000 рублёў) на будаўніцтва пры касцёле ў Буйвідах, у Віленскім павеце, прытулку для чатырох сясцёр міласэрнасці і капліцы пры тым прытулку для хворых. У выпадку, калі б сёстры не пагадзіліся з гэтым памяшканнем, грошы павінны былі выкарыстоўвацца на ўтрыманне ўрача або фельчара для лячэння бедных. Паколькі мажнасці не згадзіліся жыць у Буйвідскім касцёле, а Віленская духоўная кансісторыя — на пабудову капліцы пры касцёле, гэты пункт запавету застаўся нявырашаным. Першапачатковы капітал павялічыўся да 14 студзеня бягучага года да 79 230 рублёў...»

Грошы было вырашана выдаткаваць на будаўніцтва бальніцы для бедных.



November.
Die 9. Ejusdem Mensis & Anni – Mortuus est ...
Swoto- Valerianus Dziurdziewicz Canonicus Livon. Protho-Nota-
wicze. rius Apostolicus – Annor. vitae 89. Munitus Sacramentis
Sepultus in Caemeterio Parochial. Swotoviciensi –
Idem

Запіс пра скон Валяр'яна Дзюрдзевіча. Адшукаў Зміцер Юркевіч. Публікуецца ўпершыню.

### Ці вінен Дзюрдзевіч?

Сталовіцкая бітва не была грандыёзнай па сваіх маштабах, але мела катастрафічнае значэнне для Вялікага Княства Літоўскага — наступным крокам пасля прызначэння на трон расійскага стаўленіка Станіслава Панятоўскага сталі падзелы дзяржавы, пасля якіх з карты Еўропы знікла некалі Рэч Паспалітая абодвух народаў.

Ці быў вінаваты ў паразе ксёндз Дзюрдзевіч? Думаю, адказ на гэтае пытанне мы ніколі не атрымаем. Хутчэй, вінаватыя былі ўсе, хто дзеля грошай, урадаў, маёнткаў або іншай выгады ці праз баязлівасць не стаў на абарону сваёй радзімы перад замежным агрэсарам.

Нам жа гэтая гісторыя дае магчымасць у 210-ы дзень нараджэння нашага класіка Вікенція Дуніна-Марцінкевіча ўваскрасіць у нашай свядомасці новую цікавую асобу — ксяндза Валяр'яна Дзюрдзевіча.

А хто ведае: можа, і схаваная яшчэ недзе пад Сталовічамі казна гетмана Агінскага?

вяскоўцаў у Вежах. Сама расклейвала ўлёткі і выразкі з газеты «Ізвестія», дзе быў артыкул Аляксандра Старыкевіча пра тое, што на Беларусь ідзе фашызм. Памятаю, як любімую скураную куртку тады ўсю запэцкала клеем.

Я хацела павесіць копію газеты і ў школе, дзе знаходзіўся выбарчы ўчастак, але ён ахоўваўся міліцыяй. Чакала-чакала, думала, можа, з'едуць, а пасля наўпрост падышла да міліцыянта і патлумачыла, што і чаму хачу зрабіць. Ён мне тады сказаў, што ў іх ёсць устаноўка не дапускаць распаўсюду ўлётак, але наконт артыкулаў з газет інструкцый не было. Маёр спецыяльна ад'ехаў на некалькі хвілін, а я «зрабіла» сваю чорную справу.

Зразумела, што я не пайшла на галасаванне. У восем гадзін вечара, калі яно скончылася, выпіла 50 грамаў гарэлкі. Было адчуванне, нібы я знаходжуся на паніхідзе па будучым краіны. Патэлефанавала сябру, таксама настаўніку гісторыі: ён рабіў тое ж самае, што і я — «хаваў краіну».

Але трагедыю разумелі далёка не ўсе. Тыя ж аднавяскоўцы былі «за моцнае кіраванне». А чаго яшчэ ім было хацець, калі раней у школе вывучалі толькі марксізм-ленінізм, калі яны жылі ў замкнёнай прасторы, амаль у лесе? Таму пакаленню ніхто не тлумачыў, што існуюць розныя тыпы дзяржаўнага кіравання, не гаварыў, куды яны могуць завесці. Да таго ж наш народ прывык, што яго заўсёды некуды вядуць. Спачатку быў цар, пасля — Ленін-Сталін, партыя, цяпер вось «бацька»...

### «Мая грамадская актыўнасць прачнулася, калі жорстка парушылі правы жыхароў нашай вёскі»

Вежы — пасёлак для чарнобыльскіх перасяленцаў. Па законе яны мелі права бясплатна прыватызаваць свае кватэры і дамы. Але ім не дазвалялі. І людзі, якія паважалі мяне як настаўніцу і прынцыповага чалавека, прыйшлі да мяне па дапамогу. Мне і самой трэба было прыватызаваць кватэру, таму я адразу выступіла з адкрытым забралам і пайшла на прыём да дырэктара саўгаса. Спытала, чаму ў яго такая пазіцыя. У прыватнай размове ён патлумачыў, што баіцца. Маўляў, пасля прыватызацыі людзі не будуць працаваць у калгасе, а пазбягаюць на заробкі ў Маскву ці Мінск.

Мы сабралі сотні подпісаў, прайшлі праз суды, Адміністрацыю прэзідэнта і Міністэрства па прыватызацыі. Менавіта памочнік міністра па прыватызацыі дапамог вырашыць справу на нашу карысць. Праўда, гэта каштавала мне шасці месяцаў жыцця. Але пасля гэтай гісторыі мясцовы народ пачаў давяраць мне, казаць, што, «каб не Зіна, нічога не было б».

### «Як я ахапіла юрыдычную базу? Па-рознаму, да таго ж цяпер ёсць гугл»

Пасля таго, як я дапамагла аднавяскоўцам з прыватызацыяй, да мяне пачалі звяртацца па дапамогу і іншыя людзі, нават са Слуцка. З тых часоў я актыўна дапамагла ў вырашэнні сотні спрэчных пытанняў.

Сёння ўсе паліцы ў мяне заваленыя выразкамі з законаў, артыкулаў, судовых працэсаў. Дзесьці ўдалося лаву паставіць, дзесьці — замяніць стаяк каналізацыі, адрамантаваць пад'езд, дзіцячую пляцоўку. Кагосьці аднавілі на працы, камусьці вярнулі гарачую ваду...


Каля помніка Анастасіі Слуцкай.

**Зінаіда Цімошак**

Нарадзілася ў вёсцы Аксаміты, што ў Капыльскім раёне Мінскай вобласці. Сёння яна прыязджае туды як на лецішча: пасядзець ля вогнішча, паглядзець на зоркі, набрацца моцы і расслабіцца. Даглядае свае 35 сотак і некалькі чужых, каб там не раслі асот і крапіва. Працуе з пілой, касой, матыкай і вырошчвае кветкі.

Скончыла ў суседнім Грозаве сярэднюю школу, пасля паступіла ў педінстытут.

Бацькі Зінаіды і большасць сваякоў былі настаўнікамі, таму яе лёс у гэтым плане быў перадвызначаны. Уявіце: з пяці дзяцей у сям'і чацвёра працягнулі дынастычную справу. Як прыгадвае сама Зінаіда, «калі збіраліся разам, выходзіла нейкая настаўніцкая канферэнцыя».

З 1978 па 2006 год настаўнічала ў вясковых школах: вучыла замежным мовам, выкладала гісторыю і курс «Чалавек і свет». Амаль на працягу ўсяго гэтага перыяду паралельна займалася грамадскай дзейнасцю — гэта ў нейкай ступені стала прычынай, па якой яна сышла з любімай школы раней, чым хацелася.

Былі часы, калі я мэтанакіравана вывучала заканадаўства. Набывала зборнікі законаў, вывучала кодэксы. Хадзіла ў гарадскую бібліятэку, дзе быў аддзел прававой дапамогі. Але наша заканадаўства вельмі хутка мяняецца, таму цяпер я не купляю кніжкі з законамі, а шукаю іх у інтэрнэце. У сур'ёзных сітуацыях раюся з вядомымі праваабаронцамі.

### «Праблема беларусаў у тым, што яны не ведаюць сваіх правоў, нашых законаў і не спрабуюць разабрацца»

Нядаўна я была ў вёсцы Радзічы Слуцкага раёна: з кранаў цячэ гнілая вада, амаль чорная, электрычныя слупы даўно пагнілі, вось-вось паваляцца. Вёска быццам забытая Богам. Пасля такой экскурсіі я паехала да начальніка райаддзела МНС і запыталася: «Няўжо ў вас праверак не было? Хіба вы не бачылі, як у Радзічах людзі жывуць?» А ён стаў апраўдвацца: «Ніводнай скаргі адтуль не паступала». Дык, значыцца, жыхароў той вёскі сапраўды ўсё задавальняе, раз яны нават не тэлефанавалі ніводнага разу?

Цяпер, канечне, я стараюся не адразу бегчы на дапамогу, а спачатку падказаць чалавеку, як і што ён можа зрабіць сам. І ўжо калі ў яго не атрымліваецца, а праблема сапраўды сур'ёзная, — падключаюся.

### «На пошту мне пачалі прыходзіць ананімныя пагрозы»

Самы моцны прэсінг пачаўся пасля таго, як я падпісала «Хартыю-97» [«Хартыя-97» — грамадская ініцыятыва накшталт чэшскага дакумента «Хартыя-77», якая мела на мэце аднавіць народаўладдзе. Пад тэкстам дакумента падпісаліся тысячы беларусаў — **Рэд.**] і разам са мной тое зрабілі 75 аднавяскоўцаў.

А пасля пра гэта надрукавалі ў «Народнай волі». Людзі, якія ўсё жыццё ціха-мірна збіралі грыбы і ягады ў лесе, займаліся хатнімі справамі, упершыню ў жыцці нешта падпісалі — і ў вёску адразу прыязджае пракуратура, КДБ... Кіраўніцтва ў шоку і шукае тых, хто зняславіў раён. Я ў той сітуацыі ўзяла ўсю адказнасць на сябе.

Пасля гэтага скандалу мне на пошту пачалі прыходзіць ананімныя пагрозы: «Ты — *ука, узбунтавала народ! Мы цябе закапаем, і ніхто не знойдзе тваю магілу!». Быў 1998 год, а мне прыйшлося пачынаць у абдымку з сякерай.

Натуральна, такую настаўніцу, што не раз стаяла на чале антыпрэзідэнцкай выбарчай кампаніі, неаднаразова хацелі звольніць са школы і спецыяльна праводзілі дадатковыя праверкі. Але я сваіх дзяцей да экзаменаў рыхтавала ажно з 1 верасня, таму мы іх паспяхова вытрымлівалі. Пазней я вырашыла па выслузе гадоў сысці сама: каб праз маю актыўную пазіцыю не пакуталі іншыя настаўнікі. Пераехала з Вежаў у Слуцк.

### «Усе гэтыя цяжбы каштавалі мне здароўя, але я па натуры не магу маўчаць»

Ужо гадоў пяць мяне мучыць сур'ёзная хвароба. Па словах доктаркі, адным з фактараў, што правакуе гэтае захворванне, можа быць стрэс. Доктарка ўвогуле дзівіцца, як я яшчэ жыву і рухаюся з такой дзейнасцю. Патрэбна спакойнае жыццё, але па натуры я не магу прайсці міма бяды, таму ўсё адно працягваю хадзіць па судах. Цяпер вось дапамагаю адной няшчаснай маці, сына якой, хутчэй за ўсё, пасадзілі незаконна.

### «Случчына магла за сябе пастаяць»

Гісторыя паказвае, што Случчына магла за сябе пастаяць. Пра гэта сведчыць тое, як наш народ адбіваўся ад татараў пад кіраўніцтвам Анастасіі Слуцкай. Расіяне тут таксама не гаспадарылі. Ёсць сведчанні, што навучэнцы слуцкай гімназіі разам з настаўнікамі ўдзельнічалі ў паўстанні Кастуся Каліноўскага. Акрамя таго, Случчына заўсёды лічылася заможнай, урадлівай зямлёй, таму натуральна, што ў 1920-м годзе менавіта тут быў антысавецкі і антырасійскі Слуцкі збройны чын. Слуцкія сяляне не хацелі, каб у іх забіралі заробленае.

### «Я не змагаюся, я проста жыву згодна са сваімі поглядамі»

Раней я марыла, што аб'ядную неабыякавых людзей і мы разам створым раду горада, якая будзе кантраляваць дзейнасць чыноўнікаў. Але многія не хочуць бачыць нічога далей за сваю хату. Яны з радасцю атрымліваюць дапамогу ў вырашэнні сваіх спраў, а пасля працягваюць жыць сваім жыццём.

Цяпер я магу сказаць, што ні за што не змагаюся, а проста жыву згодна са сваімі поглядамі і раблю тое, што магу.

Днямі я размаўляла з маладзёнамі, якія займаюцца дабрачыннасцю, дапамагаюць як хворым дзеткам, так і бяздомным жывёлам, птушкам. Прапанавала аб'ядноцца, каб разам стварыць сквер для адпачынку ў раёне вуліцы Будаўнікоў. У прынцыпе, яны не супраць, але глыбей глядзець ці не хочуць, ці не могуць. У некаторых праблемах вінаватыя выключна мясцовыя ўлады. Працуе прынцып: «Цар у нас добры — баяры дрэнныя».

### «Хачу, каб стаўленне да беларускай мовы змянілася на пазітыўнае»

Да канца свайго жыцця я планую рэалізоўваць праект пад умоўнай назвай «Мы случчане — мы беларусы». Мне б вельмі хацелася змяніць адносіны да беларускай мовы: калі не размаўляеш на ёй сам, то хаця ж не грэбуй людзьмі, якія гэта робяць. Страшна, калі ў банку наведніца кажа мне, што ненавідзіць беларускую мову.

У прыватным жыцці я не заўсёды была беларускамоўнай, бо гэта напружвала маіх знаёмых. Але ў школе выкладала па-беларуску. У Слуцку ж не хапае людзей, з якімі можна размаўляць на роднай мове.

Складана ўкладаць людзям у галаву, што гэта — сваё, роднае, калі ў Слуцку няма ніводнай беларускамоўнай школы, а беларуская мова выкладаецца як замежная. Але мы спадзяёмся, што ў нас атрымаецца зладзіць тут моўныя курсы для ўсіх ахвотных. Пакуль няма памяшкання, таму мы вымушаныя збірацца на кватэрах і ладзіць сустрэчы выключна для знаёмых.

*Гутарыла Кацярына Карпіцкая, фота Волі Афіцэравай*

# Мінадукацыі адказвае Ганне Севярынец: Каб патлумачыць вучням вершы Кляшторнага, давядзецца выкарыстоўваць выраз «хадзіць пад мянтамі»

**Міністэрства адукацыі не абышло ўвагай адкрыты ліст настаўніцы Ганны Севярынец «Чаму ў праграмах «Барадзіно» ёсць, а «Пахне чабор» няма?», апублікаваны на сайце «НН», і даслала ў Рэдакцыю адказ.**

Ліст быў адпраўлены з электроннай пошты *presstsentr@mail.ru* і падпісаны «Пресс-служба МО». Ён не мае выходнага нумара, подпісу службовай асобы і пячаткі.

Прэс-сакратар Міністэрства адукацыі Людміла Высоцкая пацвердзіла карэспандэнту «Нашай Нівы», што адпраўляла адпаведны ліст у Рэдакцыю. Яна ўдакладніла, што ў ім прыводзіцца «афіцыйная пазіцыя прэс-службы Міністэрства адукацыі».

Прыводзім тэкст ліста ў перакладзе на беларускую мову:

«5 студзеня сайт NN.by размясціў матэрыял «Настаўніца рускай мовы накіравала адкрыты ліст міністру адукацыі», у якім эмацыйна крытыкуецца школьная праграма па беларускай літаратуры.

Акрамя агульных разваг на тэму нацыяналізму і нацыябудаўніцтва, у рэзалютыўнай частцы ліста прапануюцца нейкія «вострa неабходныя меры» ў колькасці шасці. Напрыклад, апошнім пунктам у праграму па беларускай літаратуры прапануецца ўключыць наступных аўтараў: Адама Бабарэку, Алеся Дудара, Уладзіміра Жылку, Тодара Кляшторнага, Юлія Таўбіна.

Асобныя прадстаўнікі гэтага спісу, названыя «бліскучымі беларускімі паэтамі еўрапейскага ўзроўню», выклікаюць некаторыя пытанні.

У прыватнасці, у прапанаванага да ўключэння ў праграму паэта Т. Кляшторнага верш «Пі, цыганка» (фрагмент паэмы «Калі асядае муць», 1928 г.) па форме мае лагерную (блатную) накіраванасць:

— Не зважай, любімы, чарнавокі,  
Хай рыхтуюць молайцу пятлю...  
Ходзім мы пад месяцам высокім,  
А яшчэ — пад ДПУ.  
— Так, цыганка,  
Шкадаваць аб некім,  
Так!  
За пятак зарэзаў чалавека,  
За пятак...  
Пазаўчора маці каля будкі  
З залатым Ісусам на грудзёх  
Адвяла сястру у прастытуткі...  
...жыццё!..  
Падымайце куфлі за гарэзы  
І за новы труп...  
Сёння маці родную зарэжу  
І сястру... (фрагмент)

Можна, вядома, палічыць выбар гэтага верша тэндэнцыйным з нашага боку, аднак радок «ходзім мы пад ДПУ», вырваны з кантэксту, у 2017 годзе цытаваўся практычна на ўсіх апазіцыйных сайтах як «самы вядомы радок з ягонай паэзіі» разам з абавязковай прыпіскай аб тым, што «за паэтам сачыла НКУС».

У той жа час поўная версія верша кажа пра тое, што большая частка тых, хто піша ў інтэрнэце пра беларускую літаратуру, не мае пра яе ўяўлення.

З пункту гледжання настаўніка адзначым, што дзіцяці вельмі складана растлумачыць выраз «хадзіць пад ДПУ» — для гэтага, верагодна, прыйдзецца выкарыстаць аналагічнае дэкласаванае арго «хадзіць пад мянтамі», што недапушчальна ў навучальным працэсе. Мы таксама ўпэўненыя, што метады і прынцыпы аператыўна-вышуковай дзейнасці варта вывучаць у спецыялізаваных навучальных установах, а не ў сярэдніх школах, а падобную літаратурную спадчыну — самастойна, а не па патрабаванні школьнай праграмы.

Што да іншых персаналій, згаданых у матэрыяле — А. Бабарэкі, А. Дудара, У. Жылкі, Ю. Таўбіна, А. Мрыя, — то ўсе яны былі асуджаныя ў 1933—1938 гадах, пра што аўтар, мабыць, свядома замоўчвае ў публікацыі.

Такая выбіральнасць у густах выглядае двухсэнсоўна. Характэрна, што да стагоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі ў апазіцыйнай прэсе актыўна культываваўся міф аб нейкай «расстралянай», «забароненай бальшавікамі», «ліквідаванай камуністамі» і г.д. беларускай літаратуры — працягам гэтай інфармацыйнай кампаніі, відавочна, і з'яўляецца адкрыты ліст да міністра адукацыі.

Хочацца нагадаць, што абсалютная большасць літаратараў тых гадоў уваходзіла ў ВКП(б) і з'яўлялася камуністамі па поглядах, што ігнаруецца пры напісанні нейкіх сенсацыйных артыкулаў пра іх жа. У той жа час шэраг беларускіх паэтаў, празаікаў і журналістаў былі забітыя на франтах Вялікай Айчыннай вайны або пакараныя органамі СД і гестапа, памерлі ад голаду ці ў канцэнтрацыйных лагерах у перыяд нямецкай акупацыі. Аднак іх асабістыя трагедыі практычна не выклікаюць цікавасці ў апазіцыйных колаў і сайтаў, што кажа аб пэўнай тэндэнцыйнасці.

Таму ўяўляецца, што паказаная падборка аўтараў, прапанаваных да ўключэння ў праграму, фармавалася не на падставе нейкіх літаратурных густаў, а, хутчэй, у піку палітычным поглядам міністра адукацыі, а таму носіць асобаснае адценне.

Што ж тычыцца публічнага абмеркавання значнасці тых ці іншых твораў, то практыка ўручэння т.зв. незалежных літаратурных прэмій, прызавы фонд якіх складаецца з замежных валютных сродкаў, паказвае, што ні адно штогадовае ўзнагароджванне не абыходзіцца без вострай палемікі ў апазіцыйнай прэсе і ўзаемных абраз у сацыяльных сетках. Нам уяўляецца, што апазіцыйная супольнасць практычна не здольна прыйсці да кансэнсусу, незалежна ад прадмета абмеркавання, а таму любая ацэнка школьнай праграмы нейкімі «экспертамі» ператворыцца ў яшчэ адно пакутлівае калектыўнае літаратурнае піяр-мерапрыемства.

Адзначым таксама, што палеміка аб адукацыі ў апазіцыйных СМІ з году ў год абмяжоўваецца зменай праграмы па літаратуры і пашырэннем сферы ўжывання беларускай мовы.

Дзве гэтыя дзяжурныя тэмы дэманструюць, па-першае, што людзі, якія абмяркоўваюць адукацыю, ад актуальных праблем адукацыі вельмі далёкія; па-другое, у наяўнасці нізкі парог уваходжання ў спрэчку: для таго, каб абмяркоўваць, «пахне чабор» альбо «не пахне», не патрабуецца ніякіх дадатковых ведаў і падрыхтоўкі. (Дарэчы, паведамляем паважанай Г. Севярынец, што яе інфармацыя не дакладная: гэты верш П. Броўкі са школьнай праграмы не выключаўся.)

Наша здзіўленне выклікае і заклік Г. Севярынец вывучаць польскую і ўкраінскую мовы (а чаму не латышскую і літоўскую?), бо гэта «мовы суседзяў», неабходныя для «інтэграцыі ў агульнаеўрапейскую прастору». Калі настаўнік не разумее, што руская мова вывучаецца не як мова суседняй дзяржавы, а як другая дзяржаўная, то гэта досыць яскрава сведчыць аб яго кампетэнтнасці (у тэксце Ганны Севярынец гаворка вядзецца пра польскую і ўкраінскую літаратуру, а не мову — **Рэд.**).

Хочацца таксама нагадаць, што рэпрэсіям 1937—1938 гг., пра якія да месца і не да месца ўспамінаюць апазіцыйныя сайты, папярэднічала шматгадовая актыўная практыка напісання калектыўных даносаў, якіх асобныя беларускія літаратары тых гадоў склалі не менш, чым мастацкіх твораў.

На жаль, творчыя колы таго часу, як і асобныя прадстаўнікі цяперашняй інтэлігенцыі, мелі некаторыя праблемы з карпаратыўнай этыкай і вырашалі свае мастацкія спрэчкі з дапамогай апеляцый да партыйных і нават сілавых структураў. Менавіта падобныя даносы (часцяком у форме выкрывальнага артыкула ў прэсе) і станавіліся пасля доказнай базай для сфабрыкаваных абвінавачванняў пры парушэнні законнасці ў следчай працы.

Таму рэкамендуем не паўтараць памылак папярэднікаў і не вызначаць літаратурную каштоўнасць тых ці іншых твораў праз ціск і напісанне адкрытых лістоў ні многа ні мала — ад імя «краіны, народа, вучняў і настаўнікаў». Рэальна гэтыя лісты не адлюстроўваюць нічога, акрамя пераацэнкі аўтарам уласнай значнасці».

# Міністэрства адукацыі сцвярджае, што не выключала «Пахне чабор» з праграмы. Гэта праўда?

«Наша Ніва» атрымала адказ з прэс-службы Міністэрства адукацыі на адкрыты ліст настаўніцы рускай мовы і літаратуры са Смалявіч Ганны Севярынец, у якім яна акрэсліла недахопы школьнай праграмы па беларускай літаратуры.

Ганна Севярынец, сярод іншага, раскрытыкавала выключэнне верша «Пахне чабор». Але Міністэрства адукацыі гэты факт адмаўляе: «Дарэчы, паведамляем паважанай Ганне Севярынец, што яе інфармацыя не дакладная: гэты верш Петруся Броўкі са школьнай праграмы не выключаўся».

Мы прагледзелі сёлетнія праграмы па беларускай літаратуры для 10—11 класаў як для вывучэння прадмета на базавым узроўні, так і для вывучэння на павышаным. Ні там, ні там «Пахне чабор» не ўзгадваецца.

На базавым узроўні школьнікі вывучаюць вершы Броўкі «Будзем сеяць, беларусы!», «Надзя-Надзейка», «Родныя словы», «Александрына» і «А ты ідзі».

На павышаным — тое самае, але ўключаны таксама верш «Вось і лета сышло...» і паэма «Голас сэрца».

То бок у праграме верша «Пахне чабор» сапраўды няма, хоць настаўнікі сцвярджаюць: раней яго дакладна вывучалі.

Іншая справа, што і ў школьнай праграме за 2012 год гэтага верша няма. І ў праграме за 2009 год яго таксама няма. Спіс для вывучэння быў такім жа, як і цяпер.

Як нам паведамілі настаўнікі, у інструктыўна-метадычным лісце па сёлетніх зменах у праграмах 10 класа гаворыцца толькі пра тое, што не будзе разглядацца верш Максіма Танка «Авэ Марыя» і апавяданне Максіма Гарэцкага «Родная карэнне», яно перанесена ў спіс для дадатковага чытання.

Тым не менш, пытанні да Міністэрства адукацыі застаюцца: калі «Пахне чабор» знік з праграмы, чаму было прынята рашэнне выключыць яго і чаму б верш зноў не зрабіць абавязковым для вывучэння?



Пятрусь Броўка.

# Мінскі настаўнік — Міністэрству адукацыі: Кляшторны вам не такі з-за аднаго верша? А як жа мацерныя вершы Пушкіна?

Прачытаў феерычны адказ Міністэрства адукацыі «Нашай Ніве» і Ганне Севярынец з дзіўнага мэйла *presstsentr@mail.ru* і бачу, што наша міністэрства — гэта не зборышча малаадукаваных прыстасаванцаў, а высокапрафесійныя ненавіснікі Беларусі, якія будуць ненавідзець яе за нашы бюджэтныя грошы і прыкладуць усе магчымыя высілкі, каб гэтай Беларусі не было.

І бачу, што не адным Лазуткіным абышоўся наш міністр Карпенка, калі перацягнуў да сябе ў міністэрства адкрытых і латэнтных камуністаў.

Людміла Высоцкая, прэс-сакратар міністэрства, піша, што немагчыма ўключыць у курс літаратуры Тодара Кляшторнага, таму што ў яго... ёсць верш пра лагер з адпаведнай («блатной») лексікай.

Дык а што, у яго час не кідалі людзей ні за што ў савецкія лагеры? І што, акрамя гэтай паэмы ён не напісаў ну зусім нічога? Ці за адзін неадпаведны школьнай праграме верш аўтара ўжо можна адразу выкрэсліваць?

«Мне бы женщину — белую, белую
Ну а, впрочем, какая разница.
Я прижал бы ее с силой к дереву —
И в задницу, в задницу, в задницу».

Гэта Ясенін, таварышы. Той, чыім іменем вуліцы ў нас называюць (канешне ж, ён сапраўды выдатны паэт, без сарказму). І гэта самы лёгкі прыклад — пагугліце, колькі мацерных вершаў напісалі Пушкін, Лермантаў, Някрасаў і іншыя. Дык давайце і іх выкраслім з праграмы!

«Я вас любил...» — цудоўны верш класіка, але ж ён акрамя гэтага пісаў: «А шутку не могу придумать я другую, Как только отослать Толстого к х...» Дык і Пушкіна прыбярыце! Дарэчы, колькасць гадзін на Аляксандра Сяргеевіча ці не большая за ўсю колькасць гадзін, адведзеных на вывучэнне ўсёй сусветнай літаратуры. І так, калі нам трэба добра ведаць літаратуру таго рэгіёна, дзе знаходзіцца Беларусь, то чаму мы амаль нічога не вывучаем з украінскай ці польскай літаратуры? (Л. Высоцкая сказіла гэтае пытанне і не дала аніякага адказу па сутнасці.)

Ці чаму замест Хемінгуэя ці Маркеса мы працягваем некалькі ўрокаў запар зубрыць гэтае самае «Барадзіно»? Напалеонаўская вайна — гэта трагедыя для рускага народа, няхай яны па ёй і стогнуць. Для нашых краёў гэта была надзея на вызваленне ад расійскай акупацыі з канца XVIII стагоддзя. Заўважце, у нас нават у народнай вуснай творчасці толькі і робяць, што складаюць пра Напалеона легенды і ганарацца тым, што ён быццам бы спыняўся ў іх вёсцы. А вось тое, што зрабіла ў нас Расія пасля адступлення французскай арміі, — вось гэта наша сапраўдная трагедыя. Таму пакіньце зубрыць «Скажи-ка, дядя, ведь не даром...» расійскім школьнікам.


Міністр адукацыі Ігар Карпенка, прэс-сакратарка ведамства Людміла Высоцкая і работнік прэс-цэнтра Андрэй Лазуткін.

У адказ на крытыку наша міністэрства адзінае, што можа прапанаваць, — гэта запусціць карную машыну. Пасля майго мінулага допісу ў ліцэй, дзе я працую, канечне ж, тэлефанавалі, і не думаю, што гладзілі па галоўцы. Ліцэй за мяне заступіўся, але разумею, што бясконца заступацца ніхто не зможа. Таму, калі хочаце, палохайце і далей, але ў мяне падрастаюць дзеці, і я не хачу, каб з іх беларуская школа расціла тых, хто будзе ненавідзець усё беларускае.

І не хачу, каб яны лічылі, што толькі руская літаратура — адзіная і найлепшая ў свеце, а беларусы няздольныя стварыць нічога, акрамя апавяданняў пра жыта, калгасы і кабанчыкаў. Бо ў такім выпадку проста не будзе нашай Беларусі і, дарэчы, не будзе нашага Міністэрства адукацыі з усімі яго чыноўнікамі.

**Віктар Малышчыц**

# Ганна Севярынец пра адказ Мінадукацыі: Гэта дыскрэдытацыя сістэмы, татальнае невуцтва

**Ганна Севярынец** у інтэрв'ю радыё «Свабода» пракаментавала адказ з Мінадукацыі на яе прапановы.



— Гэта нейкі неверагодны тэкст па ўзроўні ведаў, якія дэманструюцца, і па ўзроўні абагульненняў, якія там робяцца. Нам, настаўнікам, часцяком даводзіцца чуць такія рэчы, якія, на жаль, дэманструюць татальнае невуцтва. Таму смешна, ну што зробіш.

**— Вы ў сваім адкрытым лісце ніводнага разу не згадалі пра апазіцыю. Чаму, як вы думаеце, Мінадукацыі згадвае гэта слова літаральна ў кожным абзацы?**

— Я не ведаю. Мне наагул крыўдна, бо я працую ў гэтай сістэме, і Міністэрства адукацыі — гэта той орган, да якога я стаўлюся з павагай: і таму, што я супрацоўнік гэтай сістэмы, і таму, што ў міністэрстве працуе шмат людзей, якіх я ведаю і паважаю. Таму такі ўзровень дыскрэдытацыі і сістэмы, і... наагул, якую трэба мець сярэднюю адукацыю, каб напісаць, што ГПУ і, як аўтар ліста адказвае, «мянты» — гэта адно і тое ж! ГПУ і міліцыя — гэта ж розныя рэчы. Проста трэба ведаць гісторыю. Таму я не ведаю, чаму яны так напісалі.

**— Паводле Міністэрства адукацыі, дзецям будзе вельмі складана патлумачыць выраз «хадзіць пад ДПУ», што давядзецца выкарыстаць аналагічнае дэкласаванае арго «хадзіць пад мянтамі».**

— Па-першае, Тодар Кляшторны напісаў крыху болей, чым проста два радкі пра ДПУ. І ў мяне нават у галаве іх не было, калі я ўключала прозвішча Кляшторнага ў шэраг тых паэтаў, якіх трэба вярнуць. Я не думала, што трэба вывучаць паэму «Калі асядае муць». Гэта, канечне, не школьная паэма. Але калі трэба, дзецям усё можна патлумачыць. Яны ж не дурныя.

**— У лісце Мінадукацыі фактычна адмаўляецца факт сталінскіх рэпрэсій, ідзе гаворка пра «міф аб нейкай «расстралянай», «забароненай бальшавікамі», «ліквідаванай камуністамі» і г.д. беларускай літаратуры».**

— Гэта адзіны момант у лісце, які выклікае ў мяне не смех. Я зараз якраз працую з дакументамі ў тым кірунку, каб разбурыць вось гэты міф, што паэты і пісьменнікі, як там сказана, паздавалі самі сябе. І бальшавікі дапамаглі толькі тым, што яны іх расстралялі пасля даносаў.

Гэта такі страшны, несправядлівы і такі крыўдны міф, які прапагандуецца і насаджваецца — што не было ніякіх рэпрэсій, а былі толькі даносы адзін на аднаго і што яны самі сябе загналі ў гэтую пастку.

Цалкам зразумела, для чаго гэта робіцца. Гэта такі перавод стрэлак. І тое, што гэты міф зноў пачынае гучаць, нават прыкрываючыся Міністэрствам адукацыі, — гэта вельмі небяспечна для нас усіх. Таму тут жарты жартамі, але вось гэты момант трэба неяк праясняць. А значыць, трэба ўзмацніць адукацыйную, асветніцкую працу. Трэба гэтым людзям патлумачыць, што было насамрэч. Знайсці нейкія да іх падыходы. Бо мне шкада тых людзей, якія знаходзяцца ў пастцы гэтага міфу.

**— У лісце гаворыцца, што, мабыць, падборка аўтараў, прапанаваных да ўключэння ў праграму, фармавалася «ў піку палітычным поглядам міністра адукацыі».**

— Я не ведаю, што гэта азначае. Па-першае, я не ведаю поглядаў міністра адукацыі, мы з ім ніколі не размаўлялі. І я зусім не разумею, дзе погляды Алеся Дудара ці Уладзімера Жылкі не тое што «ў піку», а дзе яны сутыкаюцца, перакрэсліваюцца з поглядамі сучаснага міністра, які жыве 100 гадоў пасля. Бо Дудар быў камсамольцам, Кляшторны быў камсамольцам і ваяваў у Чырвонай Арміі, Міхась Зарэцкі быў камуністам. То чаму ў піку? Гэтыя людзі, асабліва ў першыя гады сваёй творчасці, стаялі абсалютна на тым жа грунце, на якім, як я думаю, напэўна, стаіць міністар адукацыі, які належаў да кампартыі. Гэта зусім аднолькавыя погляды, калі ўжо так казаць.

**— Але ці можа, як вынікае з ліста, Міністэрства адукацыі аперавацьнейкімі палітычнымі поглядамі міністра пры абмеркаванні школьнай праграмы? Ці сам міністр?**

— Канечне, не. Дык ён жа імі і не аперуе. Гэта ж аперуюць гэтыя безыменныя людзі, якія нават не падпісалі гэты ліст. Там няма ні імя, ні пасады. Гэты ліст з шэрагу — пракоціць, значыць, пракоціць. А калі не пракоціць, то няма з каго спытацца. Таму гэта такая дыскрэдытацыя ўсіх тых, хто працуе ў міністэрстве. Я не ведаю, як зараз будуць глядзець у вочы ўсім астатнім людзі, якія там насамрэч паважаныя, якія ведаюць літаратуру і гісторыю. І там такія людзі ёсць.

**— Мінадукацыі піша, што верш «Пахне чабор» не выключаўся са школьнай праграмы.**

— Гэта месца з ліста, якое абнадзейвае. Значыць, яны гэты верш ціхенька назад уключаць. Канечне, перад тым, як пісаць ліст, я праверыла праграму, каляндарна-тэматычнае планаванне, звярнулася да настаўнікаў беларускай літаратуры, бо я выкладаю рускую. Я пісала не беспадстаўна. Але я думаю, што магчымасці ёсць. І калі сёння «Пахне чабор» ціхенька, але вернецца ва ўсе гэтыя месцы, я буду толькі шчаслівая.



**З'явіўся праект пабудовы бізнэс-цэнтра на месцы знесенага музея вайны на Кастрычніцкай плошчы. Задума выклікала шквал крытыкі ў інтэрнэце. Будынак называюць безгустоўным і безаблічным...**



**...У адказ маладыя мінскія архітэктары з майстэрні Level 80 Architects прапанавалі свае, альтэрнатыўныя варыянты.**



**95 гадоў споўнілася народнаму мастаку Беларусі Леаніду Шчамялёву. Ён нарадзіўся ў 1923-м у Віцебску Шагала і Малевіча, ваяваў у Другую сусветную, быў цяжка паранены падчас вызвалення Беларусі. Больш за паўстагоддзя Шчамялёў у мастацтве. Яго карціны можна пабачыць у Нацыянальным мастацкім музеі і Траццякоўскай галерэі. Яны створаныя ў непаўторнай, пазнавальнай манеры.**





**22-гадовы Ілай Дзягілеў дайшоў да фіналу жаночага конкурсу прыгажосці, пасля чаго прызнаўся, што ён мужчына.**
**Жыхар Алма-Аты Дзягілеў працуе мадэллю. Ён зрабіў жаночую прычоску, макіяж і даслаў свае фоты для ўдзелу ў конкурсе Miss Virtual Kazakhstan. Назваўся ён пры гэтым Арынай Аліевай з Шымкента.**
**Усяго ў конкурсе бралі ўдзел прыкладна 4000 дзяўчат. У фінал прайшлі толькі дзесяць, у тым ліку Ілай. Больш за тое, яго здымкі набралі найбольш галасоў.**
**Сам хлопец кажа, што вырашыў узяць удзел у конкурсе ў заклад з сябрамі.**
**Ілай тлумачыць, што хацеў таксама звярнуць увагу на гонку за штучным хараством, калі, кажа ён, многія дзяўчаты аднатыпныя, усе на адзін капыл фарбуюцца і апранаюцца. Ён з такім падыходам не згодны і лічыць, што прыгожае ўсё тое, што індывідуальна.**



## Анекдоты і жарты

На экзамене.
— Прывядзіце прыклад знаходжання фізічнага цела ў двух агрэгатных станах адначасова.
— Ноўтбук ляжыць на стале, і ён завіс!
* * *
— Што яшчэ, Пятро?
— Атэісты прыйшлі, Ойча!
— Скажы ім, што Мяне няма.
* * *
Узімку я прачынаюся вельмі рана, на світанні.
* * *
— Кепска, калі пуста.
— У сэрцы?
— У халадзільніку!
* * *
— А дзе будзе праходзіць Алімпіяда?
— У Пхёнчхане.
— Будзьце здаровыя! А дзе будзе праходзіць Алімпіяда?

## «НН» 111 гадоў з вамі

**З горада Беластока Гродзенскай губерні нам пішуць смутныя рэчы.** Рабочым вельмі цяжка пераносіць крызіс, каторы ўжо шмат гадоў цягнецца. Дагэтуль у Беластоку было найбольш фабрык ва ўсім нашым краі, і прыгатаўлялі яны тавараў штогод на шэсць мільёнаў рублёў. А цяпер без мала нічога з іх не асталося. З большых фабрык працуе яшчэ толькі пяць, дык вельмі многа рабочых сядзяць цяпер без хлеба – нават і тыя, што зараблялі раней 2 рублі ў дзень.

**«НН». №3. 1908**

**Анатоль Ярмоленка: «Менск і Мінск» — песня года.** Разважаючы пра найлепшую песню мінулага года, спявак вагаўся паміж J:Морс і N.R.M. Але ў выніку аддаў перавагу песні «Менск і Мінск» апошніх.

**«НН». 8 лютага. 2008**

З глыбокім смуткам мы развітваемся з **Міхалам Анемпадыставым**, чалавекам шматлікіх талентаў, вялікай постаццю беларускай культуры, сапраўдным сябрам Польшчы.

Калектыў Польскага Інстытута ў Мінску

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
в. а. галоўнага рэдактара Ягор Аляксандравіч Марціновіч
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Зміцер Панкавец, Настасся Роўда, Андрэй Скурко
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220004, Мінск, а/с 62
Tel/fax: (017) 316-48-13, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


12 палос фарматам А2, 6 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у Аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» код BLBBBY2X.
Наклад 3001. Газета выдаецца 12 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 06.02.2018.
Замова 538.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
9 771819 161008 18002